

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 27 студзеня 1989 г. № 4 (3466) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## *ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*



*Як ужо ў «ЛіМе» паведамлялася, беларускія пісьменнікі вылучылі на сваім агульным сходзе 3 студзеня кандыдатам у народныя дэпутаты СССР Васіля Уладзіміравіча Быкава. Далейшыя падзеі пацвердзілі беспамылковасць выбару. На другой стадыі вылучэння, г. зн. на пленуме праўлення СП СССР, які праходзіў у Маскве 17—19 студзеня, В. Быкаў паспяхова вытрымаў даволі сур'ёзную канкурэнцыю (у агульным, усесаюзным спісе было каля 90 імён, на адзін мандат прэтэндавалі, такім чынам, 9 чалавек), заняў адразу месца ў групе лідэраў па колькасці атрыманых галасоў і вылучаны кандыдатам у дэпутаты разам з Л. Ляонавым, В. Распуціным, А. Ганчаром, С. Залыгіным, Ю. Марцінкявічусам і некалькімі іншымі прадстаўнікамі шматнацыянальнай савецкай літаратуры.*

*Тут трэба яшчэ дадаць, што наш народны пісьменнік вылучаўся таксама кандыдатам у народныя дэпутаты на пленуме Саюза кінематаграфістаў СССР.*

# Помнік на Кастрычніцкай плошчы

## Грамадскае абмеркаванне праектаў

18 студзеня ў памяшканні інстытута «Мінскпраект», дзе праходзіць выстаўка конкурсных праектаў помніка барацьбітам за Савецкую ўладу, адбылося іх грамадскае абмеркаванне. Усяго прадстаўлена 16 праектаў. Па архітэктурнай прывязцы яны падзяляюцца на тры групы. Праекты першай групы прапаноўваюць ствараць мемарыял на месцы Аляксандраўскага сквера. Найбольш «ашчадныя» да існуючага асяроддзя прадугледжваюць знос толькі гранітнай трыбуны і балюстрады. Больш «радыкальныя» ідуць далей (у дадзеным выпадку — глыбей): прапануюць прабіць па цэнтры сквера шырокую прасеку, упрыгожыць яе з двух бакоў мноствам бюстаў, такім чынам «адкрыць від» з плошчы на будынак ЦК КПБ. Праекты другой групы прывязаны да плошчы Свабоды, да гістарычнага Верхняга горада, хоць слова «прывязаны» ў дадзеным выпадку недакладнае: аўтары ігнаруюць той факт, што гэта зона — запаведная, што плануецца адбудова архітэктурных дамінантаў Верхняга горада, што прывязка тут чаго-небудзь будзе не дарэчы.

Праекты абедзвюх груп на абмеркаванні былі названы «амаральнымі». Больш сур'ёзную ўвагу прыцягнулі праекты, якія мемарыял размяшчаюць перад будучым Палацам рэспублікі. Такое рашэнне, дарэчы, дазволіць хоць крыху «ажывіць» вонкавы выгляд палаца.

У праектах помнікаў былі прапановы ўзвесці шматузроўневую прасторавую кампазіцыю, а таксама даволі традыцыйныя абеліскі і чырвоны сцяг з паліраванага граніту. Але не яны выклікалі зацікаўленасць. Найбольшую колькасць станоўчых ацэнак сабраў, як сведчыць кніга водгукаў, праект, пазначаны ў экспазіцыі нумарам 13. Гэты ж праект быў прызнаны найбольш вартым і на грамадскім абмеркаванні.

Аўтары прапануюць устанавіць на адносна невысокім пастаменце шматфігурную кампазіцыю, якая б сімвалізавала непарыўную сувязь розных этапаў барацьбы беларускага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Вялікі Кастрычнік не супрацьпастаўляецца ўсёй папярэдняй гісторыі, а разглядаецца як яе лагічны працяг. Паўстанцы Касцюшкі і Каліноўскага побач з героямі рэвалюцый 1905 і 1917 гадоў—такая ідэя помніка. Важны вобразны элемент кампазіцыі—звон, сімвал народнага веча.

Калі гэтая праектная прапанова будзе афіцыйна зацверджана, спіс канкрэтных асоб, чые выявы ўвойдуць у мемарыял, будзе ўдакладняцца грамадскасцю.

Выстаўка праектаў будзе працаваць да 30 студзеня.

**НАШ КАР.**

# Пастанова Савета Міністраў Беларускай ССР

### Аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937—1941 гадоў у лясным масіве Курапаты

Разгледзеўшы матэрыялы і вывады ўрадавай камісіі аб устанаўленні фактаў масавых расстрэлаў людзей у лясным масіве Курапаты ў перыяд рэпрэсій 1937—1941 гадоў, зыходзячы з важнасці раскрыцця гістарычнай праўды аб падзеях мінулага і ўлічваючы думку шырокай грамадскасці, Савет Міністраў Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Прыняць прапановы ўрадавай камісіі аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій і ўзвядзенні помніка.

2. Міністэрству культуры БССР, Дзяржбуду БССР, Мінскаму гарвыканкому сумесна з Саюзам архітэктараў БССР, Саюзам мастакоў БССР і Беларускім рэспубліканскім аддзяленнем Савецкага фонду культуры правесці адкрыты конкурс на праект помніка і ўпарадкаваннеляснога масіву, а таксама распрацаваць неабходную праектную дакументацыю.

3. Дзяржплану БССР і Дзяржбуду БССР унесці прапановы аб арганізацыі ўзвядзення помніка ахвярам рэпрэсій.

Міністэрству фінансаў БССР сумесна з Міністэрствам культуры БССР прадставіць у Савет Міністраў БССР прапановы аб фінансаванні затрат, звязаных з правядзеннем конкурсу і ўзвядзеннем указанага помніка.

4. Урадавай камісіі прадоўжыць работу. Прэзідыуму Акадэміі навук БССР арганізаваць усебаковае вывучэнне прычын і вынікаў масавых рэпрэсій трыццатых-саракавых і пачатку пяцідзесятых гадоў у Беларусі.

5. Выдавецтву «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» ажыццявіць падрыхтоўку і выпуск спецыяльнага выдання з мэтай увекавечання памяці ахвяр рэпрэсій перыяду трыццатых - саракавых і пачатку пяцідзесятых гадоў у рэспубліцы.

**Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР**
**М. КАВАЛЁЎ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Беларускай ССР**
**Л. МАКСІМАЎ.**

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

## ўрадавай камісіі, створанай рашэннем Савета Міністраў БССР ад 14 чэрвеня 1988 г.

У састаў урадавай камісіі былі ўключаны: Мазай Н. М. — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР (старшыня камісіі); Тарнаўскі Г. С. — Пракурор БССР (першы намеснік старшыні камісіі); Андрэеў А. Я. — старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў вайны і працы (намеснік старшыні камісіі); Бязручка Т. М. — рабочая вытворчага аб'яднання «Інтэграл», намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР; Белая М. П. — дэпутат Бараўлянскага сельскага Савета народных дэпутатаў; Быкаў В. У. — народны пісьменнік БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы; Данілаў Г. І. — загадчык аддзела адміністрацыйных органаў Мінскага абкома Кампартыі Беларусі; Дулаў А. В. — загадчык кафедры крыміналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, доктар юрыдычных навук, прафесар; Даргель В. Б. — намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома; Каравай У. С. — старшыня Вярхоўнага суда БССР; Кішкурна П. П. — намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома; Караткоў В. І. — ваенны камісар БССР; Кавалёў В. А. — першы намеснік міністра ўнутраных спраў БССР; Недзяляй І. С. — загадчык аддзела адміністрацыйных органаў Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў БССР; Осіпава М. Б. — Герой Савецкага Саюза, удзельніца Мінскага камуністычнага падполля і партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны; Савіцкі М. А. — народны мастак СССР; Семянкоў В. І. — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар юрыдычных навук, прафесар; Сікорскі П. П. — старшыня Мінскага райвыканкома; Чарвякоў Д. І. — Герой Сацыялістычнай Працы, токар вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна; Чыгрынаў І. Г. — пісьменнік, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры; Шыркоўскі Э. І. — першы намеснік старшыні КДБ БССР.

Да работы ўрадавай камісіі былі прыцягнуты вучоныя Акадэмій навук СССР і Беларускай ССР, Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, спецыялісты Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі (г. Ленінград), Беларускага філіяла Саюзгіпралясгаса, Навукова-даследчага інстытута судовых экспертыз Мінюста БССР, Мінскай лесапаркавай гаспадаркі, абутковага аб'яднання «Прамень», супрацоўнікі органаў пракуратуры, юстыцыі, унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі, аховы здароўя, дэпутаты Саветаў народных дэпутатаў, прадстаўнікі грамадскасці, сродкі масавай інфармацыі.

Работа камісіі выклікала шырокую грамадскую цікавасць. Аб гэтым сведчаць шматлікія звароты ў камісію і рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі грамадзян, якія пражываюць не толькі ў рэспубліцы, але і ў іншых рэгіёнах краіны.

Работа камісіі асвятлялася ў друку, па радыё і тэлебачанню.

У сваёй дзейнасці камісія выкарыстала наяўныя архіўныя дакументы, заключэнні экспертыз, матэрыялы крымінальнай справы, узбуджанай Пракуратурай БССР па факту выяўлення пахаванняў ва ўрочышчы Курапаты.

Пры даследаванні лясного масіву Курапаты ўстаноўлена, што на плошчы каля 30 гектараў ёсць 510 мяркуемых пахаванняў.

Урадавай камісіяй было прынята рашэнне аб правядзенні выбарчай эксгумацыі мяркуемых пахаванняў. Да ўдзелу ў раскопках, праведзеных па археалагічнай методыцы, прыцягваліся спецыялісты - археолагі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, судовыя медыкі, крыміналісты, дэпутаты Мінскага раённага і Бараўлянскага сельскага Саветаў. Пры эксгумацыі выяўлены чалавечыя астанкі, асабістыя рэчы і іх фрагменты.

У экспертных і іншых установах праведзена 38 судовых экспертыз па даследаванню 3.080 аб'ектаў, выяўленых у пахаваннях, у тым ліку ў Рэспубліканскім бюро судова-медыцынскай экспертызы Міністэрства аховы здароўя БССР ажыццёўлена 5 комплексных экспертыз па даследаванню касцявых астанкаў.

У навукова-даследчым інстытуце судовых экспертыз Мінюста БССР выканана балістычная экспертыза знойдзеных гільз і куль, праведзена 18 крыміналістычных экспертыз па фрагментах абутку, манетах, рэштках адзення, іншых прадметах асабістага ўжытку.

Экспертамі Гандлёва-прамысловай палаты БССР праведзена таваразнаўчая экспертыза выяўленых рэчаў, якія маюць маркіровачныя абазначэнні.

У Акадэміі навук БССР ажыццёўлены лазерны аналіз асобных даследуемых аб'ектаў.

У выніку праведзенай работы камісія ўстанавіла наступнае:

Эксгумаваныя з месц пахавання астанкі належаць не менш чым 356 чалавекам. На большасці чарапоў выяўлены агнястрэльныя пашкоджанні ў патыліцы і скронева-цемяннай частцы.

Знойдзеныя гільзы і кулі з'яўляюцца часткамі патронаў да рэвальвера «наган» і пісталета «ТТ». Гэтыя гільзы і кулі выраблены ў СССР у 1928—1939 гадах.

На некаторых асабістых рэчах і прадметах абутку, якія найбольш захаваліся, ёсць маркіроўка ў выглядзе фірменных знакаў і надпісаў.

Даследаванне выяўленых у магілах фрагментаў адзення, абутку, іншых прадметаў і асабістых рэчаў дае падставу меркаваць, што сацыяльны састаў расстраляных быў даволі шырокім.

Зыходзячы з таго, што ў сярэднім у кожнай з эксгумаваных магіл знойдзены касцявыя астанкі, якія належаць 50—60 чалавекам, можна зрабіць вывад аб пахаванні ў лясным масіве Курапаты не менш як 30 тысяч грамадзян. Устанавіць больш дакладную іх колькасць к цяперашняму часу не было магчымым.

Як сцвярджалі відавочцы (55 чалавек), расстрэлы пачаліся ў 1937 годзе і працягваліся да лета 1941 года. Участак лесу, дзе рабіліся пакаранні смерцю і праводзіліся пахаванні, быў абнесены агароджай у 1937—1938 гадах. У час фашысцкай акупацыі лес быў высечаны, а агароджа разабрана. Паводле заключэння спецыялістаў, узрост дрэў, якія зноў выраслі на месцах пахаванняў, складае ад 35 да 46 гадоў.

У архівах Мінюста, КДБ, МУС і Пракуратуры БССР, сюзных органаў матэрыялаў і дакументаў, што адносяцца да падзей у Курапатах, не знойдзена.

Азнаямленне з практыкай афармлення архіўных дакументаў, у тым ліку і крымінальных спраў на асоб, рэпрэсіраваных у 1937—1941 гадах, паказала, што органы НКУС не складалі дакументаў з указаннем месц расстрэлаў і пахаванняў.

Камісіяй прымаліся меры па выяўленню былых работнікаў НКУС БССР, якія прымалі ўдзел у 1937—1941 гадах у расследаванні спраў так званых «ворагаў народа». Вывучэннем архіўных крымінальных спраў на рэабілітаваных у 1950—1960 гадах грамадзян выяўлена звыш 40 прозвішчаў такіх работнікаў. Як устаноўлена, многія з іх у перыяд рэпрэсій былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і расстраляны.

Так, Малчанаў Г. А., 1897 года нараджэння, які быў наркомам НКУС БССР з 28.11.36 па 04.02.37 года, прыгавораны да вышэйшай меры пакарання 2 лістапада 1937 г.

Берман Б. Д., 1901 года нараджэння, працаваў на той жа пасадзе з 04.03.37 па 22.05.38 года, 22 лютага 1939 г. прыгавораны да расстрэлу.

Наседкін А. А., 1897 года нараджэння, які з'яўляўся наркомам НКУС БССР з 22.05.38 па 17.12.38 года, 25 студзеня 1939 г. прыгавораны да пакарання смерцю.

Цанава Л. Ф., 1900 года нараджэння, на названай пасадзе з 17.12.38 па 30.10.51 года, 12 кастрычніка 1955 г. у сувязі з расследаваннем супраць яго крымінальнай справы пакончыў жыццё самагубствам.

Камісія ў выніку аналізу наяўных матэрыялаў прыйшла да вываду, што ў 1937—1941 гадах у лясным масіве Курапаты органамі НКУС праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян.

Устанавіць асобы загінуўшых, канкрэтныя матывы пакаранняў смерцю і асоб, якія выконвалі прыгаворы і рашэнні несудовых органаў у 1937 — 1941 гадах, пакуль не з'яўляецца магчымым.

Урадавая камісія ўнесла прапановы ў Савет Міністраў БССР аб увекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій 1937—1941 гадоў, пахаваных у лясным масіве Курапаты.

Камісіяй прызнана таксама неабходным даручыць:

Міністэрству культуры БССР сумесна з Саюзам мастакоў БССР, Саюзам архітэктараў БССР і Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду культуры правесці адкрыты конкурс на праект помніка.

Дзяржбуду БССР, Міністэрству культуры БССР, Мінскаму гарвыканкому сумесна з Саюзамі мастакоў і архітэктараў БССР распрацаваць праектную дакументацыю на ўзвядзенне помніка і ўпарадкаванне тэрыторыі лясного масіву.

Міністэрству культуры БССР сумесна з Міністэрствам фінансаў БССР унесці прапановы аб фінансаванні затрат, звязаных з правядзеннем конкурсу і будаўніцтвам указанага помніка.

Камісія ўнесла таксама і іншыя прапановы.

Урадавая камісія прадаўжыць сваю работу па пошуку архіўных дакументаў і матэрыялаў, што адносяцца да падзей у Курапатах, а таксама сведак з мэтай устанаўлення асоб загінуўшых, канкрэтных матываў пакаранняў смерцю і асоб, якія іх ажыццяўлялі.

Камісія зноў звяртаецца да ўсіх грамадзян, якім што-небудзь вядома аб гэтых і іншых трагічных падзеях, інфармаваць урадавую камісію або Пракуратуру БССР.

## *Паэзія*

**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**



### *Перабудова*

Як цяжка быць палітыкам!
Перабудова сарвала чорную
хустку з воч,
Але замкнула вусны
На закадзіраваны замок
галоснасці.

Як цяжка быць генералам!
Ваенныя дактрыны —
мяняюцца,
Узбраенні—скарачаюцца.
А так хацелася стаць
маршалам!

Як цяжка быць вучоным!
Абяцалі ледзь не рай зямны.
Завялі ледзь не ў пекла.
Супакойваюць:
Было б яшчэ горш, каб не
яны,
Такія разумнікі.

Як цяжка быць гаспадарнікам!
Пакуль будавалі, ніжнія
вянцы струхлелі.
Замяніць іх? Узводзіць новы
гмах?
А дзе ліміты? Дзе фонды?

Як цяжка быць рабочым!
Тыя, што з энтузіязмам
падганялі:
«Давай, давай»,
Зараз абвінавачваюць
У тэхнічнай непісьменнасці.

Як цяжка быць селянінам!
Трэба накарміць усіх:
Палітыкаў,
Генералаў,
Вучоных,
Гаспадарнікаў,
Рабочых,
Худобу ўласную і саўгасную,
Адправіць дзяцей у школу,
А пасля ўжо сесці самому
за стол
З лыжкай,
Канструкцыя якой не мянялася
На працягу тысячагоддзяў.

## *ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*

# ЯК СТАЦЬ ПАЛІТЫКАМ

**ХРОНІКА АДНАГО ВЫЛУЧЭННЯ**

СКАЖУ ШЧЫРА: калі я даведаўся, што калектыў Белдзяржпраекта збіраецца вылучыць кандыдатам у народныя дэпутаты СССР акцёра Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктара Манаева, першая рэакцыя была — здзіўленне. Хоць што тут неверагоднага? Закон аб выбарах дазваляе працоўнаму калектыву вылучыць па тэрытарыяльнай выбарчай акрузе любога яе жыхара. Тым не менш — сітуацыя неардынарная. І таму вырашыў абавязкова пабываць на сходзе.

*Пераступіўшы парог* Белдзяржпраекта, адразу пераканаўся, што спяшацца з якімі б то ні было высновамі не варта. На маё пытанне да работніка адміністрацыі — дзе тут праводзіцца сход па вылучэнні кандыдата ў дэпутаты?— прагучаў даволі нервовы адказ: «Ніякага вылучэння, чуеце? Будзе творчая сустрэча з акцёрам. Су-стрэ-ча! Вы зразумелі?» Сустрэча дык сустрэча. Не зразумела толькі, чым выклікана такая неадэкватная рэакцыя? Віктар Манаеў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, сапраўды карыстаецца папулярнасцю і прызнаннем. Вядомасць прынеслі яму і выступленні ў друку, у прыватнасці — нядаўні артыкул у «Советской культуре» «Давайце займацца палітыкай». Аўтар яго, між іншым, пісаў: «Пасля... маіх артыкулаў у маладзёжным друку па ўратаванні гістарычнага цэнтра Мінска, праблемах роднай мовы, крытыкі ў адрас ЦК ЛКСМБ на пленуме давялося чуць іранічныя рэплікі: *ці не новая гэта роля* В. Манаева, ці не даніна модзе.

Хачу адказаць з поўнай акрэсленасцю: калі такая мода прыжывецца — мода на ўласнае меркаванне, — скажу: нарэшце!»

НА НАСТРОІ людзей, якія *сабраліся пасля работы* ў актавай зале, адчувалася, што яны чакаюць усё ж большага, чым творчая сустрэча. Нарэшце аб'яўляюць — зараз адбудзецца знаёмства з магчымым кандыдатам у дэпутаты. Перад калектывам выступіць Віктар Манаеў. А потым слова будзе прадастаўлена кандыдату ў дэпутаты філосафу і журналісту Анатолю Майсеню. Вось дык сюрпрыз! Значыць, нас чакае нешта накшталт сапраўдных перадвыбарных дэбатаў?

Майсеня, як і Манаеў, актыўна *выступае ў друку*. Відаць, многія прачыталі яго артыкул «Чаму я вылучаю сваю кандыдатуру» ў газеце «Комсомольская правда». У артыкуле, дзе, па сутнасці, выкладаецца перадвыбарная платформа А. Майсені, гаворыцца, у прыватнасці: «Мая «звышзадача» — даказаць усім ходам сваёй выбарчай кампаніі, што існуе разумная альтэрнатыва разведзеным па полюсах палітычным крайнасцям. Гэтая альтэрнатыва ляжыць у рэабілітацыі разважнага сэнсу, у палітычным рэалізме, успрыманні палітыкі як мастацтва магчымага».

Строга кажучы, з фармальнага боку Майсеня Манаеву — не сапернік. Калектыў рэспубліканскага эксперыментальнага маладзёжнага цэнтра ЦК ЛКСМБ ужо вылучыў А. Майсеню кандыдатам па Мінскай Фрунзенскай нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе. А Мана-

## З пошты «ЛіМа»

# ● СТРАСЦІ ВАКОЛ ТЭЛЕВІЗАРА ● СУМНІЦЕЛЬНЫЯ ПРЫЁМЫ ● «ЧАКАЙЦЕ, ВАМ ПІШУЦЬ...»

□

**Падзяляюся** сваімі думкамі ў сувязі з вывучэннем пытання аб устанаўленні даты штогодняга Дня памяці. У Беларусі захаваліся розныя даўнія традыцыі памінання нябожчыкаў. Памінкі праводзіліся, як вядома, не толькі адразу пасля пахавання нябожчыка, але і на «траціны» (трэці дзень пасля пахавання), «дзевяціны», «паўсарачыны», паўсюдна на «шасціны» ці «саракавіны» («сарачыны», «саракапуст», «саракі» — пасля шасці тыдняў ці сарака дзён), на «паўгодкі», на «гадавіны». У сувязі з гэтым існуюць спецыяльныя абрады.

У дадзеным выпадку нас найбольш цікавяць тыя традыцыі памінання, якія праводзяцца кожны год. А гэта — «Дзяды» («Бабы»), «Радаўніца», «Задушкі».

Згодна царкоўнаму каталіцкаму календару, Задушны дзень ці дзень Усіх святых праводзіцца 1 лістапада, другі — вясною. Праваслаўны каляндар вылучае Мясапусную суботу перад Вялікаднем, Радаўніцу — аўторак пасля вялікоднага тыдня, Траецкую суботу і інш. Дні іх залежаць ад Вялікадня, які праводзіцца вясной у розныя непастаянныя тэрміны. Але існуюць і даўнія традыцыі «Дзядоў», якія не ўсе супадаюць з царкоўнымі памінкамі.

Калі размова ідзе пра вызначэнне нейкага агульнага дня памяці, то я прапанаваў бы засяродзіць увагу на двух такіх днях. Адзін з іх, на маю думку, павінен быць вясною, калі абнаўляецца прырода і неабходна дагледзець магілкі пасля зімы. Народны каляндар такога пастаяннага дня не дае. Па сутнасці, вясною такім днём памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны ўжо стала 9 Мая.

Другі такі дзень нацыянальнай памяці, на маю думку, павінен быць у адзін з традыцыйных восеньскіх дзён, калі неабходна таксама прыбраць на зіму магілкі. Як паказвае нам народны каляндар, гэта лістапад, адна з дзядоўскіх субот (дарэчы, вольны ад работы дзень): Асяніны (Змітраўка) ці Асеннія (Міхайлаўскія) дзяды. Яны найбольш папулярныя ў народзе. Таму прапаную асенні нацыянальны дзень памяці праводзіць 1 лістапада.

Наданне афіцыйнага статуса асенням «Дзядам», як даўняму звычаю беларусаў, з'явіцца важным актам павагі да нацыянальных пачуццяў тутэйшага насельніцтва і яго гісторыі, развіцця самасвядомасці народа.

**А. ЛОЗКА,**
**супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

□

**Хачу расказаць** пра адну вострую сацыяльную праблему, пра тое, як яна «вырашаецца» зараз на нашым заводзе. Складваецца такое ўражанне, што нашы гарадскія ўлады не могуць функцыяніраваць без таго, каб пра іх «дзейнасць» не гаварылі ў рэспубліцы, не пісалі ў цэнтральнай прэсе. Яшчэ не аціх рэзананс, выкліканы падзеямі 30 кастрычніка, як на чарзе новаўвядзенне, аб якім гаворыць увесь горад. На прадпрыемствах пачалося размеркаванне тавараў бытавога прызначэння на 1989 год.

Аказваецца, што ў дэфіцыце адзначаных тавараў вінаватыя не іх вытворцы, не гандаль, не адказныя таварышы, а, напрыклад, Сідараў, якому вылучылі тэлевізар ці пральную машыну. Сыплюцца ўзаемныя абразы. Аказваецца, Сідараву-ветэрану час паміраць, а не думаць пра каляровы тэлевізар, а маладажонам Івановай і Пятрову трэба было спачатку яшчэ раз добра падумаць, дзе яны будуць мыць пялёнкі, перш чым ствараць сям'ю.

Бушуюць страсці, ствараюцца грамадскія камісіі па праверцы наяўнасці гэтых тавараў у кватэрах прэтэндэнтаў... Людзей можна зразумець: яны без цяжкасцей падлічылі, што пры такім размеркаванні большасці рабочым давядзецца чакаць жаданую рэч 30—50 гадоў, калі браць пад увагу той факт, што на нашым маторным заводзе працуе 7 тысяч чалавек.

З якой мэтай былі кінуты яблыкі разладу амаль у кожны калектыў, вялікі і малы? Пытанне застаецца адкрытым.

Зрэшты, ёсць і іншае меркаванне, якое выказаў намеснік старшыні Заводскага камітэта прафсаюза М. Гапееў у нашай шматтыражцы «Моторостроитель». Ён лічыць такое новаўвядзенне... «навагоднім падарункам для маторабудаўнікоў».

**І. САУКО.**
г. Мінск.

□

**Я быў дэлегатам** XIII справаздачна-выбарчай канферэнцыі АН БССР і лічу патрэбным зрабіць удакладненне наконт змешчанай у «ЛіМе» за 13 студзеня г. г. рэплікі «Што напалохала гісторыка».

Загадчык аддзела Інстытута гісторыі П. Ц. Петрыкаў пасля слоў абурэння тым, што «ўсе назвы вуліц у Мінску заменены на толькі беларускія», быў прагнаны з трыбуны канферэнцыі апладысментамі дэлегатаў. У газеце «За передовую науку» яго выступленне надрукавана цалкам, у тым ліку і тое, чаго ён ужо не гаварыў.

**А. ЛУКАШЭВІЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук.**
г. Мінск.

□

**Колькі ўжо гаворана** пра неабходнасць культуры дыскусій, колькі дзеля гэтага паперы пераведзена, а ўражанне такое, нібыта ўсё дарэмна. Многім, напэўна, здаецца, што не пра яго ўсё гэта, што яму ўсё дазволена...

Вось, напрыклад, чытаю артыкул Т. Бумажковай «Бар'ер палітычнай слепаты» («Политический собеседник», № 1 за 1989 г.). І літаральна з першых абзацаў даведваюся, што, аказваецца, А. Адамовіч, В. Быкаў і тыя, хто з імі заадно, усяго толькі «воду мутят» і ва ўсіх справах дбаюць толькі пра ўласныя карыслівыя мэты.

У артыкуле Т. Бумажковай шмат увагі аддадзена восеньскім падзеям у Доме кіно і Доме палітасветы. Аўтар імкнецца абвергнуць усё, што пісаў з гэтай нагоды В. Быкаў. Што ж, кожны мае права выказаць свой пункт гледжання на падзеі. Але ёсць рэчы, якія патрабуюць адназначнага асэнсавання. Так, перад чытачамі паўстае дылема: каму верыць? В. Быкаву або аўтару «Политического собеседника»? Шчыра кажучы, я не ведаю Т. Бумажкову, затое па шматлікіх кнігах, фільмах, публіцыстычных выступленнях ведаю В. Быкава. Таму дзеля таго, каб паверыць *незнаёмаму* аўтару, мне трэба адчуць, што справу маю з чалавекам кампетэнтным, высокакультурным і высокаадукаваным. На жаль...

Напрыклад, Т. Бумажкова кпіць з таго, што фільм «Ідзі і глядзі», як яна піша, «сорвал приз». Так, пра густы не спрачаюцца. Адны бачаць у фільме толькі «злобную карикатуру на советского партизана», іншыя — усведамляюць увесь жах і згубнасць вайны, задумваюцца над тым, што трэба зрабіць, каб гэты кашмар не паўтарыўся. І, дарэчы, у пазітыўных пераменах у напрамку раззбраення ёсць, напэўна, немалая заслуга і фільма «Ідзі і глядзі».

Нельга без усмешкі чытаць тую частку артыкула, дзе Т. Бумажкова з пазіцыі булгакаўскага Шарыкава пачынае разважаць пра эканоміку. Яна ўсур'ёз занепакоена тым, што зноў «кто-то прорвется в помещики, кто-то в кулаки, а кто-то останется влачить жалкую участь бедняка». Пазіцыя да болю знаёмая. Гэта ж прасцей простага — сабраць усе кашалькі і іх змесціва падзяліць пароўну. На працягу дзесяцігоддзяў *з нас і рабілі гэткіх* серадняччкоў, шэраньких чалавечкаў, якія не будуць лезці куды не просяць, каго трэба асудзяць, за каго трэба — хорам прагаласуюць... А каб не было крыўдна — кожнаму пароўну за шэрасць ягоную. Але ж гэта здзек, так працягвацца не можа, і партыя асудзіла такую «ўраўнілаўку», зрабіла стаўку на моцную, дзелавую асобу, на актыўнасць людзей.

Дзеля таго, каб давесці сваё, Т. Бумажкова карыстаецца *сумніцельнымі прыёмамі*, разлічанымі на недасведчанасць чытача, які не мае магчымасці самастойна пазнаёміцца са статутамі, праграмамі, выступленнямі нефармалаў. Рэспубліканскі друк наглуха зачыніў перад імі дзверы. Як казаў У. І. Ленін у такіх выпадках: «Трэба вывучаць тое і іншае, абавязкова патрабуючы дакладнейшых дакументаў, надрукаваных, даступных праверцы з усіх бакоў. Хто верыць на слова, той безнадзейны ідыёт, на якога махаюць рукой». Таму нельга рабіць паспешлівых высноў, нельга ва ўсім, што не дазволена ўладай, бачыць адно пугачоўшчыну.

Апошнім часам з усіх трыбун нас заклікаюць праяўляць сваю актыўнасць. Але скажыце: як і дзе я магу яе праявіць? Адказ напрошваецца адзіны — толькі праз гэтыя групы, клубы, саюзы і г. д., бо мясцовыя ўлады пакуль што не прапануюць мне аніякай альтэрнатывы. А выпадак з італьянскімі рабочымі, пра які расказала тэлепраграма «Крок», яшчэ раз пацвердзіў поўную арганізацыйную бездапаможнасць фармальных арганізацый. І, як засведчыў артыкул «Не знайшлі згоды» («Правда», 17 студзеня), беларускія нефармалы гэта не чарговы жупел, як іх хоча прадставіць Т. Бумажкова, а сведчанне грамадскай ініцыятывы, якая доўга шукала выйсця. І калі лічыць, што перабудова — гэта «ўсур'ёз і надоўга», то час ужо пераходзіць ад абвінавачванняў да сумеснай працы.

У свой час У. І. Ленін казаў: «Сувязь з «масамі» праз прафсаюзы мы прызнаем недастатковай. Практыка стварыла ў нас, у ходзе рэвалюцыі, і мы імкнёмся падтрымаць, развіць, пашырыць такую ўстанову, як беспартыйныя рабочыя і сялянскія канферэнцыі, каб сачыць за настроем мас, збліжацца з імі, адказваць на іх запытанні, вылучаць з іх лепшых работнікаў на дзяржаўныя пасады і г. д.». Як усё-такі супярэчыць артыкул Т. Бумажковай, дзе чырвонай ніткай праходзіць думка аб тым, што трэба канчаць з «мітынговым дэмакратызмам» (маўляў, не дзеля яго рэвалюцыю рабілі), — думцы Ільіча аб тым, што ініцыятыву трэба падтрымліваць і нават замацоўваць яе рэальнай уладай!

**А. ШАПАШНІКАЎ,**
**інжынер.**
г. Мінск.

□

**Мы, журналісты,** у сваёй паўсядзённай рабоце кантактуем з многімі людзьмі — аўтарамі, героямі артыкулаў, калегамі і г. д. Натуральна, што звяртаемся і да паслуг паштовай сувязі, у тым ліку і міжнароднай.

Два факты, з якімі я сутыкнуўся апошнім часам і якія выклікалі маё вялікае здзіўленне, вымусілі напісаць гэты ліст.

Факт першы. Не сакрэт, што ў апошнія гады рэзка падняўся кошт паслуг сувязі. Можна гэта зразумець, маючы на ўвазе агульную на тое тэндэнцыю ўздаражання паслуг, новыя формы гаспадарання і г. д. Не сакрэт і тое, што істотных змяненняў у якасці паслуг не назіраецца і што часам пры зацвярджэнні новых тарыфаў здараюцца яўныя недарэчнасці, якія супярэчаць здароваму сэнсу.

Напярэдадні Новага года вырашыў я паслаць два часопісы («Беларусь» і «Мастацтва Беларусі») майму калегу ў Варшаву. І што? Як паведаміла мне прыёмшчыца карэспандэнцыі на Галоўпаштамце, заказная бандэроль каштуе 4 рублі 95 капеек. Як гэта разумець, калі, паводле той жа прыёмшчыцы, пошце ўсё адно, куды кіруецца бандэроль, — у Варшаву ці Канберу? Кошт усё адно той жа самы. Колькі ж павінны важыць тыя два часопісы, калі за іх перасылку поштай я павінен плаціць ці не поўны дзённы заробак? Паслуга гэта ці элементарнае вымаганне грошай?

Упэўнены: другое. Таму і шукаю магчымасць, каб перадаць карэспандэнцыю ў Варшаву прыватным шляхам. За шакаладку. Калі, вядома, адшукаю спосаб, дзе купіць яе.

Факт другі. Што наогул робіцца з міжнароднай карэспандэнцыяй? Чаму тэрмін перасылкі пісьма з Польшчы ў Беларусь складае цяпер не менш за месяц? Яшчэ гадоў пяць—сем назад, да таго, як Міністэрства сувязі пачало фінансаваць новаўвядзенні, ліст з ПНР ішоў максімум 10 дзён, што таксама, лічу, вельмі шмат. А цяпер? 18 студзеня г.г. я атрымаў з Польшчы навагоднае віншаванне, адпраўленае мне з горада Гнеўна 17 снежня мінулага года. Віншаванне ішло роўна месяц! Пешшу яго даставілі, ці што?! І гэта далёка не адзіны выпадак. Практыка паказвае, што нейкія 500 кіламетраў пісьмы цяпер праходзяць з сярэдняй хуткасцю дзіцяці, якое толькі стала на ногі.

Як можна растлумачыць тое, чаму польскую газету я атрымліваю на наступны дзень пасля яе выдання, а пісьмо — праз месяц? Дзе яны валяюцца столькі часу, гэтыя лісты?

Дзіўныя прыгоды з поштай, што адбываюцца апошнім часам, на маю думку, — спроба перашкодзіць наладжванню міжнародных кантактаў, замах на нашы грамадзянскія правы і свабоды, свядомае імкненне падпарадкаваць сабе многія нашы дзеянні і ўчынкі. Гэтыя словы — невыпадковыя. Нядаўна на праблемы міжнароднай паштовай сувязі звярнула ўвагу «Советская культура» і прывяла красамоўныя прыклады, калі з-за дрэннай, абыякавай работы пошты рушыліся лёсы людзей.

**Д. ПАДБЯРЭЗСКІ,**
**супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Мастацтва Беларусі».**

□

**Я ўжо стары** чалавек, мне амаль 80 гадоў. Пражыў складанае і нялёгкае жыццё, шмат чаго давялося пабачыць і перажыць. Юнаком уключыўся ў падпольную работу на тэрыторыі Заходняй Беларусі і неаднойчы рызыкаваў жыццём. У 1930 г., хаваючыся ад праследаванняў польскіх улад (брата Лявона асудзілі на 12 гадоў, турма чакала і мяне), перайшоў у СССР. Жыў у Омску, Томску, Новасібірску, Ташкенце. Праз некалькі гадоў атрымаў грамадзянства, стаў вучыцца на рабфаку, уступіў (спачуваючым) у ВКП(б). Да арышту ў 1937 г. працаваў у Ташкенце ў Наркамхарчпраме УзССР. Ну, а далей падзяліў лёс мільёнаў неабгрунтавана рэпрэсіраваных савецкіх людзей. «Контррэвалюцыянер», «польскі шпіён», «вораг народа» — вось кім я стаў пасля рашэння Асобай нарады пры НКУС Саюза ССР. Славутая тройка асудзіла мяне на 10 год лагераў, якія пабудаваў для свайго народа «бацька ўсіх народаў». Давялося прайсці праз усе пакуты сібірскіх і паўночных мясцін сталінскага ГУЛАГа.

Для нас, хто застаўся жывым, цень сталіншчыны крочыў праз усё жыццё. Толькі пасля рэабілітацыі (1958 год) я змог вярнуцца на радзіму. Сталіншчына забрала ў мяне шмат: лепшыя гады, адукацыю, родную мову, нямала простых чалавечых радасцей. З чым, напрыклад, можна параўнаць перажыванні ў час святкаванняў Дня Перамогі, калі не выходзіш з дому, саромеючыся адсутнасці ўзнагарод (не растлумачыш жа кожнаму, чаму ты сівы і без узнагарод, не раскажаш, што падаваў дзесяць заяў на фронт, але дарэмна...).

А як усё гэта было тлумачыць сваім дзецям, а потым і ўнукам?

Прыходзілі і адыходзілі гады, з імі радасці і расчараванні, але заўсёды заставалася надзея на справядлівы суд нашай гісторыі. Я ўдзячны лёсу, што дажыў да часоў вялікай перабудовы, калі нормай нашага жыцця становяцца сумленнасць, праўда і рэалізм, калі мы, нарэшце, сталі аб'ектыўна глядзець на нашу гісторыю. Краіна пачынае скідваць з сябе цяжкі ганебны цяжар сталінскага рэжыму, але гэта вельмі няпроста.

Сталіншчына — гэта раны нашага народа, і дзяржава павінна знайсці гаючыя лекі для іх.

З вялікай радасцю вітаю стварэнне грамадска-асветніцкай арганізацыі «Мартыралог Беларусі», якая ўзяла на сябе пачэсную і святую справу па ўшанаванні памяці ахвяр сталіншчыны на шматпакутнай Беларусі. Вельмі ўдзячны за тое, што мяне абралі ганаровым членам Рады яе, і лічу гэта самым светлым днём у сваім жыцці. Як магу, буду змагацца са змрочнымі сіламі сталіншчыны і дзецям сваім і ўнукам нагадаю аб гэтым.

**І. ШАДЫРА,**
**персанальны пенсіянер.**
г. Маладзечна.

## Кнігапіс




Вянок беларускіх народных песень. Запіс У. Раговіча. Мінск, «Навука і тэхніка», 1988.

**Усім аматарам народнай творчасці, а найперш фалькларыстам, этнографам, літаратарам і музыкантам, прызначаецца гэта выданне. У кнізе змешчана больш за трыста песень (каляндарна-абрадавых, сямейна-абрадавых, любоўных, баладных і інш.), запісаных Уладзімірам Раговічам у розных кутках Беларусі за апошнія 25 гадоў. Сабраныя песенныя ўзоры (ноты з тэкстамі), як традыцыйныя, так і сучасныя, публікуюцца ўпершыню.**

**«Вянок беларускіх народных песень» надрукаваны на мелаванай паперы, аздоблены малюнкамі мастака У. Вішнеўскага. Характарыстыка зборніка дадзена ва ўступным артыкуле (аўтар К. Кабашнікаў) і ў прадмове збіральніка. У канцы кнігі змешчаны каментарыі, геаграфічны паказальнік.**

Дж. ДЖОЙС. Уліс. Раман. На беларускай мове. Беласток. 1988.

**Ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса (1882—1941) называюць «Гамерам XX стагоддзя», але шлях яго асноўнай кнігі «Уліс» да чытача быў няпростым.**

**Да нядаўняга часу вядомыя былі толькі пераклады ўрыўкаў рамана на рускую, грузінскую, літоўскую і ўкраінскую мовы. Хаця, трэба зазначыць, першыя спробы асэнсаваць гэты складаны твор рабіліся ў СССР яшчэ ў канцы 20-х гадоў, амаль адразу пасля з'яўлення на мове арыгінала. Але поўнага перакладу не было аж да 1988 года. Ім і аказаўся пераклад на беларускую мову Яна Максімюка, супрацоўніка Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы.**




Т. МУШЫНСКАЯ. Гармонія дуэту. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1987.

**Сёння балетная трупа тэатра оперы і балета БССР — адзін з самых самабытных і перспектыўных калектываў краіны. У гэтым немалая заслуга народных артыстаў БССР Людмілы Бржазоўскай і Юрыя Траяна, якія выканалі вядучыя партыі амаль ва ўсіх балетных спектаклях апошніх двух дзесяцігоддзяў, іх майстэрству апладзіравалі гледачы ў многіх краінах свету.**

**У кнізе «Гармонія дуэту» Т. Мушынская падрабязна расказвае пра станаўленне гэтых двух выдатных танцоўшчыкаў, звяртаючы ўвагу на найбольш значныя іх партыі, паказваючы, як дзякуючы Л. Бржазоўскай і Ю. Траяну беларускі балет узняўся на новыя творчыя вышыні.**

*Старонкі спадчыны: новае прачытанне*

**Міхась МУШЫНСКІ**

# Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа?

Раман Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне», упершыню надрукаваны ў 1935 годзе ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», на працягу доўгага часу заставаўся адным з найболей вядомых твораў беларускай літаратуры. А тое, што раман быў уключаны ў школьную праграму, забяспечыла яму асабліва шырокую папулярнасць.

Трэба шчыра сказаць, што гэты твор мае нейкую неспазнаную, неразгаданую таямніцу, ён валодае вялікай прыцягальнай сілай. І прыцягальнасць гэтую не вытлумачыш толькі майстэрствам К. Чорнага, яго ўменнем будаваць напружаны сюжэт, займальна разгортваць дзеянне, заглыбляцца ва ўнутраны свет чалавека, шчыра і пранікнёна маляваць цяжкое дзяцінства. Сакрэты паэтычнай прывабнасці рамана трэба шукаць у самабытным таленце мастака, у яго адметным поглядзе на свет. Раманіст умеў ствараць яскравыя вобразы герояў з акрэсленай сацыяльнай і непаўторнай асабістай біяграфіяй. У творчасці К. Чорнага ўвогуле нямала герояў, якія з поўнай падставай прэтэндуюць на тое, каб быць мастацкімі тыпамі. Прычым, тыпамі нацыянальнымі. У характары гэтых герояў заўжды прываблівала ўнутраная цэласнасць натуры, засяроджанасць, мэтаімкнёнасць, неадольнае жаданне дасягнуць сваёй мэты.

Тым не менш, трэба выразна, недвухсэнсоўна сказаць пра тое, што многія папярэднія, традыцыйныя ацэнкі рамана, характарыстыкі герояў і агульныя высновы не адпавядаюць сапраўднасці. Ацэнкі — завышаныя, неаб'ектыўныя, меркаванні пра герояў — няслушныя, прадузятыя. **Перш за ўсё непрымальная з маральнага пункту гледжання агульная канцэпцыя твора, аўтарская трактоўка галоўных герояў твора — Міхала і Зосі Тварыцкіх.**

Вырашаючы гэты канфлікт, пісьменнік рабіў уступку патрабаванням, якія вымагаліся ідэалагічнымі ўстаноўкамі, вульгарызатарскай крытыкай 30-х гадоў, і тым самым значна абясцэніў гуманістычнае гучанне твора. Сюжэтнае дзеянне ў рамане разгортваецца так, што пісьменнік падыгрывае сваёй гераіні, знарок ставіць яе ў выйгрышнае становішча, а ў адносінах да Міхала выяўляе прадузятасць. Атрымліваецца, што Зося ва ўсім і заўсёды мела рацыю, а Міхал заўжды быў вінаваты. Але ж такі падыход пярэчыць духу рэалістычнага мастацтва, дзе вобразы герояў не павінны быць рупарамі аўтарскіх ідэй. На жаль, іменна так і адбываецца ў «Трэцім пакаленні». Раманіст хоча паказаць гераіню як чалавека новай, калектывісцкай маралі. Зося ненавідзіць свет уласніцтва, які духоўна калечыў чалавека і ператвараў яго ў раба рэчаў, раба зямлі. А носьбітам уласніцтва з'яўляецца Міхал. Аднак паводзіны і ўчынкі герояў, калі ацэньваць іх непрадузята, на кожным кроку пярэчаць зыходным аўтарскім характарыстыкам.

Сапраўды, Зося не была ўпэўненай, што Міхал прысвоіў знойдзеныя ім дзяржаўныя грошы, не здаў іх прадстаўнікам улады. Тым не менш яна паведамляе пра свае падазрэнні следчым органам. Да апошняга часу мы ўсе дружна расцэньвалі Зосін учынак як акт выканання ёю свайго грамадзянскага доўгу. Але фактычна гэта быў данос, і як данос ён патрабуе адпаведнай маральнай ацэнкі.

Ніхто, вядома, не мае права вучыць пісьменніка, як ён павінен вырашаць тую ці іншую сітуацыю. Можна толькі выказаць меркаванне наконт таго, што паводле логікі свайго характару Зося, носьбіт ідэй гуманізму, павінна была добрым, шчырым словам пераканаць Міхала, каб ён сам здаў знойдзеныя грошы. На такі ўчынак у Зосі, аднак, не хапіла ні ўнутраных сіл, ні здольнасці, ні — і гэта галоўнае — веры ў духоўныя патэнцыі Міхала. Вера ў чалавека, якую так настойліва абвяшчае ўлюбёная гераіня К. Чорнага, мела адцягнены характар. Гэта была вера ў будучых людзей, а не ў тых, што яе акружалі.

Бясспрэчна, не выклікае сумнення віна Міхала. Сваім учынкам ён нанёс шкоду дзяржаве, бо затрымаў будаўніцтва. Міхал заслугоўвае адпаведнага пакарання. Аднак у мастацкім творы нас цікавяць не толькі падзеі, учынкі, але і матывы паводзін людзей, маральны сэнс імі зробленага. І ў гэтых адносінах паводзіны Зосі не толькі не бездакорныя ў маральных адносінах, але і непрымальныя. Аднак выразнай ацэнкі ў рамане гэтым паводзінам не дадзена. Тут мы якраз і маем канкрэтны прыклад таго, што не героі праз асабістыя ўзаемаадносіны і ў адпаведнасці са сваім характарам рухаюць сюжэтнае дзеянне, а мэтавая аўтарская ўстаноўка.

Вось Зося дае параду Кандрату Назарэўскаму, як лепей націснуць на Міхала, каб ён давёў, што ўкрадзеных з банка дзяржаўных грошай у яго няма: «А не — то няхай давядзе фактамі, а не пустым словам...» Незразумела, чаму гэта Міхал павінен даказваць, што ён невінаваты? Гэта ж следчы абавязаны ўстанавіць яго віну. Але следчы паслухаў Зосіных парад і зрабіў адпаведны вывад: «І калі вы не раскажаце ўсяго, то я супраць вас пастаўлю абвінавачванне, што гэта вы аграбілі банк, забілі Сэдаса, памаглі знікнуць таму, другому, з якім разам вы ўсё гэта зрабілі. Больш я гаварыць з вамі не буду. Як сабе хочаце». Інакш кажучы, следчыя дабіліся ад Міхала прызнання тэрорам, пагрозай прыпісаць яму чужую віну, ды не абы-якую, бо гаворка ішла ўжо не пра крымінальнае, а палітычнае злачынства, у тым ліку пра шпіянаж у карысць замежнай дзяржавы і г. д. **Такім чынам, у рамане высакародныя мэты абароны інтарэсаў дзяржавы дасягаюцца супрацьзаконным шляхам.** На жаль, даказаць парушэнне законнасці і абараніць сябе нават літаратурны герой ва ўмовах 30-х гадоў не меў магчымасці. Затое станоўчы герой гэтага часу меў права ігнараваць этычныя прынцыпы і законы чалавечага сумлення. Ігнараваць пры маўклівай падтрымцы аўтара.

Так, калі Назарэўскі даў Зосі заданне знайсці схаваныя грошы, і яна пачала старанна іх шукаць, ды не знаходзіла, то варожасць яе да Міхала ўзмацнілася. «Часамі нават з'яўляліся адзнакі зларадпага жадання: каб няйначай знайсці які-небудзь доказ яго вінаватасці». Бачыце, станоўчаму герою даруецца ўсё. Зося лічыць для сябе маральна апраўданым ноччу абшукваць кішэні Міхала, пакуль той, стомлены цяжкаю працай, спіць. «Кішэні былі пустыя. Тады яна падыйшла бліжэй да пасцелі. Заўважыла, што пад падушкай у яго штосьці ёсць, старанна завязанае ў хустачку... Ціхом, баючыся дыхнуць, яна падсадзіла руку пад падушку і пачала цягнуць. Ён спаў, напрацаваўшыся за дзень».

Увогуле ў рамане пры непрадузятым яго чытанні выяўляецца багата не заўважаных даследчыкамі разыходжанняў паміж высокімі аўтарскімі характарыстыкамі Зосі і яе справамі. Апошнія не пацвярджаюць станоўчай атэстацыі Зосі, яе прэтэнзій на ролю гераіні. Наадварот, яны з'яўляюцца сведчаннем духоўнай абмежаванасці Тварыцкай, доказам нарматыўнасці яе мыслення, схільнасці браць на веру ў гатовым выглядзе чужыя думкі і перакананні. Рашэнне паведаміць следчаму пра свае падазрэнні адносна Міхала якраз і народжаны дагматызмам мыслення, схільнасцю даводзіць да абсурду пэўныя лозунгі і ўстаноўкі. Гэтыя якасці яскрава выявіліся пасля суда над Міхалам, калі Зося прыняла рашэнне паехаць на будаўніцтва. Перад ад'ездам дачка Слава пытаецца ў яе, дзе лепей жыць — у старым ці ў новым доме? Зразумела, Зося, якая ўспрымае хутар і сваю недабудаваную хату як цёмную, змрочную нару, не задумваючыся, аддае перавагу новай хаце.

Аднак на будаўніцтве Зося пачынае жыць не ў новым доме, як яна даказвала дачцэ, а ў чужой хаце, былой кулацкай, ужо занятай краўцом. Там ёй адвялі бакоўку. Праўда, далікатная і непатрабавальная Зося чамусьці бесцырымонна забірае ў краўца лепшы (непраходны) пакоік на той падставе, што тут, маўляў, усе роўныя. Але калі гэта сапраўды так, то чаму стары і хворы кравец павінен уступаць лепшы куток Зосі?

У сваіх паводзінах пад час ад'езду Зося нагадвае нейкае перакаці-поле. Яна не адчувае сувязі з той глебай, на якой вырасла, з той мясцовасцю, дзе прайшло яе маленства, і памятае толькі змрочнае, што давялося перажыць, калі яна працавала батрачкаю на хутары Скуратовіча. Увогуле ўзаемаадносіны Зосі з зямлёй, са светам сялянскага жыцця складаныя. Яна хоча вучыцца, марыць стаць інжынерам, наракае на сваю горкую долю: многія аднагодкі маюць адукацыю, а яна, цёмная, толькі працуе, так і не выявіла ўласныя здольнасці.

**«Зося вярнулася ў сваю хату. Гэтыя сцены душылі яе. Усё тут ёй было брыдкім. Яна адчула нянавісць і да гэтай хаты і да ўсяго, што было з ёй звязана. Трымаючы Славу на руках, яна доўга сядзела і думала. Яна ўспамінала знаёмых, былых сваіх таварышак, думала пра іх. Некаторыя з іх пакончалі вышэйшыя школы, некаторыя ўжо выявіліся і выславіліся на рабоце вялікіх маштабаў. Пра адну сваю колішнюю таварышку яна чытала ў газеце як пра выдатнага інжынера. А яна — у самыя лепшыя свае маладыя гады глядзіць гэтай нары, тхланіць гэту цесную і разам з тым ненаедную прорву. Самыя лепшыя яе гады праходзілі ў агіднай гэтай нары.**

**І яна пачала дзейнічаць».**

Вядома, мы не маем права навязваць пісьменніку грамадскія ідэалы, што склаліся ў пазнейшы час, у параўнанні з часам, пра які ён расказвае ў рамане. Але ж і вартасць мастацкага твора вымяраецца тым, як далёка яго аўтар глядзеў наперад. Тое, што гераіня «Трэцяга пакалення» марыла вывучыцца на інжынера, — яскрава перадае атмасферу часу. Разам з тым пісьменнік не ўлавіў небяспечнай тэндэнцыі, якая нараджалася ў перыяд прымусовай калектывізацыі і якую несла ў сваёй свядомасці і Зося Тварыцкая, — абыякавыя адносіны да земляробчай працы. Зося да працы на зямлі ставіцца болей чым стрымана. Для яе такая праца, ды і ўвесь той шматгранны свет, які быў звязаны з хутарам, з Міхалам, з будаўніцтвам уласнай хаты, — штосьці абражальнае. Дзіўная атрымліваецца логіка: для Міхала, на якога з усіх бакоў — і Зося, і Назарэўскі, і суддзі — льюць бруд, выкрываюць як ворага народа, уласніка і патэнцыяльнага здрадніка Радзімы, — для Міхала праца з'яўляецца асалодай, паратункам ад усіх бед, а для Зосі — ледзь не пакараннем. Вось што гаворыцца пра Міхала, калі ён трапіў у лагер:

**«З першага ж дня пасля суда, як толькі яго адаслалі на месца, ён узяўся за работу, маючы ў ёй сваю найвялікшую асалоду, і такім парадкам, душачы свой чорны настрой, ён працаваў бесперапынна, заўзята ўдасканальваючыся на кожнай новай рабоце. Такім парадкам ён зрабіўся майстрам у некалькіх спецыяльнасцях».**

Што ж гэта, прабачце, за вораг народа, які сваё шчасце бачыць у працы? А можа, ён навучыўся цярпець? Можа, адчуў вялікі жыццядзейны сэнс працы? Можа, калі працаваў, дык і быў тады сапраўдным гаспадаром жыцця, стваральнікам усіх каштоўнасцей?

Як бачым, логіка аўтарскай трактоўкі характару герояў не супадае з логікай жыцця. Прычынаю гэтага і былі тыя ўступкі, якія К. Чорны рабіў як пісьменнік пад уплывам абставін 30-х гадоў.

Варта спыніць увагу на сцэнах, дзе пісьменнік узнаўляе асобныя моманты побыту рабочых-будаўнікоў. У рамане пазначана, што рабочыя дружна працуюць і пасля працы гэтак жа дружна спяваюць. «На высокім грудзе свяціліся восемдзесят чатыры акны двух першых баракаў. Адтуль чулася гармонь і песня хорам — там ніяк не маглі ўгаманіцца». Але ж духоўнае жыццё чалавека, напэўна, не вычэрпваецца ўдзелам у калектыўных спевах. У кожнага рабочага, у кожнай сям'і, відаць, былі свае праблемы. Пра гэта ў творы не гаворыцца. А шкада, бо калі мы бачым, як на будаўніцтве арганізаваны побыт яе ўдзельнікаў, дык нельга зрабіць вывад, што духоўны ўзровень іх жыцця вышэй узроўню жыцця Міхала.

**(Працяг на стар. 6—7).**

# Ці быў Міхал Тварыцкі Ворагам народа?

(Пачатак на стар. 5).

Рашучую нязгоду выклікаюць і адносіны Назарэўскага да Міхала, адносіны не проста асабістыя, чалавечыя, а як прадстаўніка новай улады, як носьбіта сацыялістычнай маралі. Абаронца дзяржаўных інтарэсаў, выразнік ідэй гуманізму і сацыяльнай справядлівасці, якім у рамане лічыць сябе Назарэўскі, літаральна здзекуецца з Міхала-ўласніка, іранічна атэстуе яго «працавічком». **Асаблівае абурэнне выклікае спроба Назарэўскага даказаць, нібыта Тварыцкі — вораг народа, патэнцыяльны здраднік, які прадасць Радзіму, калі яму гэта будзе выгадна.** «Ён шкодзіў гэтай нашай рабоце, хочучы прысвоіць тое, што належыць усёй мясцовасці, усяму народу. Ён раз сказаў — я сам з народа. Гэта праўда, ён-то з народа, але стаў адшчапенцам і ў такім выглядзе ворагам народа... ...З сваёй нары, якая нам здаецца цеснай, як магіла, ён з ганарыстай недаверлівасцю пaглядае на ўвесь свет. Ён гатоў падтрымаць прыход усялякіх цёмных сіл, гатоў прадаць вялікую народную справу, што мы і ўгледзелі выразна». **Ніякіх аўтарскіх тлумачэнняў да прамовы прадстаўніка ўлады ў рамане няма. Чытачу прапаноўваюць прыняць на веру сістэму доказаў Назарэўскага. Але гэта хісткія доказы, надуманыя абвінавачванні.**

У прамове на судзе Назарэўскі сказаў, што адзежына Міхала «парваная, смярдзючая хоць і дала, а можа, і не раз прытулак вялікім грашам». **У грамадскага абвінаваўцы няма ніякіх маральных праў смяяцца са смярдзючай адзежыны селяніна, бо ўлада не паклапацілася, каб даць яму лепшую. Сваёй іроніяй Назарэўскі засведчыў адарванасць ад набалелых праблем сялянскага жыцця.** А намякаць на тое, што Міхал і раней, відаць, займаўся цёмнымі справамі, грашовымі махінацыямі,—непрыстойна. Для людзей тыпу Назарэўскага — суд над Міхалам гэта не трагедыя пэўнага чалавека, а выпадак, каб на адзінкавым прыкладзе даць многім з прысутных на судзе ўрок сацыяльнай педагогікі: адных прыстрашыць, другіх папярэдзіць, бо судзяць Міхала Тварыцкага не толькі за прысвоеныя грошы з дзяржаўнага банка, але і як хутараніна, аднаасобніка, які не хацеў падпарадкоўвацца загадам, а спрабаваў пайсці сваім шляхам.

Аўтарская тэндэнцыйнасць шкодзіць і вобразу Скуратовіча, у абмалёўцы якога пераважаюць змрочныя фарбы, выкрывальная інтанацыя.

Нельга не сказаць і пра заключную частку рамана, прысвечаную паказу шкодніцкай дзейнасці Сцепуржынскага-Наўмысніка і Скуратовіча-Чарпакевіча, рэзідэнта замежнай разведкі. Частка гэта ўспрымаецца як штучны дадатак да твора. Усё тут нейкае ненатуральнае, надуманае, малаверагоднае, адна недарэчнасць нагрувашчваецца на другую. Сур'ёзны змест заменены дэтэктыўнымі сітуацыямі. Дзеянні таго ж Наўмысніка, які хоча скінуць з рыштаванняў краўца, — гэта танная белетрыстыка. Цяжка ўвогуле разабрацца, у чым сутнасць шкодніцкай працы героя: то ён быццам бы збірае нейкія звесткі пра будаўніцтва, то нібыта павінен быў спаліць новыя карпусы завода. Вось так паднесці запалку, і няхай гараць-шугаюць цагляныя будынкі. Потым падпал яму замянілі забойствам начальніка. Спаліш, кажуць, а бальшавікі зноў адбудуюць.

Незразумелыя і матывы паводзін Наўмысніка. Ён добры спецыяліст, добры работнік, а чаму ён стаў шкоднікам — пра гэта ў рамане пытання не ставіцца. Дастаткова таго, што калісьці Сцепуржынскі быў багаты. Вось на якім прымітыўным узроўні асвятлялася тэма шкодніцтва.

Гэтак жа павярхоўна паказаны і ўзаемаадносіны Наўмысніка і Несцяровіча. Наўмыснік выпрошвае ў начальніка будаўніцтва патрэбнае яму пасведчанне і бясконца паўтарае байку пра сваё батрацкае мінулае, пра ўдзел у барацьбе за Савецкую ўладу, а Несцяровіч класавым нюхам чуе ідэйна чужога чалавека. Зноў — павярхоўнасць, падмена мастацкіх задач публіцыстычна-агітацыйнымі.

Сцэны, калі Міхал прыносіць золата Славе, таксама вытрыманы ў традыцыях ілюстрацыйнай літаратуры. Тут пануе блакітная атмасфера, шчасце і ціхамірнасць, усеагульная згода: людзі, якія жывуць побач з Зосяй, — поўнае ўвасабленне дабрачыннасцей. «Няма хціўвасці, няма скупасці, няма ў аднаго да другога нянавісці. Не рвуць адзін аднаго за горла, рады адзін аднаму, не ходзяць на пакутных дарогах босыя і галодныя, дзеці сіроцтва не ведаюць». Перад намі — яскравы прыклад літаратуры, якая сваю задачу бачыла не ў адлюстраванні праўды жыцця, рэальных канфліктаў і супярэчнасцей, а ў яе падфарбоўцы, палепшанні.

Адна з гераінь рамана — Ірына Назарэўская — выпрацавала звычку расказваць дзецям на працягу дваццаці хвілін чарговую «казку выхаднога дня»: «Ну, а цяпер, калі няма ні багатых, ні бедных, а жывуць людзі роўныя, усе к багаццю ідуць, к сытасці, пасля к раскошы пойдуць, калі чалавечае жыццё ў нас стала такое, што калі чалавек родзіцца на свет, то ён ужо, значыцца, будзе жыць, як чалавек, а раней бацькі яшчэ думалі: Як жа прыстроіць яго к жыццю?». Дык вось заключная частка «Трэцяга пакалення» — таксама прыгодніцкая казка, толькі ўжо для дарослых. Менавіта так і ўспрымалі твор, прынамсі, некаторыя дарослыя. Вось вытрымка з ліста, які даслаў у газету «Літаратура і мастацтва» чытач М. Гаўзін у 1936 годзе. Ліст пераканаўча раскрывае тагачаснае чытацкае ўспрыманне твора: «Я прачытаў раман Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне» і ён мне вельмі спадабаўся. Спадабаўся таму, што чытаючы яго яшчэ больш яскравей пазнаеш і бачыш шкодніцкія метады класавага ворага і становішся да яго яшчэ больш класава пільным». Вось, аказваецца, якія «высакародныя» пачуцці абуджаў раман!

Міжвольна ўзнікае пытанне: няўжо такі самапатрабавальны мастак, як Чорны, не бачыў унутраных супярэчнасцей, уласцівых яго раману? Думаецца, бачыў. **Але на поўны перагляд свайго твора адважыўся толькі ў пачатку 40-х гадоў,** калі грамадска-палітычная атмасфера ў краіне крыху змянілася ў лепшы бок. Рыхтуючы чацвёртае выданне, якое выйшла ў 1941 годзе, пісьменнік унёс у ранейшы тэкст пэўныя **карэктывы,** хоць яны — і пра гэта трэба сказаць адразу — **не паўплывалі карэнным чынам на ідэйную канцэпцыю твора. Папраўкі мелі на мэце крыху прыглушыць, паслабіць антыгуманную скіраванасць рамана, выправіць прадузятасць характарыстыкі вобраза галоўнага героя.**

Калі мець на ўвазе канкрэтны змест паправак, дык аўтар, у прыватнасці, скараціў тэрмін знаходжання Тварыцкага ў лагеры. У выданнях 1935, 1936, 1937 гадоў Міхала накіроўвалі на будаўніцтва электрастанцыі «адбываць да канца тэрмін», дык у тэксце 1941 года Міхал, дзякуючы добрай працы, ужо зусім адбыў свой тэрмін. Гэтай папраўкай Чорны ўскосна змяншаў віну Тварыцкага. Адпаведна і аўтарскія адносіны да героя станавіліся болей гуманнымі. Удакладняецца і працягласць тэрміну, на які быў асуджаны Міхал. У выданні 1941 года дапісаны падкрэсленыя ніжэй сказы: «Ён даўно не бачыў ні Славы, ні Зосі, **ужо гадоў два ён іх не бачыў» і «...самае важнае — хутчэй вярнуцца да Зосі і Славы, і жыць разам».** Папраўкі пэўным чынам закрэслівалі ранейшыя абвінавачванні Міхала як ворага народа.

Драматызм канфлікту Міхала з грамадствам пасабляецца і тым, што ў творы — ад рэдакцыі да рэдакцыі — **фігуруе розная сума ўкрадзеных з банка грошай.** «—Ведаеш, колькі там было грошай? — Ну колькі?» У выданнях 1935, 1936 гадоў — «каля паўмільёна», у 1937 — «мяшок грошы, найбольш буйнымі паперкамі», у 1941 — «паўмеха грошай, найбольш буйнымі паперкамі». Агульнае, неканкрэтнае, можна сказаць, бытавое «мяшок грошы», «паўмеха грошай» — сінонім слова «многа», «шмат». А вось «каля паўмільёна» — гэта ўжо юрыдычная тэрміналогія, дакладная лічба, патрэбная следчым, каб устанавіць віну прыцягнутага да адказнасці.

У выданні 1941 года зроблена яшчэ адна значная папраўка — пісьменнік апусціў сцэну выступлення Зосі на судзе, дзе яна сведчыла супраць мужа. **Пісьменнік імкнуўся прыглушыць матыў супрацоўніцтва Зосі са следчымі.** Ён ужо не хацеў паказваць яе як афіцыйнага антыпода ўласнага мужа. Хопіць, маўляў, таго, што жанчына расказала ўладам пра свае падазрэнні наконт Міхала.

З тэксту рамана выкінуты і наступны вялікі фрагмент, зноў жа такі звязаны са сцэнай суда над Міхалам і адносінамі да яго з боку Зосі: «З свайго месца Зося заўважыла, што ён ніяк не змяніўся, такая самая асталася і барада. Толькі позірк яго быў нейкі разгублены. Зося думала: «прывыклы

*Крытыка, бібліяграфія*

# «Радок, патрэбны Беларусі...»

**С. Грахоўскі. І радасць і боль. Вершы і паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

Пісаць пра гэтую кніжку цяжка. Хвалюешся. Не ведаеш, з чаго пачаць... Сам-насам — перад сумленнем чалавека і паэта. Адчуваеш, што напісаныя табой словы не ўмяшчаюць усіх думак і пачуццяў, якія перадаліся ад прачытанага. Не звыклі мы да такой паэзіі, да такога свабоднага праўдзівага выказвання.

На мой погляд, пасля зборнікаў «Быў. Ёсць. Буду» У. Караткевіча, «І вера, і вернасць, і вечнасць» П. Панчанкі, гэтая кніжка С. Грахоўскага «І радасць і боль» найбольш адметная з'ява ў беларускай грамадзянска-патрыятычнай паэзіі апошняга часу. Не трэба надта засяроджвацца, каб нават у назвах гэтых кніжак заўважыць нейкую роднасць, пераемнасць. На маё суб'ектыўнае меркаванне, ёсць у іх адзіны надрыўна-болевы пачатак.

Беларускі чытач, канешне, ведаў, што ёсць такі пісьменнік — Сяргей Грахоўскі. Неблагі паэт. Ні больш таго, ні менш... Імя яго згадвалася ў крытычных артыкулах і з высокіх трыбун досыць рэдка.

Тыя ж, хто блізка ведаў паэта, ведалі пра яго літаратурныя пакуты. Замоўчванне галоўнага па тым недалёкім часе было з'явай натуральнай не толькі ў паэзіі. А паэта аднойчы ўжо прымусілі маўчаць ажно дзевятнаццаць доўгіх гадоў. Аднак С. Грахоўскі працаваў і настойліва шукаў выйсця выпакутаванаму ў слове. За ўсім напісаным у тыя часы адчувалася рука майстра прафесіянала, але яшчэ больш — недавыказанасць. Былі, як гаворыцца, і школа, і навык, і вопыт... Але маўчаў не толькі ён, маўчалі і іншыя, хто такога страшнага вопыту не меў. Такі ўжо быў час, ці, дакладней кажучы, бясчассе.

Так, з даўніх часоў пісьменнік не заўсёды меў магчымасць надрукаваць напісанае, але заўсёды ён меў неад'емнае права пісаць альбо не пісаць, духоўна падпарадкуючыся свайму сумленню, з рэдкай для паэта шчырасцю напісаў аб тым часе сам Сяргей Грахоўскі ў вершы «Апошні радок»:

Відаць, пісаў я не заўсёды так,
Каб ажылі мае у сэрцах песні,
Відаць, дарэмна думаў, што — мастак,
Што творца, а выходзіць, быў рамеснік.

І, думаю, не для таго, каб пакрасавацца, гаворыць паэт са шкадаваннем пра свае тагачасныя «здабыткі», якія «больш падобныя на страты».

Цяжкая доля выпала С. Грахоўскаму. Неймаверна цяжка было ў лагерных умовах захаваць не толькі жыццё, але і душу. І галоўнае было — застацца маральна чыстым чалавекам, грамадзянінам. Не юдам, не «шасцёркай»...

Пілую — чуркі, чуркі, чуркі,
Кладу паленіцаў рады,
З дзесятнікам гуляю ў жмуркі
За міску поснай баланды:
Саскроб адмеціны з паленняў,
Душу запляміўшы сваю,
Часова страціўшы сумленне,
Што здаў учора, зноў здаю.

Вось гэта надзвычай дарагое ў прызнанні С. Грахоўскага. Ідучы на падман, каб выжыць, лірычны герой паэмы «Балючая памяць» (пра якую ўжо неаднойчы пісалі ў рэспубліканскім друку) — нават там, у тайзе! — адчувае, што... пляміць душу. Хай сабе часова і вымушана. Не проста жыць, а да таго ж тварыць, калі «адзін нягоднік распускае плётку, другі, глядзіш, хапае ўжо за глотку, і пачынае сумнявацца друг»... Асабліва адчувальна такое было ў 50-ыя, 60-ыя гады. І цяжка было не кінуцца ў іншую крайнасць: славіць прывіднае, забываючы (прымушаючы сябе забываць) як надаўняе былое, так і надзённую не надта светлую рэальнасць.

Напэўна, многія прачыталі ў дзесятым нумары часопіса «Полымя» за мінулы год ліст-рэпліку выкладчыка БПІ Пятра Лубкоўскага, пра творчасць паэта Паўла Пруднікава. Чытач супаставіў надрукаваную ў сёмым нумары таго ж часопіса паэму «Таймыр» і вершы Пруднікава шасцідзесятых гадоў той жа тэматыкі. І яму «не верыцца, што напісаў іх адзін і той жа чалавек».

Але вернемся да кніжкі С. Грахоўскага.

Пазбаўлен волі я на плошчы Волі.

Вось, мне здаецца, эпіграф як да гэтай паэтычнай кніжкі, так і да ўсяго творчага і жыццёвага шляху паэта. Удумаемся ў гэтыя радкі з верша «Аб вінаватых без віны». У гэтых словах паэта як ніколі супалі праўда жыцця і праўда мастацкая. Рэдкі выпадак для многіх сённяшніх паэтаў. Але найчасцей удача спасцігае творцу менавіта ў тым выпадку, калі праўда мастацкая ўзвышаецца над праўдай жыццёвай.

На вялікі жаль, і ў кніжцы С. Грахоўскага суровая праўда жыцця дамінуе ў большасці вершаў над праўдай мастацкай. Не абыходзіцца тут і без дыдактыкі:

За новы лад, за рэвалюцыю
Крывёй пісалі рэзалюцыю,
Не на гады, а на вякі,
Сапраўдныя бальшавікі.

І ў такім рытарычным пафасе напісаны ўвесь верш. Вядзецца гаворка аб уласных пакутах і чалавечым прыніжэнні, але рэдка ўсё гэта праецыруецца на народ, на ўседзяржаўны маштаб. Паэт ставіць пытанне:

І думаю часта: «А хто ж вінаваты,
Што вуліцы зніклі, палацы, саборы,
Што столькі было і злачынстваў, і гора,
Што зніклі Гарэцкі, што знік Галавач,
Не вернецца Вольны з няволі, хоць плач,
Што згінулі недзе Чарот з Галубком,
Што ленінскай школы камбрыг і нарком
Знікалі начамі, як чорная сажа?
Дык хто за ўсе гэтыя страты адкажа?

Па наіўнасці ці проста ў эмацыянальным запале паэт бачыць вінаватых у «ціхіх-ціхіх пенсіянерах», «нішчылі, білі, судзілі». Магчыма, і гэта ў нейкай ступені праўда, але, на мой погляд (і ці толькі мой?), корань зла закапаны значна глыбей. У нас даўно неабвержана прынята пастулат: народ заўсёды мае рацыю. Але калі мае рацыю ўвесь народ, то хто ж вінаваты? Тады атрымліваецца, і наогул вінаватых няма. Згадваецца выказванне А. Платонава: «Без мяне народ няпоўны». Недзе адсюль танцаваць і трэба...

Многія вершы С. Грахоўска-

## Паэзія

**Пятрусь МАКАЛЬ**



### Думка пра галаву

Вядома, як двойчы два,
Каму найболей шанцуе...
Галоўнае —
Галава,
Калі галава працуе.
Яна зарука зарук
(Бога самога дарунак!),
Што рухі тваіх рук
Маюць надзейны кірунак.
Хоць чуешся каралём,
Седзячы за рулём,
Можаш у бездань выбыць,
Калі галава схібіць.
Дасюль нам баліць нездарма,
Што цяжка гняло часамі.
Калі галава — сама,
А рукі і ногі — самі...
Ці ж у людскіх галоў
Важнейшай няма турботы,
Чым больш як мага галоў
Забіць у чужыя вароты?
Расці, як трава, дзятва,
Але не здраджвай, памяць.
Галоўнае —
Галава,
Калі галава цяміць.
Мы страху казалі «далоў»,
Калі нас агнём малацілі.
Цаною сваіх галоў
За незалежнасць плацілі.
Не ўсё з дапамогай рыўка
Мы сёння адолець у стане:
Куды не сягне рука,
Туды галава дастане.
Зведалі мы наяву:
Тыя, што карануюць
Садовую галаву,
Надзею сваю руйнуюць.
Не ўзвысімся ты і я
Ад пыхі безгаловай.
Якая, скажыце, сям'я,
Што з галавой яловай?
З малатабойца, з шаўца,
З майстра ламаць дровы
Дзяржаўнага мудраца
Не зробяць ні вусы, ні бровы.
Мы ўзнасілі з роду ў род
Розум вярхоўнай асобы, —
Дык выбірай жа, народ,
Сабе галаву даспадобы!
Грукае кроў у скронь —
Пра вечнае памяркую
Я, кладучы на далонь
Сваю галаву цяжкую.

### Скрыпка

Кронай — галактыкай зыбкай
Позіркі вабіў клён.
Пра тое, што стане скрыпкай,
Ніколі не думаў ён.
Як і калісьці, сёння
Сваю лісцёвую медзь
Страсаючы з голля, бяссонна
Клёну б шумець і шумець...
Сцярпеў ён смяротныя мукі,
Калі, закасаўшы рукі,
Няўмольна яго ссек
Сякераю дрывасек.
А недзе далёка аб клёне,
Які безнадзейна канаў,
Тужылі майстра далоні,
Што з музыкай дрэва яднаў.
Ссечаны клён, уваскрэсні,
Чарамі гукаў дыхні,
Працягвай у звонкай песні
Ночы свае і дні.
Мы, людзі, і дрэва навучым
Гаючаму цуду любві:
Будзь, як і мы, пявучым,
Музыкаю жыві.
Ёсць усяму свой тэрмін,
Ёсць у мастацтва сакрэт, —
І падалася з майстэрні
Скрыпка ў вялікі свет.
Болей яна не залежыць
Ад майстравых рук, як спярша.
Ужо музыканту належыць
Яе трапяткая душа.
Цяпер яна на наваселлі,
Шырачы шумны круг,

## Пошукі, знаходкі, версіі

**Галіна АЙЗЕНШТАТ**

# «ЦІКАВЫЯ БЫЛІ ЛЮДЗІ...»

ІНТАРЭС да тых, хто ў свой час быў гонарам беларускай літаратуры, а сёння, хоць і са спазненнем, вяртаецца ў яе, — вялікі. Але збіраць матэрыялы аб іх давялося ледзь не па каліву: амаль не засталося родных і знаёмых, а доступ да архіўных дакументаў усё яшчэ абмежаваны.

Таму чытачам «ЛіМа» будзе, відаць, цікава пазнаёміцца з характарыстыкамі, якія даваў таварышам па пяру Анатоль Вольны. Ён рабіў гэта ў «Літаратурных сілуэтах». Гэта нешта накшталт сучасных «Літаратурных партрэтаў», але напісаных больш схематычна, на нейкім як бы «бытавым» узроўні. Аўтар не столькі аналізуе твор пісьменніка, колькі расказвае аб некаторых асаблівасцях яго характару, звычках, адносінах з сябрамі. Сваю задачу ён акрэсліваў так: «Напісаць сілуэты маладнякоўцаў як людзей». «...Бо калі паэтаў звесці з Парнаса, дык і ў іх пад паэтычнай вопраткай гэтакая ж проза, як і ва ўсіх людзей», — пісаў Вольны ў кароценькім уступе да «Сілуэтаў маладнякоўцаў», што былі ўключаны ім у зборнік фельетонаў, выдадзенага аб'яднаннем «Маладняк» у 1927 годзе.

То была ці не першая спроба пяра Вольнага ў гэтым жанры. «Сілуэты» нагадваюць хутчэй сяброўскія шаржы ці толькі фрагменты да іх.

**Міхася Чарота Вольны называе «брандмайстар «Маладняка». Падкрэслівае, што ўсе яго хваляць і што да гэтага ўжо ўсе прызвычаіліся, аж надакучыла. Вось ён і рашыў напісаць пра Чарота новае. Ну хоць бы тое, што Чарот, як выявілася, «не эфірнае стварэнне, ён складзены з матэрыі. І род яго пачаў сваё развіццё нават... па Дарвіну».**

**Гаворачы пра Дубоўку, Вольны зазначае, што той вельмі здольны паэт. Вядома і тое, што многія дзяўчаты «журыліся над яго «Апошняй песняй», што на Украіне яго завуць «наикрашчы бузоцер».**

**У 20-я гады Дубоўка вучыўся і працаваў (працяглымі перыядамі) у Маскве, але часта наязджаў у Мінск. Бо, пасміхаецца Вольны, «яго маёмасць дае яму самыя шырокія магчымасці перасоўвацца з горада ў горад без насільшчыка, чым ён сумленна карыстаецца не менш, чым раз у месяц».**

**Язэпа Пушчу Вольны называе «надзвычай шчырым хлопцам». На яго думку, Язэп толькі раз схлусіў. Гэта калі «абвясціў па Роста ў сялянскія хаты, што ён не сёння дык заўтра скіне шаўро і ангельскую світку».**

**Алеся Дудара Вольны пачціва «ахрэшчвае» не інакш «як рэвалюцыянерам з пялёнак». Паведамляе, што вершы той пачаў «яшчэ ў калысцы пісаць, а што ж будзе, як падрасце крыху?»**

**А вось па Андрэю Александровічу «прайшоўся» даволі едка. Зазначыўшы, што Александровіч — «намеснік брандмайстра па «Маладняку», дадае: «У інтымным жыцці, як кажа Зарэцкі, «голос имеет не особенно сильный, но довольно противный».**

«Сілуэты» пазначаны студзенем 1926 года. У нейкім сэнсе гэта была развітальная песня з сябрамі па «Маладняку». Адзінства паміж імі ўжо не было. Былыя сябры ўсё далей і далей разыходзіліся ў поглядах на літаратуру. Рознай стала і ступень іх творчага майстэрства.

У другім нумары часопіса «Узвышша» за 1927 год Дубоўка друкуе вялікі артыкул «Пра нашу літаратурную мову». Асобны раздзельчык яе пад назвай «Лунныя лапы» адрасаваны Вольнаму. Разбіраючы яго паэтычны зборнік «Чорнакудрая радасць», Дубоўка ўшчэнт разбівае паэта, робячы вывад, што той дрэнна валодае беларускай мовай. Для прыкладу ён прыводзіць выраз «лунныя лапы». «Гэтыя лунныя лапы не сведчаць пра шчырую зацікаўленасць Анатоля Вольнага ў належным развіцці нашай мовы» (артыкул датуецца 13 сакавіка 27 г.).

У пятым нумары часопіса «Узвышша» нейкі крытык (можа, хто з сяброў схаваўся пад псеўданімам?) друкуе разгромную рэцэнзію на А. Александровіча, ставячы яму ў віну тыя ж самыя «лунныя лапы».

«Лунныя лапы», з лёгкай рукі Дубоўкі, надоўга ўвайшлі ў крытычны абарот. «Гэтыя «лунныя лапы» усё больш і больш пускаюць карані, усё больш і больш імкнуцца запанаваць цалкам у нашай літаратурнай мове», — пісаў Кузьма Чорны ў артыкуле «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры» (часопіс «Узвышша», 1928 г., № 5).

Прыклады такіх узаемных «наскокаў» можна працягваць без канца. А з цягам часу пад кожны такі «наскок» сталі падводзіць і палітычны фундамент. І ўжо ў рэзалюцыі агульнага сходу аб'яднання «Узвышша» ад 30 лістапада 1930 года чытаем: «Патрабуем жорсткай кары агентам міжнароднай буржуазіі ў Савецкай Беларусі — беларускім контррэвалюцыянерам, нацыянал-дэмакратам Бабарэку, Пушчы, Дубоўку».

Падпісалі яе Міхась Лынькоў, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Андрэй Мрый, Змітрок Бядуля, Платон Галавач, Лукаш Калюга.

Многія з тых, што падпісаліся, потым стануць ахвярамі сталінскага тэрору, загінуць з тым жа цяжкім абвінавачаннем, якое вынеслі сваім былым сябрам.

А яшчэ раней, 6 снежня 1929 года, адбыўся адкрыты сход ячэйкі КП(б) Б Белдзяржвыдавецтва, на якім выключылі з партыі М. Зарэцкага як «прыстаўніка і прапагандыста нацыянал-дэмакратычных і шавіністыцкіх поглядаў». Прысутныя былі абураны, калі Зарэцкі пачаў абвяргаць гэтыя абвінавачанні. Чарот нават крыкнуў, што годзе слухаць яго.

Газета «Рабочий», паведамляючы аб сходзе, пісала, што Зарэцкі і Дудар «вялі прапаганду» ідэй самабытнасці Беларусі, што Зарэцкі настойвае на рэвалюцыйным значэнні «буржуазнага нашаніўскага руху».

Дудар ужо быў высланы за межы рэспублікі, калі Александровіч звярнуўся ў БелАПП, каб яго ахавалі ад «брудных» плётак, быццам верш «Пасеклі наш край» яны напісалі ўдваіх з Дударом. Гэтыя плёткі, зазначыла «Чырвоная змена» 11 лютага 1930 года, прызнаны як «паклёп на аднаго з лепшых пралетарскіх паэтаў». Александровіч у той час быў у фаворы, аб ім станоўча пісаў нават Бэндэ (артыкул «Творчы рост А. Александровіча», «Узвышша» 1930 год, № 11—12).

**Што датычыцца Вольнага, то яго ў нацыяналізме абвінавацілі яшчэ ў 1927 годзе. Ён тады выступіў з двума фельетонамі: «За што змагаліся» і «Народ-меланхолік». У іх Вольны абураўся: беларуская кінафабрыка замест таго, каб рабіць фільмы на матэрыяле беларускай рэчаіснасці, выпускае фільм сумніцельнага зместу. Адны назвы чаго варты: «Прастытутка», «Масква кабацкая»...**

**Тая ж газета «Савецкая Беларусь» надрукавала адказ нейкага Авадня пад назвай «Прастытутка ці рэзвы Алёша» (гэтым імем Вольны падпісваў свае фельетоны). Як толькі ні жаліў «авадзень» Вольнага, якімі толькі словамі ні абзываў: «блазан», «лепятун з пасткай нацыянал-дэмакрата»!..**

**Вольны знайшоў магчымасць адказаць на ўсё гэта ў фельетоне пра... беларускую кааперацыю. Паіранізаваў: маўляў, і зараз знойдуцца людзі, што абвінавацяць яго ў нацыяналізме толькі за тое, што ён хваліць беларускую кааперацыю. Але шавіністам, падкрэслівае Вольны, ён ніколі не быў.**

**На гэтым справа ў той час і скончылася. У 1928 годзе Вольнага нават запрасілі працаваць у кіно. Але з журналістыкай ён не парываў, працягваў пісаць і нарысы, і фельетоны (дарэчы, таксама неаднойчы выкрываў «нацыяналістаў», нацдэмакратаў).**

А. Вольны зноў звяртаецца да жанру «Сіяуэтаў» у пачатку 30-ых гадоў і друкуе іх у часопісе «Чырвоная Беларусь», які рэдагаваў Чарот.

Не ўсе «Сілуэты» аднолькава ўдалыя, але яны — яўны крок наперад у параўнанні з «Сілуэтамі маладнякоўцаў». Хаця Вольны застаецца верным сабе: не столькі расказвае пра творчасць пісьменніка, колькі пра яго побыт, звычкі, характар, умовы, у якіх той рос і сталеў.

Да прыкладу, пра Міхася Лынькова ён піша, што той рос «ад бацькавай палучкі да бацькавай палучкі». Бо бацька ў гэты дзень добра запіваў, а маці, ведаючы гэта, ужо з раніцы пачынала з ім сварыцца. Міхась у такі момант лічыў за лепшае схавацца ў падпечак. «Дужа падпечак у старыя часы спрыяў творчай працы будучага пралетарскага пісьменніка», — жартуе Вольны. І дадае з'едліва: «Праўда, менскі камгас і да гэтага часу не пазбавіўся паўнай ідэалогіі падпечка, як найлепшага месца для творчай працы пралетарскага пісьменніка... Лынькову менскі камгас і да гэтага часу адмаўляе ў пакоі...»

Падрабязна выклаўшы біяграфію Лынькова, Вольны ў «лепшых традыцыях» той пары зазначае: «Не ўсе беларускія літаратары ішлі ў літаратуру гэткім шляхам. Некаторыя, як, скажам, Грамыкі, Цвікевічы, Байковы і г. д., уваходзілі ў літаратуру з некаторымі адхіленнямі — уцякалі то ад партызанскіх атрадаў, то ад Чырвонай Арміі... І раптам Грамыка ўжо вялікі паэт. Байкоў яму ўжо «нех бэндзе пахвалёны» піша. Цвікевіч яго ўжо асобнае выданне друкуе... Паглядзіш, было, на ўсё гэта, дый так падумаеш: «Эх, сволачы». Падумаеш ды змаўчыш. Ні адзін актор БДТ такога лаяльнага савецкага спеца на сцэне не згуляе, як гэтая група. Але з гэтай «разнавіднасцю» беларускай літаратуры камуніст-пісьменнік Лынькоў ніколі нічога супольнага не меў».

Бадай, толькі ў гэтым «Сілуэце» гучыць такая непрыхаваная горыч ад групаўшчыны ў літаратуры. Звычайна Вольны хаваў яе за ўсмешкай, жартам. Бо час такі наступаў: «падумаеш і змаўчыш». У «Сілуэце» пра Рыгора Мурашку ён ужо не гаворыць пра гэта так адкрыта.

**«...Добра цяпер нараджацца паэтам. Толькі, бывае, нараджаецца які, а яму — «Будзьце ласкавы, таварыш пісьменнік, патурбуйцеся, прайдзіце ў дом груднога дзіцяці. Тут зусім побач... Пасмокча, пасмокча ў доме груднога дзіцяці будучы пісьменнік, а тады — «Перавядзіце мяне, кажа, да дарослых у яслі. Хачу, кажа, з Аркадзем Куляшовым пазнаёміцца. Тут будучага пісьменніка адразу пад пахі, у яслі ды так: «Гадуйся, таварыш пісьменнік, гадуйся, БелАПП цябе чакае... Ну і гадуецца...»**

**У пісьменнікі не так лёгка падацца, бо пісьменнікаў у БССР ужо пад тысячу, кпіць Вольны. А далей працягвае вуснамі Мурашкі: «Ах, думаю, ну і прайдзісветы. Запытаюся, думаю, іх: на франтах былі? Рэвалюцыяй займаліся? Штук 15 бы засталося. Толькі б тых пісьменнікаў і бачыў... Але нічога, думаю, пра васількі будуць пісаць, а я пра рэвалюцыю... Знайду, думаю, сабе месца ў літаратуры...»**

**Аднаму літаратурнаму чыноўніку ў Доме пісьменнікаў Мурашка кажа, што шукае сваё месца ў літаратуры. Той у адказ: усе месцы заняты. Хто адказным сакратаром у аб'яднанні, хто «сябрам» у праўленні, хто старшынёй у згуртаванні... Адным словам, штатных месц няма.**

Калі чытаеш «Сілуэты» Вольнага 30-х гадоў, міжволі заўважаеш, як усё часцей і настойлівей падкрэслівае ён «класава адпаведную» біяграфію героя. Ужо столькі год прайшло пасля рэвалюцыі, а мець «не тое паходжанне» станавілася ўсё больш небяспечным. Вольны сумна жартаваў: пра ўсіх пісьменнікаў ён піша, што паходзяць яны альбо з рабочых, альбо з сялян-калгаснікаў. Інакш пісаць «неспадручна». Напісаў быў пра аднаго — паходзіць з інтэлігентаў, дык той пры сустрэчы паабяцаў аўтару: «Я, кажа, з цябе гэты інтэлігентны дух выганю!»

Тады яшчэ можна было асцярожна іранізаваць над тым, што робіцца ў пісьменніцкім асяроддзі. Сымон Баранавых з «Сілуэта» Вольнага ўспамінае, як у дзяцінстве пасвіў авечак, гаворыць, што яму сярод іх было лягчэй, чым сярод паэтаў, бо авечкі «не гэтак часта як на-

*Тэатр*

# Любоў перамагае Варожасць

**«РАМЭА І ДЖУЛЬЕТА» — прэм'ера Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР**

ШЭКСПІР, Пракоф'еў — імёны гэтыя маюць для харэографаў велізарную прыцягальную сілу, неаднаразовы зварот іх да партытуры «Рамэа і Джульеты», створанай кампазітарам паводле вядомай трагедыі, сведчыць пра гэта. І ў той жа час велічнасць гэтых імёнаў, здаецца, вымушае ўсхваляваца самае адважнае балетмайстарскае сэрца: цяжка стварыць харэаграфію, адпаведную ўзроўню такой літаратуры і музыкі. Да таго ж, першая пастаноўка «Рамэа і Джульеты» на сцэне Ленінградскага тэатра оперы і балета імя Кірава на доўгія гады зрабілася эталоннай і заклала досыць трывалы грунт мастацкіх традыцый. Сааўтары лібрэта, С. Пракоф'еў і балетмайстар Л. Лаўроўскі стварылі такую музычна-харэаграфічную драматургію, асноўныя вузлы якой сталіся апорнымі пунктамі для многіх наступных пастановак. Контуры яе, натуральна, праглядваюць і ў спектаклі, створаным на беларускай сцэне балетмайстрам В. Елізар'евым, дырыжорам Г. Праватаравым, мастаком Э. Гейдэбрэхтам. І ў той жа час у Мінску створана самастойная і новая харэаграфічная версія, дзе пастаноўшчык імкнецца злучыць як бы тры часы: Шэкспіраў, пракоф'еўскі і свой.

Харэограф адмаўляецца ад эпічнай распавядальнасці, уласцівай першай пастаноўцы балета, ад другарадных персанажаў (карміцелька, герцаг), ад некаторых жанравых сцэн і танцаў, карцін-звязак, якія тлумачаць дзеянне (многія з іх, як вядома, С. Пракоф'еў дапісваў па просьбе Л. Лаўроўскага, і яны былі нярэдка вынікам кампраміснага вырашэння супярэчнасцей паміж кампазітарам і балетмайстрам). У спрэчцы паміж аўтарамі першай пастаноўкі В. Елізар'еў відавочна становіцца на бок кампазітара. Яму, як і С. Пракоф'еву, бліжэй не гістарычна канкрэтны погляд на трагічную пагібель закаханых і барацьбу родаў, што вялася некалі ў Вероне, а разуменне іх як падзей з агульначалавечай гісторыі, якія маюць надчасавы, абагульнены характар.

Рухальнай сілай асноўных калізій спектакля робіцца супрацьдзеянне двух харэаграфічных тэм, якія можна было б назваць тэмамі Любові і Варожасці. Супрацьпастаўленне гэтае ў Елізар'ева востракантрастнае і маштабнае: Любоў у балеце мацней за смерць, але і Варожасць моцная і бессмяротная, як смерць. Першая з іх увасабляецца ў вобразах Джульеты, Рамэа, Меркуцыа, Ларэнца. Танцавальная мова іх узвышаная, светлая, мяккая. Але ў кожнай з галоўных дзейных асоб ёсць і адметныя асаблівасці.

Паэтычная і кранальная Джульета (артыстка І. Душкевіч). У найбольш экспрэсіўнай у партыі Джульеты сцэне засынання, дзе жах і здранцвеласць перадаюцца то з дапамогай ломкіх, быццам абарваных, то замаруджаных, быццам знікаючых некуды рухаў, у адажыо з Рамэа, раскрываецца цэласная і тонкая натура. Гэтаму нямала садзейнічае і акцёрская індывідуальнасць І. Душкевіч, балерыны, якая глыбока адчувае і ўмее пранікнёна перадаць свае пачуцці. Летуценнасць, праўда, крыху суцішаная нашым цвярозым XX стагоддзем, вызначае Рамэа (артыст У. Іваноў). Хваляванне і парыванні юнай душы цалкам раскрываюцца ў драматычных сцэнах і маналогах, дзе танцоўшчык па-майстэрску выкарыстоўвае усе выяўленчыя сродкі, дадзеныя яму пастаноўшчыкам. На першых спектаклях крыху недацягваў да запраграміраванага балетмайстрам узроўню мастацкага гучання выканаўца ролі Меркуцыа А. Фурман. У лексіцы гэтай партыі шмат вялікіх, «раскрытых» падскокаў (у адрозненне ад «закрытых» у Цібальда), дробных, жартоўных па афарбоўцы рухаў, іранічных поз. Меркуцыа жыве, змагаецца і памірае, смеючыся і шуткуючы. Маладому салісту не заўсёды хапае лёгкасці і вытанчанасці ў вырашэнні гэтай складанай мастацкай задачы. Мяккая, чалавечная пластыка патэра Ларэнца. Харэограф і выканаўца гэтай ролі А. Няцветаў ствараюць вобраз, пазбаўлены традыцыйнай сухаватай аскетычнасці. Гэта не жорсткі служыцель сярэдневяковай царквы, а мудры і гуманістычны святы айцец эпохі Адраджэння.

Арыгінальна і шматпланава ўвасоблена ў спектаклі тэма Варожасці. Балетмайстар дае ёй бачнае пластычнае ўвасабленне ў сімвалічным калектыўным вобразе — зацягнутых у шэрае злавесных фігурах, якія жывуць сярод людзей, апранаюцца пад іх, з ніадкуль узнікаюць у лічаных імгненні і робяць гэтыя імгненні фатальнымі: падштурхоўваюць руку, занесеную для ўдару, падаюць клінок бяззбройнаму. Шэрай завесай, быццам нейкім павуціннем Варожасць апускаецца на горад, смяротным покрывам накрывае спячую Джульету. «Прарастае» паўсюль. Носьбіты Варожасці пазбаўлены чалавечых твараў, але затое на іх целах выразна праступае нейкае падабенства крывяноснай сістэмы. Чорная, злая кроў, якая прасвечваецца праз усе покрывы — вось характарыстыка, якую дае гэтым істотам мастак. Харэаграфічная ж іх характарыстыка разнастайная і спярша можа падацца стракатай. Ды пазней высвятляецца, што яна мае адзіны прынцып: шэрыя фігуры як бы паўтараюць пластыку асноўных дзейных асоб, але пераводзяць яе кожны раз у сістэму гратэску. Быццам двайнікі ўзнікаюць яны, напрыклад, побач з параненымі пасля сутычкі Мантэкі і Капулецi і разам з імі як быццам знясілена схіляюцца да зямлі. Але ў іх перадсмяротных сутаргах адчуваецца раптам здзек і зларадная ўрачыстасць. Быццам азартныя балельшчыкі, паўтараюць носьбіты Варожасці рухі Рамэа і Цібальда ў бойцы. Але гэта — крываджэрны заклік да забойства і адначасова злоснае фіглярства, маска нянавісці. Апагею дасягае гучанне тэмы Варожасці ў 3-й дзеі балета, у фантасмагарычным танцы над целам Джульеты. Тут, быццам у крывым люстэрку, здзекліва-скажона адлюстроўваюцца тыя пластычныя матывы, на якіх грунтаваліся два папярэднія танцы — блазнаў і масак. Характар перадражнівання, цынічнага блазнерства падкрэсліваецца яшчэ і тым, што тут зноў паўтараецца мелодыя танца пад аркестр мандалін, якая выкарыстоўваецца аўтарамі мінскага спектакля як своеасаблівы драматургічны рэфрэн.

Задума харэографа патрабавала перапланіроўкі і некаторых іншых фрагментаў партытуры. Такія ўчынкі пастаноўшчыкаў амаль заўсёды выклікаюць пытанне пра іх права на гэта. І тут усё вырашаецца без асаблівых намаганняў, калі трансфармацыя музыкі робіцца па ўзгадненні з кампазітарам. Так было, скажам, са «Спартаком», які ў многіх тэатрах меў самастойныя музычныя рэдакцыі, адпаведныя задуме пастаноўшчыкаў і ўхваленыя А. Хачатуранам. Больш складана, калі неабходнасць у зменах узнікае пры адсутнасці кампазітара. На варту яго правоў тут жа становяцца непахісныя музыказнаўцы, адмаўляючы харэографам у магчымасці самага малога ўмяшальніцтва ў партытуру. Думаю, што гэта звязана з распаўсюджаным у музыказнаўчым асяроддзі поглядам на кампазітара як на **аўтара балета**. Балет Б. Асаф'ева «Бахчысарайскі фантан», балет А. Мелікава «Легенда пра каханне» — чытаем мы ў розных публікацыях, у той час як Асаф'еў і Мелікаў былі аўтарамі музыкі балета, а харэаграфія і пастаноўка, г. зн. тое, што робіць балет балетам, належалі харэографам Р. Захараву і Ю. Грыгаровічу. Менавіта балетмайстар з'яўляецца асноўным аўтарам балета ці, у крайнім выпадку, раўнапраўным сааўтарам кампазітара. (У нашай літаратуры ўжо выказвалася думка пра тое, што правільна было б аўтарамі балета называць, як мінімум, дваіх — кампазітара і харэографа). Ахоўваючы ж, і часта слушна, правы кампазітара, музыказнаўцы нярэдка беспадстаўна пакідаюць за балетмайстрамі толькі абавязкі, абмяжоўваючы іх ролю пасіўным пластычным вытлумачэннем музыкі, візуальным выяўленнем яе зместу.

Відаць, пытанне аб правах балетмайстра ў дачыненні да ўжо створанай музыкі ў кожным канкрэтным выпадку трэба разглядаць асобна, з улікам таго, хто, у што, дзеля чаго і як уносіць змены.

Музычны кіраўнік новай пастаноўкі па-сапраўднаму ашчадна і тактоўна паставіўся да кампазітара, захоўваючы логіку развіцця яго думкі (не зусім апраўданая, на мой погляд, усё ж, замена трагічнага ўступу да трэцяга акта на зусім іншую па гучанні «Ранішнюю серэнаду»), імкнучыся зрабіць максімальна непрыкметнымі «пастановачныя швы». Яго задачу палегчыла тое, што пры наяўнасці стройнай сістэмы лейттэм, партытура пабудавана па нумарным прынцыпе і многія фрагменты музыкі былі дапісаны і ўстаўлены самім С. Пракоф'евым. Дырыжор Г. Праватораў чуйна і тэмпераментна інтэрпрэтаваў партытуру, выяўляючы ў ёй дзівосную разнастайнасць пракоф'еўскіх фарбаў — ад трагічнага напалу страсцей, якія гучаць у кампазітара з шэкспіраўскай магутнасцю, да тонкай, празрыстай лірыкі.

Г. Праватораў і В. Елізар'еў здолелі паяднаць музычную і харэаграфічную стыхіі, прымусіўшы здзівіцца: а чаму ж музыка Пракоф'ева лічылася некалі «неданцантнай» і надта складанай для балета? Сёння харэограф імкнецца нават ускладніць вобразнасць, ствараючы, напрыклад, у тым жа танцы Варожасці кантрапункт музыкі і харэаграфіі, што нараджае адметны мастацкі эфект, своеасаблівы пластычны «трагіфарс». Мы нібыта бачым сарданічную ўсмешку смерці, якая святкуе сваю перамогу над жыццём, блюзнерскае

# Шрыфт — аўтограф часу

**Мастацтва, як правіла, асацыіруецца з чымсьці надзвычайным —з таямніцамі музейных сховішчаў, карцінамі ў адмысловых рамах, славутымі помнікамі дойлідства. І мала хто бачыць мастацтва ў звычайнай газетнай паласе, дарожным указальніку ці ў афіцыйнай шыльдзе на дзвярах установы. Падумаеш, літары, набраныя ў радок...**

**Але ж кожную літару стагоддзі апрацоўвалі, як хвалі марскія каменьчыкі. Ад іншых цывілізацый толькі і засталося, што літара ў сучасным алфавіце. Унцыял, анціква, гратэск — не проста назвы шрыфтоў, гэта аўтографы эпох.**

**Стаўленне да шрыфту, як да чагосьці, што не мае самастойнай эстэтычнай каштоўнасці, а толькі выконвае практычную функцыю, уласціва не толькі «сярэдняму» спажыўцу культуры, але і мастакам-прафесіяналам. Вось чаму І Рэспубліканская выстаўка шрыфтавога мастацтва, якая адбылася летась, нягледзячы на сваю камернасць і невялікую колькасць удзельнікаў і твораў,— важная падзея ў культурным жыцці. Гэта першая і, думаецца, вельмі ўдалая спроба разбурэння стэрэатыпных поглядаў на гэты від мастацтва, першая заяўка шрыфтавікоў на права ў мастацкім асяроддзі «людзьмі звацца».**

**Выстаўка займала так званую залу графікі Палаца мастацтваў. А побач, у зале дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, была разгорнута экспазіцыя твораў Паўла Семчанкі, прымеркаваная да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння мастака. З вопыту работы палаца добра вядома, што суседства персанальнай і рэспубліканскай выставак рэдка дае плён. Яно мімволі ператвараецца ў спаборніцтва, не патрэбнае ні аднаму, ні другому баку. Ды яшчэ ўявіце, што «персанальшчык» перамагае — бывае і так! Але тут выпадак іншы. Вылучэнне твораў П. Семчанкі ў асобны раздзел аб'ектыўна адлюстроўвае асобае палажэнне майстра ў шрыфтавым мастацтве Беларусі.**

**Немалая частка ўдзельнікаў рэспубліканскай выстаўкі — ягоныя вучні [П. Семчанка — выкладчык тэатральна-мастацкага інстытута], ён жа ініцыятар і адзін з арганізатараў выстаўкі. Ён адзіны на Беларусі тэарэтык шрыфтавога мастацтва. Зыходзячы з гэтых акалічнасцей, я і звярнуўся да Паўла Афанасьевіча з некалькімі пытаннямі.**

— Павел Афанасьевіч, на вашай выстаўцы, акрамя шрыфтавых кампазіцый,— жывапіс, афорты. Вы можаце працаваць як прафесіянал у розных галінах. Чаму ж менавіта шрыфт стаў для вас галоўным?

**— Відаць, у кожнага чалавека пасля таго, як ён набыў пэўны прафесіяналізм у адной справе, узнікае жаданне паспрабаваць сябе ў іншай, малавядомай. Пасля інстытута (я скончыў тэатральна-мастацкі ў 1970 годзе) такое жаданне ўзнікла і ў мяне. Я вырашыў заняцца шрыфтам менавіта таму, што ў інстытуце гэтай дысцыпліне не надавалася належнай увагі. Увогуле, гады вучобы паставілі перада мною больш пытанняў, чым далі адказаў. Мне хацелася, напрыклад, асэнсаваць выразныя магчымасці лініі. Гэта дазваляе шрыфт, бо ў шрыфце—лінія гэта ўсё. Колькі сябе памятаю, у мяне заўжды была любоў да лініі як да мастацкага сродку.**

**На жаль, у нас на шрыфт увогуле глядзяць толькі як на элемент сістэмы інфармацыі, і ўжо ні ў якім разе як магчымасць самавыяўлення мастака. Беларусь, да прыкладу, адна з нямногіх рэспублік у краіне, якая не мае ўласнага шрыфту.**

П. СЕМЧАНКА. Шрыфтавая кампазіцыя.



«Рамэа і Джульета». Сцэна са спектакля.

Фота Ул. КРУКА.

насмяянне пачварнасці над прыгажосцю. Шкада толькі, што танцу Варожасці крыху нестае хімерычнага размаху і сілы. Відаць, і выканаўцы танцуюць тут без неабходнай у гэтым выпадку павышанай экспрэсіі. (Дарэчы, і некаторыя іншыя танцы і сцэны, асабліва ў 1-м акце, пакідаюць жадаць лепшага выканання ад кардэбалету, які ў гэтым спектаклі чамусьці крыху фармальна паставіўся да сваёй ролі).

Тэма Варожасці распрацоўваецца харэографам і ў іншым ракурсе. Яе носьбіты — зусім рэальныя персанажы, члены сем'яў Мантэкі і Капулеці. Першыя накіды іх калектыўнага партрэта робіць Цібальд у найвыдатным выкананні А. Карзянкова. Яго агрэсіўная энергія, якая шукае выхаду, тут жа правакуе спрэчку, што хутка пераходзіць у сапраўдную бітву, якая быццам вір уцягвае ў сябе нават старых. Раз'ятранымі быкамі ідуць адзін на аднаго варагуючыя кланы, а расступаючыся, быццам адчыняюць дзверы ў царства смерці, дзе паволі, амаль у рапідзе, пад іранічныя крыўлянні фігур у шэрым, падаюць і паміраюць людзі.

Наступная сцэна малюе ўжо «парадны» партрэт Капулеці. Ва ўрачыста-грозным маршападобным танцы цяжка крочаць мужчыны, якія нясуць вялікія мячы, што ўспрымаюцца як сімвал тупога і бязлітаснага фанатызму, увасабленне грамадства, дзе ўсё трымаецца на сіле. Зброя ўвогуле адыгрывае ў спектаклі пэўную «скразную» ролю: мячы нясуць, быццам харугвы, пад імі, нібы пад абразамі, гаворацца клятвы; шпага робіцца не проста зброяй забойства: расхістваючыся, быццам маятнік гадзінніка, яна «адмярае» апошнія секунды жыцця, яна можа, нібы стрэлка вагаў, хістацца паміж «быць» альбо «не быць», узважваючы цану жыцця і смерці. У характарыстыку сям'і Капулеці ўваходзяць і іншыя, трапна знойдзеныя В. Елізар'евым, пластычныя матывы. Адзін з іх — складаныя і разнастайныя перапляценні рук, штораз са сваім іншасказальным зместам. Напачатку цесна спleceныя рукі бацькі, маці і брата Джульеты ўспрымаюцца як непарыўныя кроўныя сувязі; потым у гэтую сувязь рук уплятаюцца далоні Парыса, сімвалізуючы аб'яднанне ў Клан; яшчэ пазней гэтыя ўчэпіста злучаныя рукі робяцца ланцугом, які скоўвае Джульету.

Гэткіх запамінальных і вобразных знаходак, своеасаблівых харэаграфічных афарызмаў нямала ў спектаклі. Найвыразнейшы пластычны лейтматыў, які праходзіць праз увесь балет, — абрыс крыжа, які можна было б назваць нават своеасаблівым сімвалам эпохі. Ён выкарыстоўваецца ў балеце шматпланава і па-вынаходніцку, разгортваючыся ў дынаміцы ўсемагчымымі ракурсамі. Урачыстым рытуалам, свяшчэнным таінствам, ціхай малітвай перад амбонам успрымаюцца рухі трох персанажаў — патэра Ларэнца, Рамэа і Джульеты, якія кінетычна развіваюць розныя контуры крыжа; пра цяжар «хрэснага шляху» закаханых, пра еднасць дзвюх істот, незалежна ад таго, жывыя яны ці мёртвыя, сведчаць абрысы крыжа, якія сям-там узнікаюць у адажыо Рамэа са спячай Джульетай, у сцэне смерці герояў. І зусім па-іншаму прачытваюцца крыжападобныя малюнкі, калі іх носьбітамі робяцца персанажы супрацьлеглага лагера. Крыж, утвораны ўзнятымі над галовамі мячом і яго дзяржаннем у танцы рыцараў (1-я дзея) асацыіруецца з суровым пастулам крыжакоў; аблічча другога крыжа, магільнага, раптоўна і пагрозліва ўзнікае ў сцэне клятвы сям'і Капулеці над целам Джульеты, якая ўсё ж не здалася.

Харэаграфія, працятая шэрагам пластычных лейттэм; кантрастнасць супастаўленняў, асаблівасці драматургіі, — усё гэта набліжае структуру балета да сімфанічнай. Але ўсё ж В. Елізар'еву не заўсёды ўдаецца пераадолець традыцыі харэадрамы. Залішне традыцыйны фінал, вырашаны ў статычна-пантамімным плане; ілюстратыўнай выглядае сцэна, дзе патэр Ларэнца прапаноўвае Джульеце сон замест смерці; непераканаўчы, на мой погляд, эпізод, калі Рамэа дае аплявуху Цібальду пасля забойства Меркуцыа. Можна было б таксама пажадаць балетмайстру і выканаўцам псіхалагічна дакладней падаць імгненне пасля таго, як Джульета здымае маску з Рамэа і ўпершыню бачыць яго твар.

Тое ж самае можна сказаць і пра сцэнаграфію. Асобныя пралікі мастака (невыразная, «дзяжурная» суперзаслона; неапраўдана светлы касцюм Парыса, які набліжае яго да двух апранутых у белае герояў і выстройвае нейкі драматургічны трохкутнік, у той час як харэограф свядома робіць Парыса «ніякім» і вылучае ў змрочнае Сярэднявечча толькі двух носьбітаў светланосных ідэй Рэнесанса — Рамэа і Джульету) не зніжаюць агульнай найвысокай адзнакі яго работы. Выкананыя ў шэра-чырвоным каларыце, багатым колеравымі адценнямі і светлавымі эфектамі, мабільна мадыфіцыраваныя дэкарацыі з'яўляюцца арганічнай і дзейснай часткай драматургіі спектакля. Сімваламі Варожасці робяцца палавінкі моста, якія раз'ядноўваюцца і быццам ўздыбліваюцца; на недасягальную вышыню ўздымае Джульету знакаміты балкон, які ўзносіцца да каласнікоў; і ён жа ў фінале робіцца як бы злучальнай часткай моста паміж родамі, моста, «наведзенага» Каханнем.

Такая драматургічная «пабудаванасць» спектакля, прадуманасць яго агульнага вырашэння ні ў якім разе не робіць балет сухаадцяжным ці складана рацыяналістычным. Сур'ёзнасць і глыбіня музычна-харэаграфічна - сцэнаграфічнай канцэпцыі ўкладзена ў ясныя, празрыстыя, эмацыянальныя формы, што нагадвае пра сказанае аб С. Пракоф'еве: зрабіўшыся вялікім кампазітарам, ён не страціў кантакту з аўдыторыяй.

Даўно мінулыя падзеі, пра якія расказвае спектакль, хвалююць, быццам цяперашнія, пераможаная Любоўю Варожасць пакідае сцэну, але гатовая, здаецца, спусціцца да нас у залу, пачуцці герояў кіпяць і пераліваюцца праз рампу, прымушаючы спачуваць гледачоў. І гэта тыпова для «тэатра Елізар'ева», які моцны сваімі кантактамі з залай, са сваім удумлівым, спагадлівым і (што асабліва важна сёння) шматлікім гледачом.

**Юлія ЧУРКО.**

---

**Мы некрытычна скарыстоўваем шрыфты, распрацаваныя для іншай мовы і літаратуры. Ці можна друкаваць Коласа тым жа шрыфтам, што і Пушкіна? Ды, безумоўна, не. Але так робяць. А гэта тым больш крыўдна, што мы маем выдатныя літаратурныя традыцыі, і адпаведна — традыцыі кнігадруку. У XVI стагоддзі на Беларусі скарыстоўвалася не меньш чатырох шрыфтоў — гатычны шрыфт (выдатны ўзор—Брэсцкая біблія 1563 г.), лацінізаваныя кірыліцы Скарыны, шрыфт на аснове скарапісу (выданні Мсціслаўца); а таксама друкарскія шрыфты, якія фактычна ідуць ад традыцый рукапіснай кнігі. За кожным такім шрыфтам стаіць цэлая эпоха ў культуры. Былі цікавыя набыткі і ў пазнейшыя часы. Усё гэта спадчына, якая патрабуе навуковага вывучэння, вобразнага асэнсавання і ў рэшце рэшт — практычнага скарыстання. Стан нашай мовы — гэта люстэрка культуры. Пісьмо — таксама. Па тым, як людзі гавораць і пішуць, можна меркаваць пра агульны ўзровень культуры грамадства.**

— Як падказвае вам асабісты вопыт — ці зойме шрыфт у хуткім часе вартае месца сярод іншых мастацтваў?

**— Я адзіны, хто прыняты ў Саюз мастакоў Беларусі за свае шрыфтавыя кампазіцыі. Усе астатнія шрыфтавікі прыходзілі як графікі, плакатысты. У нас амаль няма мастакоў, для якіх шрыфт быў бы асноўным заняткам. Нам не хапае кадраў. А кадраў няма, бо стаўленне да шрыфтавога мастацтва проста ганебнае. Расцэнкі на шрыфтавыя работы настолькі нізкія, што адбіваюць ахвоту сумленна працаваць. Адбываецца дэвальвацыя мастацтва.**

**Памятаю, з якімі цяжкасцямі ішло зацвярджэнне шрыфту надпісу «Плошча Леніна» для Мінскага метро. У тых, хто прымаў маю работу, крытэрыем было «падабаецца — не падабаецца». Ніякага разумення аб формаўтваральных прынцыпах шрыфту, аб семантыцы. Дарэчы, у прафесійным сэнсе абсалютна непісьменна зроблены надпіс «Кастрычніцкая» на адпаведнай станцыі. Ды што метро — хатынскі мемарыял, на маю думку, шмат губляе ў выразнасці з прычыны недапрацаванага шрыфту памятных надпісаў.**

**Набліжаецца юбілей Францыска Скарыны, і зноў жа — дагэтуль Беларусь не мае сучаснага, новаскарынінскага шрыфту. Бясконца можна пералічваць чаго мы не маем, ці тое, што зроблена дрэнна. Але ж хочацца спадзявацца на лепшае, бо кожны год бачу новыя імёны, новых людзей, здольных да сур'ёзнай працы ў мастацтве шрыфту. Ды і сама наша першая выстаўка гаворыць пра тое.**

— Якія работы вашай персанальнай выстаўкі вы лічыце найбольш важнымі?

**— Апошнім часам я сур'ёзна займаюся каліграфічным маляваннем. Можа, гэты тэрмін і не зусім дакладны. Я спрабую рабіць тэксты — краявіды. Тут, на выстаўцы «Нарачанскія матывы». Думаю працаваць у гэтым напрамку і далей.**

— Для мастака вельмі важна ведаць, што ягоная справа знаходзіць паслядоўнікаў...

**— Мне б хацелася сабраць разам лепшых шрыфтавікоў Беларусі, стварыць свайго роду «Школу каліграфіі». Гэта ўвогуле магчыма.**

**Другая справа — рэальны выхад нашай працы. У мастацтве вельмі важна захаваць натхненне. Для гэтага патрэбны адпаведныя матэрыяльныя ўмовы. Патрэбны мецэнаты. Спадзяюся, што выстаўкі — і рэспубліканская і мая персанальная ўздымуць інтарэс грамадства да мастацтва шрыфту, паспрыяюць пашырэнню той простай думкі, што культура шрыфту — частка агульнай культуры народа.**

**Вёў гутарку**
**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

---

*З пошты аддзела музыкі*

# «Хто ж напіша, калі не вы?..»

Паважаная рэдакцыя! Ваша публікацыя «А дзе ж узяць такую песню?» («ЛіМ», 23 снежня 1988 г.) выглядае завершанай па форме і па змесце. Мне ж здаецца, што гэта не зусім так. Вас здзівіла пісьмо настаўнікаў са Смаргоні. Мяне — ніколькі. Калі можа «Вожык» (аўтар мае на ўвазе «Вожык» № 20 за кастрычнік 1988 г., дзе змешчаны артыкул «Бугі-вугі пад Лявонцьева». — **Рэд.**), чаму не могуць іншыя? Вось ужо сапраўды «бей своих, чтоб чужие боялись!» Думаю, што для такога меркавання пра нашых артыстаў, якое выказалі аўтары пісьма, ёсць прычыны. Гэта недасведчанасць, нізкі ўзровень музычнай, ды і агульнай культуры. І не дзіўна, што не бачылі тыя настаўнікі японскі сінтэзатар і бачыць не хочуць; што ім да радасці артыстаў, што выступаюць яны не пад разбітае фартэпіяна, не з сапсаваным мікрафонам (я бачыла такое неаднойчы), а пад высакаякаснае музычнае суправаджэнне? Сумна і сорамна.

Не магу сказаць, што Вы не змяшчаеце матэрыялаў аб праблемах, што існуюць у нашым музычным мастацтве (я з вялікай цікавасцю прачытваю кожны нумар газеты). Але пішаце часцей за ўсё тады, калі праблема выліваецца ў канфлікт ці, наадварот, вырашаецца станоўча. Мне ж здаецца, што заўважыць і дапамагчы артыстам вырашыць праблему трэба як мага раней. Расказваеце, напрыклад, пра ансамбль народнай музыкі «Жывіца», які стварыла на Дзяржтэлерадыё В. Пархоменка, а чаго гэта каштавала — ні слова. Ці змяшчаеце на ўсю першую старонку партрэт Я. Еўдакімава, пішаце пра яго канцэрты ў Маскве, Кіеве, а чаму няма такіх канцэртаў у Мінску, у іншых гарадах, чаму ў спевака да гэтага часу наогул няма сольных канцэртаў, застаецца толькі здагадвацца. А здагадкі бываюць розныя. Вось і лічаць аўтары пісьма, што Еўдакімаву ў нас стварылі ўсе ўмовы для творчага росту, «выпесцілі» яго. А ці так гэта? Адкуль ім ведаць? Вы ж пра ўмовы, у якіх працуюць (і не толькі працуюць) нашы нават самыя вядомыя дзеячы мастацтва, не расказваеце. Хіба тут няма праблем?

Напэўна, не трэба пісаць пра тое, колькі шукаюць спявак ці спявачка патрэбнай інтанацыі для кожнага слова, нават складу, пра іншыя, чыста прафесійныя, творчыя цяжкасці, але пра тое, што адцягвае іх ад творчасці, прымушае займацца другарадным, перашкаджае працаваць, — пісаць, лічу, трэба абавязкова. Хто ж пра гэта напіша, калі не «ЛіМ»?

Што ж датычыць рэпертуару Я. Еўдакімава, дык магу сцвярджаць, што з даволі вялікай колькасці беларускамоўных песень апошніх двух-трох гадоў мала, на вялікі жаль, такіх, якія б адпавядалі яго творчай індывідуальнасці. А ўключаць у рэпертуар песні «для асартыменту», падобна, не ў правілах спевака, і гэта толькі добра. (Пішу гэтыя радкі, а па «Маяку» гучыць «Зачараваная мая», дзесьці сёмы год ужо гучыць. І колькі яшчэ будуць жыць «Світанак», «Кветка шчасця», «Белыя крылы», «Замова»!..).

Кампазітараў таксама не буду спяшацца абвінаваціць. Чытаць беларускія вершы (а добрыя вершы ёсць) яны, можа, і ўмеюць, а вось думаць па-беларуску навучыліся яшчэ не ўсе. І гэта агульная наша бяда. Аднак думаю, што не вельмі далёкі той час, калі і гаварыць, і спяваць, і думаць па-беларуску змогуць і захочуць усе беларусы, а разам з намі і тыя небеларусы, што шчодра дзеляцца з намі сваім талентам. «ЛіМ» шмат робіць для гэтага, аднак і ад настаўнікаў залежыць нямала.

**А. МІЦКЕВІЧ,**
**супрацоўніца педінстытута.**

г. Віцебск.

**Ад рэдакцыі.** Для нас вельмі важна атрымліваць такія лісты. Адразу відаць, якая трывалая зваротная сувязь існуе паміж газетай і нашым сталым дасведчаным чытачом. Мы з удзячнасцю прыслухоўваемся да зычлівых парад нераўнадушнага чалавека. Імкнёмся падтрымліваць прапановы чытачоў. Уважліва ставімся да чытацкіх меркаванняў, нават калі не ўсе яны гучаць ва ўнісон з нашымі.

Апублікаваўшы ліст А. Міцкевіч, мы прызнаём права аўтара выказаць праз газету свой пункт гледжання, сцвердзіць свой густ, падзяліцца эмоцыямі. І ўсё ж, зыходзячы з уласнай журналісцкай практыкі, павінны заўважыць: часцяком бывае проста неэтычна выносіць на «ўсеагульныя агледзіны» тое, што адцягвае людзей мастацтва ад творчасці, «прымушае займацца другарадным, перашкаджае працаваць». Жыццё натур даравітых, па-сапраўднаму творчых ніколі не бывае гладкім, лёгкім. Творцы, артысты — людзі з датклівай душою, супярэчлівым характарам — ахвотна распавядаюць пра свае праблемы ў давяральнай гутарцы і далёка не заўсёды даюць згоду рабіць гэтыя праблемы прадметам публічнага абмеркавання ці выносіць іх на старонкі друку.

Калі ж яны звяртаюцца да «ЛіМа» як да трыбуны, дзе можна сказаць пра набалелае, гэта адчуваецца на нашых старонках. Пералічваць зараз такія публікацыі няма патрэбы: зацікаўлены чытач іх, пэўна, заўважае і памятае.

# МАСТАЦТВА, ЯКОЕ АЧАЛАВЕЧВАЕ



**Штрыхі да творчага партрэта народнага артыста БССР Паўла КАРМУНІНА**

АДНОЙЧЫ да мяне прыехала з Урала сястра і папрасіла паказаць ёй новы тады спектакль купалаўцаў «Плач перапёлкі». Пасля доўга маўчала, узрушаная і прасветленая, і загаварыла перш-наперш пра цудоўных акцёраў, якія так заглыблена і маляўніча жывуць на сцэне жыццём сваіх персанажаў. «Які сапраўды беларускі талент у Кармуніна», — заўважыла яна. І мне давялося расказаць ёй пра тое, як гэты артыст некалі ўваходзіў у творчы ансамбль купалаўцаў.

Было гэта ў шэсцьдзесят восьмым. Павел Кармунін ужо выступіў з прыкметным акцёрскім поспехам у спектаклі «Я, бабуля, Іліко і Іларыён». Перайшоўшы з рускай сцэны на беларускую, ён бліскуча сыграў па-беларуску ролю грузінскага вяскоўца. Сачыць за тым, як ягоны Іліко зіркае па баках сваім адным вокам, відушчым і дапытлівым, пільным і раўнівым, — было эстэтычнай асалодай, бо гэта было сапраўды мастацкае ўзнаўленне жыццёвай рэальнасці. І такая натуральная — «грузінская» па тэмпераменце! — гаворка. І вось пасля такой упэўненай акцёрскай работы — роля начальніка АТК Цярноўскага ў «Гросмайстарскім бале» паводле рамана І. Штэмлера.

Мабыць, я прыгадаю зараз не надта прыгожыя этычныя *паводзіны* тады яшчэ даволі маладых акцёраў — партнёраў Кармуніна, але яны, бывае, і цяпер не вельмі строга ставяцца да дысцыпліны. Даруйце, так было. І — бывае, на жаль. Дык вось, на адным са спектакляў, як толькі на сцэне з'яўляўся Цярноўскі, маладыя інжынеры раптам звярталіся да яго: «Вы хацелі нам сказаць тое і тое?..» У Кармуніна разгубленыя вочы. Ягоны Цярноўскі не ведае, што рабіць, і — галоўнае! — што гаварыць. Бо «тое» і «тое» ў вуснах маладога інжынера — гэта ж яго тэкст, выхаплены партнёрам з вуснаў Кармуніна. А беларускай мовай артыст яшчэ валодаў не так, каб імправізавана адказаць на экспромт, асабліва на такі *насмешлівы* жарт. Што ўпэўнена і дакладна мог вымавіць Павел, дык гэта вокліч: «Дзіцячы сад!». Гэткім воклічам наводзіла цішыню за кулісамі тэатра памочнік рэжысёра Зінаіда Скачкоўская, калі артысты пачыналі надта рагатаць з якога анекдота ці жарту. І вось начальнік АТК і выкрыкваў у адчаі: «Дзіцячы сад!» Малады інжынер стаяў на сваім: «Ах, вы нам хацелі сказаць яшчэ тое і тое...», зноў наперад выказваючы наступныя рэплікі Цярноўскага, і ў адказ пасля ўдару кулаком па стале выбухам гучала рашучае: «Дзіцячы сад!» Па сюжэтнай сітуацыі гэта адпавядала настрою і тэмпераменту кармунінскага персанажа, і таму мы, гледачы, ад душы смяяліся ў зале і нават аднаго разу апладзіравалі сапраўды натуральнаму адчаю начальніка на сцэне, які ад разгубленасці і гневу нічога, акрамя «Дзіцячы сад!», вымавіць не можа...

Кажуць, Павел тады ўзмакрэў ад поту, але па-акцёрску знайшоўся і не даў сябе пакрыўдзіць. Больш такіх жартаўлівых эксперыментаў яго партнёры сабе не дазвалялі. За дваццаць гадоў з тае пары П. Кармунін выканаў на падмостках нашай акадэмічнай сцэны шмат роляў, лепшыя з якіх упісаны ў летапіс акцёрскага мастацтва Беларусі. З рускай сцэны ён прынёс сваю павагу да аўтарскага слова, якое ў вуснах акцёра можа гучаць праўдзіва і натуральна толькі тады, калі яно знойдзена, злоўлена, адгадана або выпхнута немым крыкам з душы чалавека. З душы! Якой бы дробнай ці высакароднай, якой бы па-рыцарску велічнай ці, наадварот, подлай ні была тая душа.

Вядома, калі акцёр, робячы аўтарскі тэкст ролі «сваім», прыслухоўваецца да духоўных парыванняў і пошукаў героя і да ўласных творчых імпульсаў, ён у гэтым суладдзі і набліжаецца да стварэння арыгінальнага характару. Спалучэнне псіхалагічных і нават чыста фізіялагічных «жаданняў», якімі жывіцца роля, і асабіста акцёрскіх — вось у ідэале сцэнічны вобраз. Бывае, ён не зусім, а то нават і цалкам не супадае з нашымі папярэднімі ўяўленнямі пра той або іншы персанаж. Тады мы не прымаем (або прымаем не адразу) работу артыста.

Нешта падобнае адбылося са спектаклем «Дзядзька Ваня», дзе П. Кармунін выступаў у галоўнай ролі. Рэжысёр А. Шатрын выводзіў да нас стомленага духам, змарнелага і зняверлівага Івана Пятровіча Вайніцкага, які нібы да сонечнага праменьчыка цягнецца да Алены Андрэеўны. І калі гэты праменьчык свеціць у бок сябра Вайніцкага — Астрава, штосьці гіне ў трапяткой душы героя П. Кармуніна. Ён рухаецца амаль машынальна. Звычайны чалавек! І крычыць ён, збунтаваны, што нібыта мог бы стаць Шапенгаўэрам або Дастаеўскім, так, што мы здагадваемся: не, ніколі з такога Вайніцкага мысліцель-прарок не атрымаўся б, бо скаваны сваім характарам дабрачыннага прымірэнца ён цягне лямку дзеля дабрабыту і спакою нават зусім чужых яму людзей, і *прывык быць такім.*

Чамусьці мы тады не вельмі радаваліся гэтаму Івану Пятровічу Вайніцкаму. Мабыць, яшчэ і таму, што ён па-кармунінску сумленна сведчыў пра тую рэдкую, дзіўную і дзівосную, духоўную ўзнёсласць, якая не сароміцца прызнаць сваю ўласную «дробнасць» у параўнанні з высокім ідэалам і натуральным адказным прызваннем чалавека. Такі дзядзька Ваня як бы пытаўся ў нас: а вы, маўляў, паглядзеўшы на сябе ў люстра, змаглі б прызнаць, што вашых душэўных сіл не хапае для таго, каб быць на ўзроўні перадавых уяўленняў аб чалавечай годнасці? Магчыма, і таму яшчэ тагачасная тэатральная крытыка вельмі стрымана ацэньвала самабытную трактоўку рэжысёрам і артыстам гэтай хрэстаматыйна-вядомай тэатралам ролі. Вайніцкі са скрухай прызнаваў, што нашы амбіцыі не заўсёды бываюць падмацаваны нашымі прыроднымі сіламі.

Калі я аднойчы вініўся перад Пашам Кармунінам за нашу крытыку, ён дастаў з паліцы кніжку Я. Скрыгана і разгарнуў яе на старонцы з такой максімай: «Баюся верыць у мастацкую бясспрэчнасць аўтара, якога вельмі скоранька хваляць. У паспешлівасці заўсёды ляжыць нешта не надта дружнае з ісцінаю». Не, апладысменты і хвалебныя эпітэты ў рэцэнзіі цешаць ягонае акцёрскае сэрца, але сам ён куды вышэй ставіць ісціну, дзеля якой і займаецца сцэнічнай творчасцю. Так, помню, гаварыў ён мне якіх пятнаццаць гадоў назад. Сціплы, нават дэманстратыўна «звычайны» ў натоўпе калег, ён пазбягае дэкларатыўных заяў і ніколі не выступае з трыбун. Ён працай на падмостках сцвярджае штосьці важнае. У галоўных і ў эпізадычных ролях яму хочацца адкрыць штосьці жывое, каб тое жывое — пачуццё гэта або думка, настрой ці парадаксальны псіхалагічны стан,— перакінулася праз рампу і кранула б гледача.

— Толькі, на прамілы бог, не пішы «сэрца гледача», — папрасіў Павел мяне, калі я гаварыў яму пра гэта.

Мне цяжка выбраць адну якую-небудзь з роляў Кармуніна, каб сказаць: яна — самая лепшая ў ягоным рэпертуарным спісе. І ўсё ж наўрад ці памылюся, калі назаву адной з вяршынь яго творчасці Лявона Зябліка з «Раскіданага гнязда» Я. Купалы. Спачатку гэты вобраз успрымаўся каларытным эскізам да псіхалагічна верагоднага і дакладнага партрэта беларускага селяніна. Потым ён набіраў нейкія нечаканыя інтанацыі ў мове і рытм у дынаміцы пачуццяў, і Лявон ўжо ўспрымаўся ў пэўнай ступені тыповым характарам мужыка-беларуса, мужыка-славяніна, здатнага доўга трываць і мужна ўтаймоўваць свой гнеў, але... Трагедыйны ўзлёт Лявона раскрываў перад намі прытоеную ў гэтым характары сілу, якой адчай не дае здзейсніць усё, на што патэнцыяльна здольны звычайны беларускі мужык.

І сёння помню, як спазмы перахапілі мне горла ад роспачы і гора, што выплеснуліся з гэтага сэрца, з гэтых вачэй, з гэтых вуснаў. У тым спектаклі семдзесят другога года, пастаўленым Б. Луцэнкам да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, было сузор'е сапраўды бліскучых акцёрскіх работ (Старац Л. Рахленкі, Марыля С. Станюты і Р. Кашэльнікавай, Зоська В. Кліменкі, Данілка Ю. Лясного і А. Уладамірскага, Сымон В. Белахвосціка, Незнаёмы Г. Гарбука). Лявонам па чарзе былі П. Кармунін і С. Хацкевіч, у нечым вельмі блізкія артысты, але ў кожнага з іх вобраз атрымаўся адметны. Розніца адчувалася найбольш у тым, як тонка П. Кармунін выявіў прыродную летуценнасць *Лявона, якая не гасла ў ім,* а перараблялася ў люты гнеў і роспач. Ды толькі ў вачах зіхацела тая, відаць, з малых гадоў прытоеная ў ім мара пра справядлівасць, якой павінен жа яго ўзнагародзіць у рэшце рэшт лёс або бог... Не ўзнагародзілі. Ні лёс, ні бог...

Унутраны драматызм такіх роляў П. Кармуніна каштоўны тым, што артыст не губляе ў сюжэтных і псіхалагічных адгалінаваннях *вобраза* пэўнай генеральнай думкі. У Лявоне Зябліку гэта — свабодалюбства, неадрыўнае ад прагі справядлівасці. У горкаўскім «На дне» ў Лукі — душэўная патрэба памагчы чужому гору, калі гэта толькі можна, хоць бы словам суцяшэння, ціхім і прачулым, своечасовым і шчырым. Бацька ў «Парозе» А. Дударава ў П. Кармуніна апантаны трывогай за сына, які ў нечым паўтарае і працягвае штосьці ўласцівае самому Бацьку, але на той жудаснай арбіце, сачыць за якой балюча і горка, бо і не ведаеш, каго судзіць за такое падзенне ўсё ж любага чалавека, якому ты сам даў жыццё...

Талент П. Кармуніна квітнеў найбольш ярка акурат тады, калі ў нашым грамадстве яшчэ лунала гучнае рэха XX з'езда КПСС і ўжо адраджаліся ранейшыя ўмовы ўзаемаадносін паміж «жыццём» і «мастацтвам». Зноў пачынала панаваць меркаванне, быццам усе заганы і недахопы ў нас — гэта, з аднаго боку, вынік уплыву на нас «капіталістычнага мінулага» (нават мінулага «часоў царызму»), а з другога — прошукаў буржуазных ідэолагаў, ад якіх нашы людзі вучацца адмерваць даўжыню спадніц і манеру *паводзін* у высокіх кабінетах ці ў інтымным коле. Такія артысты, як П. Кармунін — а ён у сваю чаргу ганарыцца тым, што прымаў творчую эстафету ў купалаўскім рэпертуары ад Глеба Глебава і быў партнёрам Лідзіі Ржэцкай, Уладзіміра Дзядзюшкі, Леаніда Рахленкі, Стэфаніі Станюты, Галіны Макаравай, Здзіслава Стомы, — такія артысты свядома або інтуітыўна, але паслядоўна даследавалі спрадвечную загадку для мастацтва — феномен чалавека. У п'есах класічнай драматургіі і ў сучасных творах К. Крапівы, В. Быкава, І. Мележа, А. Макаёнка, М. Матукоўскага, А. Петрашкевіча яны па-мастацку ўвасабляюць дыялектыку антаганізму, паміж тым, чаго хоча і да чаго імкнецца асоба паводле сваіх прыродных дадзеных, і тым, чаго вымагае ад яе час, вымагаюць абставіны і становішча. Афіцыйна (у прыватнасці, у нашай крытыцы) такі антаганізм лічыўся не вартым увагі, яго быццам і няма. А на сцэне даволі часта асэнсаванне чалавечых магчымасцей вялося менавіта праз гэты канфлікт. Ён і вызначаў жанравую палітру нашай сцэны — ад трагедыі (Мацей і Парфірый П. Кармуніна ў «Апошнім шанцы» В. Быкава і «У мяцеліцу» Л. Ляонава) да амаль вадэвільнага відовішча («Амністыя» М. Матукоўскага) і сатырычнай драмы («Пагарэльцы» А. Макаёнка). Разам з рэжысёрамі Б. Эрыным, Ц. Кандрашовым, В. Раеўскім, Б. Луцэнкам купалаўскі тэатр у найбольш праўдзівых па сутнасці адлюстраваных канфліктах рыхтаваў спакваля нас да той перабудовы, якой мы жывём сёння. І тут П. Кармунін быў сярод актыўна дзеючых мастакоў менавіта такога грамадзянскага тэмпераменту.

Не буду затрымлівацца на камедыйным таленце гэтага артыста. Імправізацыйная непасрэднасць спалучаецца ў яго з адчуваннем пэўнага гратэску, калі ў полі зроку тэатра фігура прайдзісвета або дэмагога, падхаліма ці зацятага бюракрата; і які лагодны яго смех над вартым чалавекам, што мае нейкія «слабасці». Нават і даравальныя, па-людску зразумелыя, без якіх цяжка ўявіць сабе нармальную асобу наогул. Як кажа той самы Я. Скрыган: «Нават самае святое каханне *чакае на свой чалавечы грэх*». Што ж тады казаць пра Антона Кроплю («Канстанцін Заслонаў») або пра Кічкайлу («Амністыя» М. Матукоўскага). Нават па гэтых дзвюх ролях можна адчуць амплітуду сцэнічнага гумару артыста — ад добразычлівай лагоднасці, да з'едлівых кпінаў сатырычнага напалу.

Мы ўсе бываем удзячнымі тым мастакам, што пакідаюць доўгі ўспамін пра сябе, *пра свае творы.* Акцёр у гэтых адносінах займае асаблівае становішча, бо яму кожны раз трэба пераканаць нас, што мы бачым на сцэне не яго, не Паўла Кармуніна, а дзеда Цярэшку, напрыклад, з «Рудабельскай рэспублікі» С. Грахоўскага або Чарнушку з мележаўскіх «Людзей на балоце», Торгалу («Брама неўміручасці» К. Крапівы) ці Сцяпана Крыніцкага («Паўлінка» Я. Купалы). Менавіта пра гэта галоўны мастакоўскі клопат акцёра, які добра разумее дзеля чаго ён выходзіць на тэатральныя падмосткі.

Адлюстроўваючы чужую душу, псіхалагічную арганізацыю асобы, інтэлектуальныя асаблівасці і адметны тэмперамент жывога персанажа, артыст заражае *нас пэўнымі адносінамі* да пэўных тыпаў людзей. Агідай або прыхільнасцю, гідлівасцю або павагай, лагоднай паблажлівасцю або высокай пашанай. а гэта — актыўныя эмоцыі. І калі з іх дапамогай не пераробіш грамадства, то самога чалавека задумацца над уласным жыццёвым почыркам, над тым, які ён сам і як жыве на гэтым свеце, можна. Хай сабе зусім зрэдку! На схіле XX стагоддзя мы ўсе зразумелі, што сама чалавечая прырода недасканалая і таму нават такая вялікая сума людскіх індывідуальнасцей, як народ, адразу і механічна зліцца ў нешта дабрачыннае не здольная. Гэта магчыма, калі духоўна ачалавечыць як мага больш людзей. Мастацтва — ачалавечвае. Інакш яно — толькі люстра. І кожны крок да ісціны ў мастацтве — гэта хай сабе і ледзь прыкметны крок чалавецтва да жаданай дасканаласці асобы, чалавечага роду, грамадства.

*Я перабольшваю? Магчыма.* На гэта мяне падштурхоўваюць тыя хвіліны суперажывання з героем тэатральнага відовішча, пасля якога я адчуваю, як мяне самога судзіць маё сумленне. Я ўдзячны народнаму артысту БССР Паўлу Кармуніну за тое, што не адзін раз яго сцэнічныя вобразы абуджалі ва мне нешта падобнае.

Барыс БУР'ЯН.

# Дружбы моцныя крылы

**Міхаіл Ісакоўскі, Аляксандр Твардоўскі! З душэўным хваляваннем вымаўляеш гэтыя імёны, дарагія кожнаму. І тут жа амаль падсвядома працягваеш: Янка Купала, Якуб Колас.**

Дружба класікаў рускай і беларускай літаратур — натхнёны прыклад нам, суседзям-літаратарам. У яе моцныя крылы, якія і сёння падтрымліваюць творчыя і чалавечыя адносіны паміж смаленскімі і віцебскімі пісьменнікамі.

У розны час гасцямі Смаленска былі віцебскія літаратары Д. Сімановіч, У. Папковіч, Б. Беляжэнка, А. Жыгуноў, Анатоль Канапелька, а гасцямі Віцебска —паэты У. Прастакоў, Н. Яначкіна, кампазітар У. Крупін. Заканамерным працягам гэтых паездак сталі пераклады на беларускую мову вершаў смалян А. Мішына, Ю. Пашкова, В. Смірнова, Л. Козыра, У. Тазава, М. Голешава, апавядання А. Дземчанкі, якія сёлета ўбачаць свет у альманаху «Братэрства».

А нядаўна новая сустрэча сяброў адбылася ў Смаленску ў рамках Дзён Віцебскай вобласці. У ёй удзельнічалі Д. Сімановіч, І. Жарнасек, П. Ламан, А. Жыгуноў і аўтар гэтых радкоў.

Цёпла і сардэчна прымалі нас смаляне ў сваёй пісьменніцкай арганізацыі, а потым разам з чытачамі ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна, дзе была разгорнута выстаўка кніг беларускіх пісьменнікаў.

Запамінальнай была паездка ва Узгор'е — на радзіму Аляксандра Твардоўскага. Тут сёння аднаўлена сядзіба-музей вялікага паэта. Шмат цікавага пачулі мы ад яго брата Івана Трыфанавіча, дакрануліся душой да далоняў зямлі, узгадаваўшай свайго слыннага сына.

У заключэнне адбылося прадстаўнічае паэтычнае свята ў сельскім Доме культуры саўгаса «Пачынкаўскі».

Алег САЛТУК,
сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СП БССР.

# «Світанак» у Рызе

У 1921 годзе ў Латвіі, дзе было каля 80 тысяч беларусаў — карэнных жыхароў, утварылася Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Тады ж пры Міністэрстве асветы стаў дзейнічаць Беларускі аддзел. Яго кіраўнік, Сяргей Пятровіч Сахараў, ва ўспамінах пісаў, як «акрыленая і адухоўленая словамі Райніса беларуская інтэлігенцыя *дружна прынялася за працу*». У першы ж год адкрыліся дзве гімназіі, настаўніцкія курсы, сельскагаспадарчая школа і 19 пачатковых школ, арганізавана трупа народнага тэатра, пачала развівацца выдавецкая справа...

Летась па ініцыятыве Народнага фронту Латвіі ў суседняй рэспубліцы зноў узніклі культурна-асветныя нацыянальныя таварыствы. Аднавіла сваю дзейнасць і беларускае таварыства, якое зараз прыняло назву «Світанак». Выпрацаваны статут і праграма таварыства, кіраўніком якога выбраны медык С. Кузняцоў. На яго адрас пакуль што ідзе ўся карэспандэнцыя таварыства «Світанак» (226011, Рыга, *вул.* К. Маркса, д. 49, кв. 11, тэл. 28-85-23).

Таварыства існуе не толькі для пашырэння самасвядомасці, духоўнага ўзбагачэння лепшымі здабыткамі нацыянальнай культуры, але і працуе для ўзаемаразумення і збліжэння з латышскай культурай, народам, на зямлі якога жывуць балткрэвы (так латышы называюць беларусаў). Да прыкладу, цікавымі былі гутаркі з М. Абала, Я. Османісам.

Былыя асвейскія дзеці, якія прайшлі пекла Саласпілса, расказалі, што яны таксама сябе адчуваюць карэннымі жыхарамі рэспублікі, бо былі ўсыноў*леныя і ўдачароныя,* ратаваныя ад смерці мацеркамі Латвіі. 15 лютага, адзначаючы 46-ю гадавіну асвейскай трагедыі, сябры «Світанка» збяруцца зноў.

Варта згадаць, што ў Рызе існуе і яшчэ адна беларуская суполка: пры Балцка-славянскім таварыстве працуе Беларускі культурны цэнтр.

Сяргей ПАНІЗНІК.

## *Яшчэ раз пра перапіс. Працяг тэмы*

**12—19 СТУДЗЕНЯ ПРАЙШОЎ УСЕСАЮЗНЫ ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА. ПРАКТЫКА ЯГО ПРАВЯДЗЕННЯ ПАКАЗАЛА, ШТО НЕ ЎСЁ БЫЛО ГЛАДКА: ПАМІЖ ПАДЛІКОЎЦАМІ І ПРАДСТАЎНІКАМІ НАСЕЛЬНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ ЧАСАМ УЗНІКАЛІ НЕПАРАЗУМЕННІ. ЧАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ — ВАКОЛ АДКАЗАЎ НА ПЫТАННЕ АБ РОДНАЙ МОВЕ.**

Ужо на другі-трэці дзень пасля пачатку перапісу ў рэдакцыю прыйшлі лісты, у якіх чытачы расказвалі пра абураючыя факты, калі падлікоўцы падказвалі, што адказаць, а то проста і самі адказвалі, якая ў іх, чытачоў, родная мова, пры гэтым сцвярджаючы, што яны дзейнічаюць па інструкцыі.

Падборка лістоў пад назвай «Падказка ці прымус?» была змешчана ў «ЛіМе» 20 студзеня г. г. Яна выклікала новы ўсплёск чытацкіх пісьмаў. Чытачы прыводзілі ўсё новыя факты, калі падлікоўцы перавышалі свае паўнамоцтвы. Пра гэта пішуць у рэдакцыю пенсіянерка з г. Паставы А. Л. ФУРС, настаўніца СШ № 121 г. Мінска А. У. БУРБОЎСКАЯ, гамяльчанін Ц. Я. ВОСТРЫКАЎ, мінчанка Э. М. ПАСЫНКАВА, этнограф В. С. ЦІТОЎ з Мінска, паэт Васіль ЗУЁНАК, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР Г. М. САГАНОВІЧ, інжынер А. С. ВАСІЛЕЎСКІ (Мінск), галоўны інжынер Заходняй пошукава-здымачнай партыі А. Р. БЛІНКОЎСКІ з Баранавіч, жыхар в. Гацец Бярэзінскага раёна І. А. САБЧУК, У. С. ПАДАЛЯКА, С. Б. АЎГУСЦІНОВІЧ і НЯДБАЛЬСКІ (Мінск). Пісьменнік Яўген ЛЕЦКА, прыслаў нам не проста ліст, а цэлы артыкул, які друкуецца разам з гэтым аглядам.

Факты, выкладзеныя ў чытацкіх лістах вельмі падобныя, а то і проста супадаюць. Таму працытуем толькі некаторыя з іх. У прыватнасці, А. Бурбоўская піша: «Цяжкі смутак лёг на душу пасля сустрэчы з падлікоўцам, бо яму аніяк не верылася, што мая родная мова — беларуская. Чаму з такой настойлівасцю паўтаралася пытанне: «На каком языке вы разговариваете?». В. Цітоў паведамляе: «Графу «Родная мова» кабетка паспешліва запоўніла сама, як вядомую аксіёму... Незнарок зазірнуўшы ў апытальны ліст, я не паверыў вачам: там, насупраць пытання аб роднай мове, стаяла «русская», хоць толькі што я паведамляў, што нарадзіўся ў беларускай вёсцы. Замест таго, каб адразу выправіць памылку, перапісчыца выказала сумненне: «А почему же вы разговариваете со мной на русском языке?!». Яшчэ адна вытрымка: «Вось як праходзіў перапіс у нашай кватэры, — піша Ц. Вострыкаў. — На пытанне — «родная мова?» я адказаў: а хіба можа быць якая іншая мова роднай, апрача мовы бацькоў? І назваў: беларуская. Тады хлопцы-падлікоўцы спыталі, ці гавару я па-беларуску? Я адказаў, што гэта справа мая і ніякага дачынення да пытання пра родную мову мець не павінна. У адказ пачуў: «А у нас — инструкция, родной язык — это тот, на котором говорят в семье». А вось якія аргументы прыводзіла жанчына-падліковец А. Блінкоўскаму. «У нас з ёй,—паведамляе чытач,—выйшла невялікая дыскусія наконт роднай мовы сына-школьніка. «Родная мова — руская», — сцвярджальна зазначыла перапісчыца, запаўняючы анкету. Я запярэчыў, маўляў, беларуская. Яна ж сказала здзіўлена: «Но ваш сын учится в русской школе...» Мы разышліся, незадаволеныя адзін адным».

Разважаючы над казусамі, якія надараліся ў час перапісу, чытачы згадвалі інтэрв'ю карэспандэнта «ЛіМа» з загадчыкам аддзела перапісу і ўліку насельніцтва Дзяржкамстата БССР В. В. Сівянковай, у прыватнасці, яе адказ на пытанне адносна таго, як будзе вызначацца родная мова. «Што датычыць мовы, — адказала яна, — роднай лічыцца тая, на якой прынята гаварыць у сям'і...» Ці не адсюль бяруць пачатак усе тыя непаразуменні, пра якія пішуць чытачы ў рэдакцыю?

Мы рашылі яшчэ раз сустрэцца з В. В. Сівянковай і высветліць: 1. Як сфармулявана пытанне ў інструкцыі па перапісе; 2. Ці сапраўды арыентавалі падлікоўцаў на тое, каб яны так настойліва «дапамагалі» апытваемым вызначаць сваю родную мову?

Вольга Варфаламееўна з парога адмяла ўсе чытацкія прэтэнзіі і заўвагі: маўляў, нічога падобнага не магло быць і не было, што ніхто падобным чынам не настройваў падлікоўцаў, што ўсе працавалі ў адпаведнасці з інструкцыяй.

Пазнаёміліся і мы з «Інструкцыяй аб парадку правядзення Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1989 года...», выдадзенай «Саюзуліквыдатам», найперш з той яе часткай, якая тычыцца гэтага самага пытання аб роднай мове. «К девятому вопросу. В ответе на вопрос о родном языке записывается название языка, который сам опрашиваемый считает своим родным языком». На нашу думку, менавіта гэтым вызначэннем і павінны былі кіравацца падлікоўцы, а не зводзіць усю складанасць сітуацый да аднаго: як размаўляюць у сям'і — такая і родная мова. «Няўжо Дзяржкамстат БССР лічыць, што пры вызначэнні роднай мовы насельніцтва на тэрыторыі рэспублікі больш навукова будзе ўлічваць не ўласныя меркаванні, пачуцці кожнага чалавека індывідуальна, а мову, якой ён на сённяшні дзень мусіць карыстацца?» — пытаецца ў сваім лісце да нас Г. Сагановіч.

Хочацца зрабіць невялікае адступленне і сёе-тое ўдакладніць. Вольга Варфаламееўна чамусьці вельмі насцярожана і балюча ўспрыняла тое, што напісалі ў рэдакцыю чытачы. Яна тут жа кінулася шукаць тэлефоны чытачоў, іх адрасы, папракаючы аўтараў лістоў у тэндэнцыйнасці, у тым, што яны пішуць няпраўду, узводзяць паклёп на падлікоўцаў. Гаварыла яна, што праводзіць свой чацвёрты перапіс і што ніколі такіх эксцэсаў не было; наогул, заяўляла, што пытанне аб роднай мове мусіруецца многімі, найперш так званымі нефармаламі, знарочыста, што праблем тут няма, што трэба пісаць тое, што ёсць, што сама яна хоць і беларуска, але назвала сваёй роднай мовай рускую, бо гаворыць на ёй, як, дарэчы, падкрэсліла яна, і ўсе супрацоўнікі дванаццаціпавярховага будынка, дзе размешчаны Дзяржкамстат БССР...

Тут дарэчы будзе прывесці вытрымку з пісьма В. Зуёнка: «Відаць, правамоцна было б пагля́дзець на ўсё з іншага боку: беларус, родная мова — беларуская, а вось гаварыць на ёй не магу... Тады б адкрылася ўся трагічнасць сітуацыі, якую тэрмінова і рашуча трэба выпраўляць». Дарэчы, гэтак жа лічаць і некаторыя людзі, якія былі заняты ў кампаніі па перапісе насельніцтва. Вось, напрыклад, словы інструктара прафкома «Мінскгандальаўтатранса» Г. Бойкі, які сёння працуе ў падліковай камісіі Фрунзенскага раёна г. Мінска: «Ненармальная, лічу, з'ява, калі, напрыклад, у сям'і беларусаў роднай мовай запісваецца руская»...

Думаецца, нікому не трэба тлумачыць, што Усесаюзны перапіс насельніцтва — акцыя важная, адказная, што вынікі яе павінны быць як мага больш аб'ектыўныя і дакладныя, што яны маюць велізарнае дзяржаўнае значэнне. І ў гэтай справе не павінна быць дробязей, недакладнасцей, розначытанняў, «прыкрых выключэнняў», якімі лічыць В. Сівянкова здарэнні з аўтарамі лістоў у рэдакцыю.

Моўная сітуацыя ў рэспубліцы, вядома ж, складаная. Гэта разумеюць і пра гэта пішуць і нашы чытачы. Тым больш трэба было б паставіцца да ўсіх яе аспектаў з асаблівай датклівасцю і адказнасцю. Не віна ж многіх беларусаў, што сёння яны не толькі на рабоце, але і дома размаўляюць па-руску (зрэшты, не зусім па-руску, як піша Я. Лецка, словамі карыстаюцца рускімі, а сінтаксісам беларускім), аднак жа роднай мовай для іх застаецца ўсё ж беларуская. Пра што сведчыць у цэлым і ход перапісу. Гэта адлюстравана ў многіх лістах, якія падлікоўцы запаўнялі, прынамсі, у Фрунзенскім раёне сталіцы рэспублікі. У нас ёсць факты і іншых «дыялогаў» падлікоўцаў з жыхарамі Мінска. Напрыклад, муж і жонка, рускія па нацыянальнасці, запісваюць роднай мовай свайго трохмесячнага дзіцяці беларускую, тлумачачы, што дзіця пойдзе з цягам часу ў беларускамоўны яслі-сад, а потым і ў школу з беларускай мовай навучання. Значыць, як напісаў у сваім лісце наш чытач Г. Сагановіч, «куды больш вызначальны крытэрый вырашэння такіх пытанняў — свядомасць. Менавіта з яе трэба зыходзіць і ў прыкладзе з роднай мовай. Чалавек сам ведае, што яму роднае».

Дык ці павінна сцвярджэнне — «родная мова тая, на якой гавораць у сям'і,— быць той самай «аксіёмай», пра якую пішуць у сваіх лістах чытачы і якой так старанна карысталіся ў час перапісу некаторыя падлікоўцы? Думаем, што час «падказак», народжаных у дадзеным выпадку чыёйсьці недаравальнай неахайнасцю, безадказнасцю ці палітычнай блізарукасцю, павінен адысці ў нябыт. На двары ж — перабудова.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛІМА».**

Яўген ЛЕЦКА

# А ДУША Ў НАРОДА АДНА

У мінулым нумары «ЛіМа» пад рубрыкай «Падказка ці прымус?» была змешчана падборка допісаў, у якіх чытачы падзяліліся сваімі ўражаннямі, а калі больш дакладна, то сваёй трывогай і заклапочанасцю тым, як праходзіла нядаўняя кампанія па перапісе насельніцтва ў Мінску. Не скажу, што гэтыя сведчанні з'явіліся для мяне нейкім адкрыццём, хоць дэталі зацікавілі. Бо што тут і да чаго, і ў якім кірунку будзе яно развівацца, асабіста мне стала зразумела пасля прачытання інтэрв'ю з загадчыцай аддзела перапісу і ўліку насельніцтва Дзяржкамстата БССР В. В. Сівянковай, змешчанага напярэдадні перапісу ў штотыднёвіку.

Найперш насцярожыў той пункт, дзе гаварылася, што «роднай мовай лічыцца тая, на якой прынята гаварыць у сям'і». Адразу ўзнікла пытанне: чаму менавіта толькі ў сям'і, а не ў асяроддзі, скажам, сяброў і знаёмых, з якімі часам адчуваеш большую духоўную еднасць і шчырасць, чым з сямейнікамі, а, значыць, і ў моўным плане як асоба раскрываешся больш натуральна і арганічна? А праца? Хіба яна ў нармальным грамадстве з'яўляецца чымсьці чужародным, дзе чалавек павінен утойваць сваю сапраўдную існасць аж да вырачэння на службе ад роднай мовы?

**Адно пытанне набягала на другое, і я, памеркаваўшы, прыйшоў да высновы, што роднай мовай варта лічыць не тую, якой індывід па самых розных прычынах карыстаецца ў тых ці іншых месцах, як сродкам функцыянальных зносін, а тую, якую ён сам без усякіх падказак і прымусу прызнае для сябе роднай. Роднай, гэта значыць мовай свайго роду, сваёй Радзімы. Ну а калі чалавек выракаецца свайго роду, сваёй радзімы, сваёй гістарычнай памяці, як гэта здарылася з айтматаўскім манкуртам? Што ж, калі каго прываблівае такая перспектыва і такі нацыянальны статус, то забараніць пераходу ў новы стан ніхто не мае права. Хоць перад гэтым правесці з чалавекам гутарку, растлумачыць, як гэта сталася, што ён стаў перад фактам адрачэння ад роднай мовы, мабыць, кіруючыся высокагуманнымі прынцыпамі, і варта. Але, як засведчылі лімаўскія чытачы, падказка ў канкрэтных умовах нашай рэспублікі пры перапісе ішла зусім не ў тым кірунку..**

**На маю думку, людзям, якія мяняюць сваю мову, а, выходзіць, і прыналежнасць да роднага народа, варта ў графе пра нацыянальнасць упісваць прыкладна такую фармуліроўку: «русский, из бывших белорусов, киргизов» і г. д., бо найчасцей атрымліваецца, што далучэнне да новай нацыянальнасці, новай культуры, гісторыі і мовы адбываецца чыста функцыянальна, без глыбокага ўсведамлення, чым з'яўляецца тая ці іншая нацыянальнасць ва ўсім аб'ёме гэтага надзвычай ёмістага паняцця. Але тут мы ўжо сягнулі ў сферу, так бы мовіць, тэарэтычнага прагназавання.**

Што датычыць нашай непасрэднай практыкі, то прыходзіцца пашкадаваць, што чытачы не змаглі загадзя разабрацца і памеркаваць, як ім самім, без усякіх падказак і прымусу, быць з гэтай самай «роднай мовай». Бо, дапраўды, пытанне гэтае і менавіта ў такой пастаноўцы, як яго сфармулявалі заканадаўцы перапісу, звалілася на галовы нашых, у сваёй масе пазбаўленых дакладнай нацыянальнай свядомасці, людзей як летам снег на галаву. Ведаю гэта па жыхарах свайго дома, якія і дасюль у паняверцы і роспачы паціскаюць плячыма, калі ў іх спытаеш, якую яны выбіралі ў час перапісу сабе родную мову...

Але найперш пра тое, як было ў нашай сям'і. Апытальніца завітала ў кватэру прыблізна ў тры гадзіны, калі мы, дарослыя, працавалі на службе. Калі дайшло да пункта пра родную мову, паміж дзяўчынай і маёй дачкой адбылася такая гаворка:

**— Родным языком записываю русский.**

**— А почему русский?**

**— Так ты же на русском разговариваеш!**

**— Ну и что! Я на французском могу! (Мушу тут зрабіць тлумачэнне: дачка вучыцца ў восьмым класе спецыялізаванай школы з французскім ухілам).**

**— Французский здесь ни при чем. Я говорю серьезно: родным языком считается тот, на каком разговаривают в семье. Так какой записывать?**

**— Записывайте грузинский.**

**— Девочка, перестань шутить. Мне некогда. Это серьезно...**

**— А калі сур'ёзна, дык і запісвайце беларускую мову, мы ж не грузіны, а беларусы, і жывём у Беларусі!**

**— И родители с этим согласятся?**

**— Не бойтесь, согласятся!**

Такая вось размова, якую перадаю ў даччыным узнаўленні, адбылася ў той дзень у нашай кватэры. Пры ўсёй яе індывідуальнасці яна ў асноўным, у прынцыпе падобна на іншыя, пра што пісалі ў папярэднім нумары чытачы «ЛіМа». Падабенства гэтае пацвярджаецца і расказамі жыхароў нашага дома, якім амаль усім пазапісвалі роднай мовай рускую на той падставе, што яны, як і мая дачка, на зададзеныя па-руску пытанні таксама адказвалі па-руску. Дарэчы, і ў тым дыялогу паміж дачкой і апытальніцай магло таксама атрымацца так, што ад гэтага часу і маёй мовай лічылася б руская. Калі думаю пра гэта, што я ўжо б лічыўся не тым, кім з'яўляюся па сваёй сутнасці, то, паверце, робіцца сцішнавата. І сам не ведаю, як такое ацэньваць, як называць — трагедыяй, камедыяй, парадоксамі нашага часу, ці звычайнай рэальнасцю, якую трэба прымаць такою, якою яна ёсць?..

Супастаўляючы факты, прыходзіш да высновы, што пункт пра родную мову як бы загадзя праграмаваўся сцэнарыстамі. Яны, зразумела, улічвалі нізкі ўзровень свядомасці беларусаў, тое, што наша мова фактычна выціснута з усіх сфер грамадскага карыстання, а гэта, вядома, не можа не ўплываць на тое, на якой мове размаўляюць людзі ў сем'ях. Але, сапраўды, на якой мове гаворыць большасць гарадскіх жыхароў? Дазвольце ўсумніцца, калі вы скажаце, што на рускай. Хутчэй за ўсё не на рускай і не на беларускай, а на так званай трасянцы, у якой перамешана лексіка з абедзвюх моў. Мо рускіх слоў там і больш, але ж мы бачым толькі гэтыя відавочныя прыкметы, а тое, што сведчыць пра глыбінныя асновы мовы, ігнаруем. Да іх я бы аднёс саму мелодыку мовы, яе лад і строй, структуру спалучэння слоў у сказе, нарэшце — акцэнт. А гэта ўсё не менш, а куды больш істотнае ў вызначэнні нацыянальнай адметнасці і прыналежнасці мовы, чым адна толькі, ды яшчэ такая перамешаная лексіка. У пацвярджэнне сказанага згадаю адзін дваццацігадовай даўнасці факт. У той час яшчэ дазвалялася абараняць кандыдацкія і доктарскія дысертацыі на нацыянальных мовах. Дык вось, на адной такой абароне ў якасці афіцыйнага апанента быў вядомы вучоны-мовазнаўца, нашчадак Льва Талстога Мікіта Талстой. У сваім слове, перш чым перайсці да ацэнкі дысертацыі, М. Талстой вельмі зычліва адгукнуўся на тое, што пасяджэнне вялося на добрай літаратурнай беларускай мове і што ўвогуле ўсе супрацоўнікі размаўлялі па-беларуску.

— А то я уже третий день в вашем городе, езжу в городском транспорте, прислушиваюсь, стараюсь понять, на каком же языке здесь разговаривают: слова вроде бы русские, а речь то не русская...

Тое, што людзі гавораць на невядома якой, або стэрылізавана-штучнай, пазбаўленай сувязі са сваімі жыватворнымі каранямі рускай мове, і з'яўляецца прычынай таго, што нашы сучасныя гарады бясплённыя не толькі для беларускай, але і для рускай, і ўвогуле для агульначалавечай культуры, а якая-небудзь маленечкая вёсачка Нізок на Уздзеншчыне дала, бадай, беларускай літаратуры за гады Савецкай улады больш талентаў, чым густанаселены Мінск. Мы тут, мабыць, адыходзім ад непасрэднай тэмы нашай гаворкі, хоць і пацвярджаем тэзіс аб няпростасці, нават заблытанасці моўнага пытання ва ўмовах Беларусі. Яно настолькі заблытанае, што часта людзі і самі не ведаюць, на якой яны мове гавораць і якая мова ім родная. Тут бы, каб мы кіраваліся клопатам пра сваю мову, думалі пра чалавека, апытальнікам і варта было б пагутарыць з людзьмі, расказаць, што і да чаго. Яны ж ішлі, што называецца, напралом: звярталіся да людзей па-руску, чулі ад іх таксама адказы на рускай мове і на падставе гэтага запісвалі роднай мовай рускую...

**Дазволю сабе ўявіць такі факт: нашы апытальнікі прыходзяць у сям'ю Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Дапусцім, яго самога не было дома, а толькі жонка. Вы ўпэўнены, што апытальнікі запісалі б генію рускай літаратуры роднай мовай рускую, бо, як вядома, ён і перапіску з Ганчаровай вёў пераважна па-французску, і ў сям'і размаўляў таксама. Ды ці адзін Пушкін — праз франкаманію прайшло адукаванае рускае грамадства на працягу стагоддзяў. Але я не думаю, што той жа Пушкін пагадзіўся б, каб яму запісалі роднай мовай французскую. Бо, выдатна, напэўна не горш, чым многія нашы гараджане рускай, валодаючы французскай мовай, Пушкін усё ж ведаў, што ў яго ёсць народ са сваёй гісторыяй, мовай і культурай. Менавіта гэта для нашых апытальнікаў і іх рэжысёраў аказалася не вартым увагі..**

Паняцце роднай мовы куды шырэй і глыбей яе функцыянальнага прызначэння і выкарыстання. Возьмем недалёкі ад нас перыяд Заходняй Беларусі. Не сакрэт, як сёння руская, так там да верасня 1939 года польская мова займала ключавыя пазіцыі. Апалячванне, нягледзячы на актыўнае супраціўленне тутэйшага люду, няўхільна пашыралася, і, па сутнасці, праз дваццаць гадоў ахапіла ўсё гарадское насельніцтва.

Але вось парадокс і загадка: як толькі заходнебеларускія землі былі вызвалены Чырвонай Арміяй, тая польская мова (гаворка не пра тое, наколькі яна была чыстай, арганічнай і натуральнай) узяла раптам і некуды знікла. А сярод жа так званых красавякаў былі і такія, што з пагардай глядзелі на сваё роднае, кпілі і здзекаваліся з беларускай мовы. Дык вось, і гэтыя ненавіснікі загаварылі па-беларуску так, нібыта ніколі і не былі пярэвартнямі. Потым, праўда, калі яны яшчэ раз пабачылі бесперспектыўнасць беларускай мовы, то зноў ад яе адцураліся, але цяпер ужо на карысць рускай мовы. Але гаворка не пра гэта, а пра тое, што сваё, роднае, нават у людзей, якія ад яго адмаўляюцца, жыве дзесьці глыбока ў падсвядомасці і пры

(Працяг на стар. 15).



*Уладзіслаў Рубанаў*

# РЭХА

*апавяданне*

ІГНАТА Вяршылу хавала ўся вёска. Не пайшоў на могілкі толькі адзін Рыгор Аксютовіч. Ён стаяў каля акна, захінутага з бакоў белымі, падсіненымі фіранкамі, калі пахавальная працэсія параўнялася з хатаю. Галасіла Вяршылава жонка, Марыля. На машыне з адкрытымі бартамі сіратліва, як цагліна, стаяла чырвоная труна, з якой глядзеў у неба фіялетавы нябожчыкаў твар. Паперадзе машыны неслі партрэт, абвязаны чорнай стужкаю, на пунсовых атласных падушачках — ордэны і медалі.

Усе мінулыя дні стаяла кепскае надвор'е, хмурылася неба, дзьмуў сухі вецер, ад якога трывожна шумеў каля хаты клён і пранізліва свісталі правады. Нарэшце, стала ціха, заззяла сонца, амаладзіўшы наваколле і падвесяліўшы людзей, якім яшчэ рупіла сена, але ўжо думалася і пра колас, што наліваўся пругкаю духмянаю спеласцю.

Рыгораў позірк з машыны слізгануў на твары людзей — яны праплывалі аднолькава нерухомыя, засмучаныя. Лёгкая, сухарлявая Марыля павісала на руках у жанчын, якія вялі яе, — падгіналіся ногі. Густаваты аранжавы пыл курэў над галовамі людзей, сплываў на агароды.

Туга грызла сэрца. Цяжка пераносіў ён пахаванні, доўга не мог атрэсціся ад галашэнняў, ад глухога бурбалення камякоў па веку труны, у вачах, калі лажыўся спаць, мільтусіўся нябожчыкаў твар, сніліся сны — што нябожчык устае, варочаецца ў труне. Але не гэта яго цяпер утрымала — бог з імі, снамі, перажыў бы. Сядзела ў сэрцы, як скабка, няскрутнае пачуццё непрыязі да Ігната Вяршылы. Чорт, незлапомны ж ён, Рыгор, па натуры, чаго толькі не дараваў людзям за сваё некароткае жыццё: і знявагі, і здрады, і подласці, і нахабства; пераступаў праз гонар, пыху — і дараваў. Разумеў людзей, ведаў іх слабасці, апраўдваў заганы. Можа, таму, што ўпэўніўся: і сам не бязгрэшны, нясоладка і з ім было камусьці, той жа Анюце. Канечне, кожны чалавек думае, што толькі ён чысценькі, а ўсе астатнія вакол — мярзотнікі; думаў так і Аксютовіч, але не закалыхваў сябе, і калі жыццё плыло роўна, без перападаў, як бы знарок прыпісваў сабе неіснуючыя і памылкі, і дзёрзкасць, і няўступчывасць. Гэта трымала яго душу ў скрусе, і калі не ачышчала, то, факт, не давала ёй заплываць брудам, таіць злосць на людзей.

Ён не мог толькі нічога з сабою зрабіць, пераламаць сябе, калі думаў пра Вяршылу. Яны віталіся, размаўлялі, нават вырашалі разам такія-сякія справы, і наўрад ці можна было заўважыць між імі адчужанасць. Невядома, ці адчуваў гэта Вяршыла, а ён, Аксютовіч, адчуваў. Хоць бы ўжо праз тое, што не мог, як астатнім мужчынам, расказаць Вяршылу пра самае патаемнае, нават пад чаркаю. А ён з маленства не вадзіўся з тымі, з кім не было шчырасці, нешта ў душы пакідаў не даверыўшы.

Ён добра помніць, калі і з-за чаго ўсё гэта пачалося.

●

...Сямёра баб цягнулі плуг. Рыгор, брыгадзір, ішоў за аратага. Не ішоў, лічы, стаяў, таптаўся на месцы, упіраўся ў тоўстыя драўляныя ручкі, падсабляў бабам. Ён бачыў, як вяроўка ўпівалася ў плячо Анютцы, цёрла шыю, выслізгвала з рук. Раз-пораз Анютка падала, але хуценька падхоплівалася, атрэпвала зямлю са спадніцы. Яму хацелася падысці, паспачуваць Анютцы, прыгалубіць, але саромеўся баб: панясуць плёткі. І ён цярпеў, абліваючыся потам.

У Пенькамочцы яны ўжо трэці дзень. Аруць поле пад ячмень. Услед за імі з жоўтай ліпавай сявенькаю на жываце брыдзе стары сівабароды Свірыдон. Ён заграбае прыгаршчаю зярняты, б'е ў гладкі бок сявенькі — і зярняты, як іскры, пырскаюць у розныя бакі.

Ядавіта-чорныя гракі сіпла крычаць, запускаюць доўгія белыя дзюбы ў мяккую раллю. Рыгор злуе на іх — што яны дзяўбуць зярняты, і рунь узыдзе рэдкая.

Рыгор бачыць, што спіна ў Анюткі мокрая, да шыі прыліплі чорнымі ніткамі валасы. «Яшчэ маладая, нецягучая...» — шкадуе Рыгор.

— Перадыхніце, бабачкі-ласачкі! — камандуе ён.

Жанчыны садзяцца на сухую, нявораную зямлю, моўчкі расціраюць намуленыя чырвоныя плечы, а ён бяжыць да чарады гракоў і махае рукамі.

— Халера іх спудзіць! — хмурачыся, гаворыць Свірыдон, выціраючы падалом спалавелай палатнянай кашулі твар. — Мусіць, чарвякоў яны...

— Няхай вунь туды ляцяць на спажыву, — ківае Рыгор на недалёкі лес, з краю якога пярэстымі ствалямі адсвечваюць бярозы, між якімі губляецца дарога ў вёску.

Раптам пачуўся трэск, і на дарогу спаміж бяроз выскачыў матацыкл. Ехаў старшыня сельсавета Ігнат Вяршыла. Дзеці выпаралі недзе ў ямінах ад бомб скуроханы нямецкі матацыкл з каляскаю, прыцягнулі ў вёску — Вяршыла падладзіў, падкляпаў і ўжо другі год ездзіць на ім.

Вяршыла прывёз у калясцы мяшок ячменю. Кіўнуў пальцам Рыгору, адвёў убок. Ён быў у вайсковай гімнасцёрцы, падпяразаны шырокім афіцэрскім рэменем з двума радамі часта прашчыкнутых дзірачак. Твар нахмураны.

Сэрца ў Рыгора застукала гулка, трывожна.

— Уш панімаеш, колькі засеяў? — спытаў па-змоўніцку, як не шэптам.

— Дзесяцін каля шасці... Бабы ёсць бабы. — Развёў рукамі і доўга іх не апускаў, як грак, які раздумвае, ляцець або не ляцець.

Вяршыла паварушыў пашчэнкамі.

— Малавата, уш панімаеш! Напішы мне ў зводцы — што пятнаццаць.

— Як? — не зразумеў Рыгор. — Усё поле не будзе столькі...

— Трэба, уш панімаеш. — Голас у Вяршылы пацвярдзеў: відаць, і праўда нешта прыпякло старшыні.

Рыгор стаяў і, як вінаватае хлапчанё, плюскаў вачамі.

— Мы валім план па веснавой сяўбе, — насядаў Вяршыла. — А раён патрабуе, уш панімаеш.

Просьба для Рыгора была нечаканая. Ён не ведаў, як паводзіць сябе ў такіх выпадках, бо ніколі не падрабляў ніякіх папер, нічога не ўтойваў, ні ў чым не хлусіў нават тады, калі разумеў, што яму будзе горай. Але ж тут прасіў не сябра і не хаўруснік, не выпадковы чалавек, а старшыня сельсавета, Ігнат Вяршыла, якога і ў вёсцы, і нават у раёне цанілі: вярнуўся з вайны старшым лейтэнантам, усе грудзі ў ордэнах і медалях. Роўных у акрузе, здаецца, яму не было.

— Разумею, але як я напішу... — разгублена прамовіў Рыгор, аглушаны прапановаю Вяршылы. Яму было і дзіка, і страшна. Сам ён раней і блізка не імкнуўся, каб недзе схібіць, падмазаць, скруціць. Вочы ў Вяршылы былі і порсткія, і лагодныя адначасна — глянуўшы на іх, Рыгор утупіў свой позірк у зямлю, на свае босыя парэпаныя ногі.

— Уш панімаеш, табе нічога не пагражае... калі што якое, — пад'юджваў Вяршыла, убачыўшы, што Рыгор вагаецца.

«А я нічога не баюся! Страшней за нямецкі палон пекла не прыдумаеш», — хацеў сказаць Рыгор, але не стаў вытыкаць сваё мінулае, што і так неадчэпна лезла ў думкі, не давала спакойна жыць. І яшчэ адну балячку садзіць на душу? Тады лепш у сіло, бо здурнець можна.

— Не ўмею я... — прамармытаў ён і ажно скрыпнуў зубамі ад прыкрасці за сябе, за сваю падатлівасць.

— Ды што тут умець? Чыркані пару слоўцаў, падпішыся, а пячатка вось. — Вяршыла дакрануўся да нагруднай кішэні, на якой унізе распаўзлася чарнільная пляма.

— Я гэтага рабіць не буду, — сказаў Рыгор і чамусьці пачырванеў. Яму было няёмка адмаўляць хоць і начальніку, але свайму вяскоўваму чалавеку, з якім да вайны разам хадзілі на вечарынкі.

— Падумай, уш-ш панімаеш, — сказаў Вяршыла і сцяў пашчэнкі. Абцягнуў гімнасцёрку, выпнуўшы жывоцік.

Рыгор думаў. І пакуль аралі, і тады, як ішоў з бабамі дахаты. Анютка, няўрымслівіца, мітусілася ў яго перад вачамі, круціла спадніцаю, а ён, як адаўбешаны, бязглузда лыпаў вейкамі. Дарога здалася кароткай, быццам і праўда, як у той казцы, яго перанёс вецер.

Сваю зажуранасць ён не змог схаваць і за вячэраю. Маці спытала, што ў яго за бяда. Ён скупа расказаў: не хацеў вярэдзіць мацеры сэрца, якое зрушыла ёй вайна, смерць бацькі.

— Напішы ты, мой татка, яму, — сказала маці, і голас яе задрыжаў. Сядзела на лаве, як старая знясіленая птушка, трымаючы глыбока ў падоле сашчэпленыя лёгенькія рукі. Ён адчуваў, маці перажывае за яго, баіцца, каб нязгода з Вяршылам не абярнулася якой-небудзь нядоляю. Удава, яна не магла яго абараніць, заступіцца. Каб не засмучаць маці, ён не сказаў усёй праўды, але сам намерыўся цвёрда — не набаўляць дзесяцін.

Назаўтра Вяршыла спытаў: «Ну, уш панімаеш, што ты там надумаўся?» Па вясёленька-скаклівым голасе можна было зразумець: у яго няма сумневу, што ён, Рыгор, саступіў. «Я не перадумаў» — сказаў Рыгор з дзіўным, проста недарэчным адчуваннем, што робіць памылку, што Вяршыла запомніць ягоную зацятасць. «Э-эх! — крэкнуў Вяршыла, бліснуўшы бялкамі вачэй. — Калі б у вайну, я б цябе, уш-ш-ш панімаеш!..» — Штырхануў кулаком, плюнуў і пайшоў, уразаючы канты абцасаў у зямлю.

●

Вечар быў цёплы, парны. Жаўтлявы маладзічок ліў цьмянае святло — паўз сцежку квола паблісквала лісце трыпутніку з белымі елачкамі жылак. Рыгор ішоў у клуб на партсход. Ён знарок не даганяў групку людзей, што галёкалі ўперадзе, каб на адзіноце перажываць, хвалявацца, думаць. Ён прывык да адзіноты ў лагеры, дзе рызыкоўна было паскардзіцца каму-небудзь, прапанаваць ці папрасіць. Анюта часта ўпікала яго, што ён маўчун і маруда. Гэта вонкава ён такі, а душа ў яго як мае быць — і крычыць, і лямантуе, і плача, і смяецца...

Пад бярозкаю ў кусціку сіўцу ён раптам згледзеў светлячка. Падняў яго, маленькага, безабароннага, падобнага на бяскрылага сляпня, і чамусьці засунуў у карабок з-пад запалак.

Чырвонымі плямамі вокнаў вынырнуў з цемры клуб, і Рыгор забыўся на светлячка.

Апошнім на сход з'явіўся Ігнат Вяршыла. Начальнік, яму дазволена, у яго шмат клопатаў. На парадку дня стаяла адзінае пытанне: прыём у партыю брыгадзіра Аксютовіча Рыгора Максімавіча. Сакратар партарганізацыі, нядаўна прысланы ў калгас па пуцёўцы райкома, зачытаў заяву: «Прашу прыняць мяне ў члены Камуністычнай партыі, бо я хачу справядліва жыць». І яшчэ там былі словы: «Да партыі камуністаў у мяне вялікі давер». Сакратар палажыў на стол заяву — дзвайны аркуш з сярэдзіны сшытка — і спытаў у камуністаў, хто хоча сказаць пра Аксютовіча. У клубе зазвінела цішыня, ажно чуваць было, як у балоце за вёскаю вухае дзікі голуб: ву-ву, ву-ву... Быццам нямецкая «рама» ляціць.

Устаў Васіль Свірыдонаў, маленькі, смуглявы; праз увесь лоб у яго залёг глыбокі белы шрам — адзін канец хаваўся ў валасах, другі ўтыкаўся ў чорнае, як намоклае грачынае пёрка, брыво. Гэты шрам, быццам і бяскрыўдны, прыносіў Васілю шмат мучэнняў: балела галава, міргала правае вока і мярцвела на холадзе правая рука. Крыўдней за ўсё было тое, што Васіля параніла ўжо ў Берліне, на сконе вайны.

— Што гаварыць, што тут гаварыць доўга... Нас праверыла вайна. Грышка не гультай, не пасядзіць. Жылы рве дай бог. Брыгадзір з яго, скажу, хвацкі. Жонка гаворыць, што бабы давольныя...

Лёгкі смех, як ветрык па сухім лісці, прашумеў па клубе.

Рыгор ажно сцяўся: пацвельванне гэтае яго нідзе не абміне. І, хваравіта насцярожаны, пачуў, як за спінаю нехта з мужчын прабубніў: «А начальства ці давольнае?»

— Я даваў яму рэкамендацыю і ад сваіх слоў не адракаюся. Маю прапанову: прыняць безагаворачна.

Неяк рэзка, бы салдат перад генераламі, ускочыў Ігнат Вяршыла. Засунуў пад рэмень пальцы, адвёў локці назад, сабраўшы за спінаю гімнасцёрку, абцягнуў з бакоў. Над рэменем кругленька выпнуўся жывот.

— Уш панімаеш, таварышы камуністы! Я не буду гаварыць тут, як працуе Аксютовіч... А дзе наша пільнасць, уш панімаеш? Не трэба забываць, што таварыш Аксютовіч быў у палоне... І мы не знаем, чым ён там займаўся... уш-ш панімаеш. — Вяршылу няпроста было гаварыць, у яго дрыжалі вусны, і ён прыцінаў іх моцнымі жоўтымі зубамі.

Рыгор адчуў, як гарачая страла, бы куля, упілася ў сэрца: «Ну і гад жа! Бач, куды падкручвае...» Як праз заткнутыя ватаю вушы пачуў: «І пакуль, уш панімаеш, нашыя рады чыстыя, прапаную ўстрымацца ад прыёму таварыша Аксютовіча Рыгора Максімавіча ў партыю».

З клуба Рыгор выскачыў як звар'яцелы, пабег у цемру, не разбіраючы, дзе дарога, дзе кусты, дзе плот, дзе балота з глыбокаю чорнаю прорваю. Кіпела душа ад крыўды, ад абразы, ад подлага ўдару: «Ён не ведае, што я ў палоне рабіў, гад! Пальцы свае ў бясцямнасці грыз ад голаду... Украінец адзін, Махайбарада, дзякуй богу, выратаваў — карміў вартавых аўчарак, дык прыносіў у кішэні костку. А так бы...» І ў палон ён не здаваўся, проста накрылі іх немцы пад Баранавічамі, сонных, знясіленых, у адрыне...»

Начная прахалода крыху астудзіла галаву. Нясцерпна захацелася курыць. Выняў з кішэні пачак «Беламору», адчыніў карабок з запалкамі і — аж злякнуўся: зеленаватая кропелька свяціла яму маленькай надзеяй.

●

...Гукі жалобнай музыкі аддаляліся, глушэлі. Рыгор адчуваў, што пачынае нервавацца, трывога назойліва пілуе душу. Адасобіцца ад усіх, пайсці насуперак натоўпу заўсёды неймаверна цяжка, далёка не кожны на такое здольны. Здаецца, не было раней волі і ў яго, але ж сёння аднекуль узялася. Праўда, перажываў. Можа, усё-такі варта было пайсці, скрышыць сваю ўпорлівасць? Не зразумеюць многія, чаму гэта Рыгор Аксютовіч не быў на пахаванні. Не вораг жа яму Вяршыла. На той партсход ужо ўсе забылі, дый каму гэта. ў галаве чужая бяда. А яму смылела, усё жыццё баліць той «адлуп». Чым жа ён сябе зняславіў, зганьбіў перад светам, каб гэтак падсекчы яго: «І пакуль, уш панімаеш, нашыя рады чыстыя...» Ні ён, ні бацькі яго, простыя сяляне, нідзе ні ў чым не правініліся, ад працы не адлыньвалі. І ў вайну бацька галаву злажыў, маці пякла хлеб партызанам, мыла бялізну. Выходзіць, сам Вяршыла нячыста абышоўся з ім. Не ўпусціў моманту — ударыў па галаве тым страшным сталінскім загадам пад нумарам 270, які аб'яўляў усіх палонных здраднікамі. На ўсякім разе, яшчэ доўга пасля вайны было забаронена гаварыць добрае слова пра палонных. А калі начальнік гаворыць, усе павінны падпяваць ці маўчаць. Вось і не запярэчыў ніхто з камуністаў, і Васіль Свірыдонаў апусціў галаву — прагаласавалі «супраць». Рыгор цэлы год ха-

дзіў учарнелы, пасівеў.

Хата здавалася цеснай, Рыгор адчуваў сябе як бы ў клетцы. Яму перацінала дыханне, быццам ён доўга бег, па руках і нагах папоўз холад. З акна светлай паловы хаты ён глянуў на вуліцу — машына з труною і людзі схаваліся за паваротам. Ён папіў вады і выткнуўся на двор. Там, седзячы ў цяньку пад сцяною, ён і дачакаўся Анюту. Яна была ў чорнай хустцы, белая ў твары.

Анюта недаверліва глянула на яго: гаварыла ж, куды іду, звала цябе. Яму нецярплівілася, карцела, край хутчэй даведацца, як там і што было на могілках.

— Адзін ты і не быў, мабыць, усе людзі сабраліся, — сказала Анюта, але без папроку ў голасе: ведала, лепш чым хто, у якой лагодні яны з Вяршылам. — Гаварылі пра яго дужа... І з раёна чалавек, і пляменнік, Пятрок Мукамолаў, і дачка... Калі б не ён, гаварылі, то «не хадзілі б мы пад чыстым небам». Што такі ўжо чалавек уліяцельны... — Анюта змоўкла. Яна не насміхвалася, апавядаючы, проста пра ўсіх нябожчыкаў заўсёды гавораць толькі добрае. Хацела, каб і Рыгор ведаў, бо ён жа таксама быў на вайне, хоць і не меў ні ордэнаў, ні медалёў.

Рыгору кальнула ў сэрца: пра яго, калі памрэ, мабыць, так не скажуць. Можа, нават не ўспомняць, што і яго вайна не абмінула, праарала ў душы глыбокую баразну. Ён і цяпер пакутуе, не паранены і нічым не абдзелены. Чаму ўсё жыццё яму адгукаецца той палон? У чым яго віна? Чаму ён расплачваецца крывёю без віны? Бывалі хвіліны адчаю, калі дакараў лёс, што не даў яму загінуць у баі. Раз — і ўсе пакуты, і помнік памяці тваёй няхай бы ляпілі іншыя. Гэта лепш, чым самому яго ляпіць, калі кожны глядзіць на цябе з недаверам: захацеў...

«Можа, усё-ткі дарма не пайшоў на могілкі — было б лягчэй», — дакараў сябе Рыгор, не ўпэўнены, што праўда за ім.

Ён пачаў ужо забываць гэты дзень, калі сустрэўся каля магазіна з Вяршылавай жонкаю. Яна першая абмовілася:

— А чым жа цябе ўгнявіў бедны нябожчычак, што ты адзін не быў на пахаванні? Ён жа пра цябе словачка дрэннага не гаварыў...

— Мяне не было дома, я на ўколы ў бальніцу ездзіў, — зманіў Рыгор, каб Марыля не вельмі перажывала, і сорам, як вар, абліў яго душу.

—Дык ба хоць на памінкі прыйшоў, пасядзеў з людзямі...

Бач, не ўпусціла людское вока, што ён, Рыгор Аксютовіч, не апошні ў вёсцы мужчына, не прыйшоў развітацца з Вяршылам.

— Блага я пачуваўся ў той дзень, — і далей выкручваўся Рыгор, не могучы сказаць збедаванай Марылі праўду.

— Во так, во бачыш, якія людзі на свеце ёсць, — мармычучы і ківаючы сівой галавою, пайшла ад яго Марыля, маленькая, згорбленая, як камячок яшчэ аднаго дакору яму, і так змэнчанаму, пашматанаму жыццём.

Як і ў дзень пахавання Ігната Вяршылы, свяціла шчодрае для ўсяго жывога сонца, і пранізлівай яснасці паветра адкрывала вачам жытнёвае поле, што пералівалася жоўта-рудымі ценямі, лес, над якім кучаравымі ваўнянабелымі кудзелямі віселі воблакі.

Рыгор Аксютовіч у хвіліны тугі меў звычку глядзець удалеч. Ён тады забываў на ўсё, як бы выключаў сваю памяць, атрасаючы з душы накіп гарчэчы, перажытага, часам дробязнага, але неадчэпнага, што не давала яму вольна, як чалавеку, жыць.

# ЛІТАРАТУРА І МЯСЦОВЫ ДРУК

**З пасяджэння секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР**

«Прапаганда беларускай мастацкай літаратуры на старонках абласных і раённых газет» — такое пытанне было вынесена на парадак дня чарговага пасяджэння секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў БССР, якое адбылося ў канферэнц-зале Дома літаратара 28 снежня 1988 года.

Агляд абласных і шэрагу раённых газет зрабіў **Я. Саламевіч.** Спачатку ён расказаў аб рабоце літаб'яднанняў, дзякуючы якім у газетах паяўляюцца раз-пораз літаратурныя старонкі з твораў пачаткоўцаў. У асноўным публікуюцца вершы, значна радзей — апавяданні. Мастацкі ўзровень іх звычайна невысокі. Але, на думку Я. Саламевіча, добра, што пачаткоўцы часта звяртаюцца да значных тэм, да мінулага, нацыянальнай гісторыі, што ў іх творах ажываюць постаці Лышчынскага, Багрыма, Скарыны, Грынявіцкага, Багдановіча, Купалы.

Разам з тым, заўважае дакладчык, засмучае вялікая колькасць рыфмаванай прадукцыі, як на беларускай, так і на рускай мове, узровень якой не вытрымлівае аніякай крытыкі.

Адна з форм прапаганды літаратуры, працягваў прамоўца, — адзначэнне юбілееў пісьменнікаў-землякоў. На жаль, толькі нямногія абласныя газеты, не кажучы ўжо аб раённых, друкавалі адпаведныя артыкулы. Яшчэ горш з публікацыяй успамінаў пра пісьменнікаў і саміх пісьменнікаў. Бадай, толькі «Віцебскі рабочы» — выключэнне. Тут былі змешчаны ўспаміны У. Лабанка пра У. Караткевіча, гутарка Д. Сімановіча з Т. Кляшторнай, мемуарныя запісы самой Т. Кляшторнай. У «Магілёўскай праўдзе» з успамінамі «Дарогамі Міколы Ткачова» выступіў І. Аношкін. Газеты не змяшчаюць інтэрв'ю з пісьменнікамі-землякамі, не ўбачыш на іх старонках і творчых партрэтаў. Часцей тут сустрэнеш рэцэнзію, але, на жаль, узровень іх не надта высокі. Ігнаруецца такая форма прапаганды кнігі, як кароткі водгук на яе, анатацыя. Я. Саламевіч прыгадаў толькі паасобныя прафесійныя рэцэнзіі — С. Астраўцова ў «Гродненской правде», С. Чыгрына ў слонімскай раённай газеце «За перамогу камунізму».

Я. Саламевіч кінуў папрок і ў адрас пісьменнікаў, якія, на яго думку, маглі б аддаваць больш увагі прапагандзе літаратуры ў сваіх родных мясцінах. У гэтай справе прыклад падаюць найперш Г. Юрчанка, А. Мальдзіс, імя якіх часта сустракаецца на старонках мсціслаўскай і астравецкай раённых газет. Прамоўца згадаў таксама публікацыі В. Гапавай у ляхавіцкай газеце, А. Жыгунова — у «Віцебскім рабочым», шэраг іншых.

Было б добра, падкрэсліў дакладчык, каб рэдакцыі часцей і больш рэгулярна расказвалі пра літаратурныя вечары, сустрэчы з пісьменнікамі, чытацкія канферэнцыі па творах нашых пісьменнікаў, работу мясцовых літаб'яднанняў, каб не адмаўляліся ад красвордаў, чайнвордаў, пабудаваных на беларускім матэрыяле.

На пасяджэнне былі запрошаны супрацоўнікі аддзелаў, якія займаюцца пытаннямі літаратуры і мастацтва, абласных, рэспубліканскіх газет, «Вячэрняга Мінска». На запрашэнне адгукнуліся чамусьці толькі «Віцебскі рабочы» і «Гродненская правда» **(С. Навумчык і Л. Навіцкая).** Чаго ж тады здзіўляцца, што такія рэдкія ў гэтых выданнях рэцэнзіі, літаратурна-крытычныя артыкулы, творчыя партрэты пісьменнікаў? Адзін «Віцебскі рабочы», бадай, сістэматычна прапагандуе беларускую літаратуру. Ці не таму, што літаратурай цікавіцца сам галоўны рэдактар У. Скапа, выступае з рэцэнзіямі і літаратурна - крытычнымі артыкуламі? «Гродненская правда» пахваліцца гэтым не можа. Нявырашана пытанне і аб выпуску часткі яе тыражу на беларускай мове, хоць і ёсць згода дырэктыўных органаў.

Нашаму правінцыяльнаму, калі можна так сказаць, друку сапраўды неабходна перабудоўвацца, заўважыў **У. Конан.** Многае залежыць тут ад пазіцыі самой рэдакцыі, ад яе жадання ці нежадання займацца прапагандай літаратуры. Але яму і дапамога патрэбна. Добра было б, калі б Я. Саламевіч прачытаў свой змястоўны даклад яшчэ раз у клубе Саюза журналістаў.

**М. Кенька** прааналізаваў работу глускай, пастаўскай і кіраўскай раённых газет, адзначыў значнасць асобных публікацый. Разам з тым заўважыў, што да справы прапаганды кнігі на старонках раёнак не прыцягнуты бібліятэкары.

Як краязнаўца, гаворыць **Г. Каханоўскі,** я рэгулярна праглядаю больш за два дзесяткі раённых газет. Уражанне самае рознае. Пераканаўся, што многае залежыць ад рэдактараў, а таксама ад раённага кіраўніцтва. Прыкра, але апошнім часам многія «раёнкі» сталі ўдзяляць менш увагі пытанням мовы, літаратуры, што зразумець проста цяжка. Г. Каханоўскі падтрымаў думку аб неабходнасці цесных кантактаў пісьменнікаў з «раёнкамі», паставіўшы ў прыклад, услед за дакладчыкам, А. Мальдзіса, які ахвотна выступае не толькі ў рэспубліканскіх, саюзных, замежных выданнях, але і ў «Астравецкай праўдзе».

Добра вядзе пытанні літаратуры капыльская газета «Слава працы», сказаў **А. Марціновіч.** Яна рэгулярна рэцэнзуе кнігі землякоў, адзначае іх юбілеі. Найперш прыцягваюць увагу публікацыі мясцовага журналіста У. Гурыновіча, чалавека па-сапраўднаму ўлюбёнага ў родную мову, літаратуру, культуру. Гаворачы пра «Вячэрні Мінск», А. Марціновіч падтрымаў яго пастаянную рубрыку «Прэм'ера кнігі», дзе досыць аператыўна рэцэнзуюцца новыя выданні. Чаму ж, пытае ён, такой рубрыкі не мае «Сельская газета», якая ідзе ледзь не ў кожную вясковую сям'ю? Нават калі б друкаваць па адной рэцэнзіі на тыдзень, дык і то за год будзе прадстаўлена больш за паўсотні кніг.

Раённыя газеты, падкрэсліў **А. Лойка,** павінны дбаць не толькі аб высокіх надоях малака, значных прывагах мяса, а і аб тым, каб даваць нешта для душы чалавека, далучаючы яго да набыткаў культуры. Узнімаць вышэй эстэтычную планку — найпершая задача мясцовых журналістаў.

**В. Чамярыцкі** «перагарнуў» перад прысутнымі падшыўку навагрудскай газеты «Новае жыццё». Яна дае шырокую магчымасць пачаткоўцам выступаць са сваімі творамі (шэсць літаратурных старонак за адзінаццаць месяцаў), адкрыла артыкулам мясцовага краязнаўцы У. Урбановіча «Адам Міцкевіч і Навагрудчына» (ён прываблівае багаццем фактычнага матэрыялу) новую рубрыку «Спадчына», імкнецца знаёміць чытача з лепшымі публікацыямі рэспубліканскага друку (быў перадрукаваны лімаўскі артыкул Б. Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...»). На жаль, заўважыў аглядальнік, няма ў газеце штомесячнай рэкламы беларускіх часопісаў, адсутнічае калонка кнігалюба, рэдкія тут рэцэнзія ці водгук на новую кнігу, творчы партрэт пісьменніка.

Старшыня бюро секцыі крытыкі і літаратуразнаўства **Н. Пашкевіч,** падсумоўваючы вынікі гаворкі, падкрэсліў, як і многія выступаючыя, фактар асабістай ініцыятывы рэдактараў абласных і раённых газет у прапагандзе літаратуры. З удзячнасцю прыгадаў ён колішняга рэдактара талачынскай газеты А. Крушынскага, які ўдзяляў шмат увагі маладым аўтарам. Згадаў Н. Пашкевіч і рэдактара «Віцебскага рабочага» М. Рабава, рускага чалавека, але які добра разумеў запатрабаванні беларускай інтэлігенцыі, падтрымліваў выступленні ў газеце У. Корбана, А. Маўзона. Цяпер жа чамусьці паменела такіх энтузіястаў, знізіўся тонус работы мясцовых газетчыкаў. Таму вельмі слушная думка аб тым, каб пісьменнікі па-зямляцку апякалі сваю абласную, раённую газеты. Па прапанове Н. Пашкевіча была зацверджана група крытыкаў па дапамозе рэдакцыям абласных газет і БЕЛТА ў прапагандзе беларускай літаратуры.

На пасяджэнні была разгледжана творчасць М. Ермаловіча і Я. Саламевіча. Закрытым галасаваннем члены бюро секцыі рэкамендавалі іх для прыёму ў Саюз пісьменнікаў БССР.

**НАШ КАР.**

# А ДУША Ў НАРОДА АДНА

(Пачатак на стар. 13).

спрыяльных умовах адразу прабіваецца на паверхню. Нездарма ж гавораць пра генатып, пра код нацыі, які закладваецца далёкімі продкамі і засцерагае яе ад самаразбурэння. І родная мова ў гэтым генатыпе займае істотнае месца незалежна ад таго, на якой мове прадстаўнік нацыі размаўляе пры тых ці іншых абставінах, той ці іншай уладзе.

Дык ці не пара нам раз і назаўсёды вярнуцца да сваёй спрадвечнай сутнасці і, развіваючы яе, уносіць свой важкі ўклад у духоўнае развіццё чалавецтва? Перакананы, каб не на словах, а на справе адбыўся паварот да ленінскай нацыянальнай палітыкі і пачалося вяртанне беларускай мове яе законных правоў, каб па-беларуску, як у 20-я ленінскія гады, пачаў працаваць дзяржаўны і партыйны апарат, вёсціся выхаванне і выкладанне на ўсіх ступенях адукацыі, калі б мова праз транспарт, рэкламу, гандаль, друк, радыё і тэлебачанне ўвайшла ў наш паўсядзённы побыт, не прайшло б і пяці гадоў, як бы само сабой, на 99,9 вырашылася б пытанне, якую мову беларусы лічаць роднай.

**Але на гэты раз вынікі чакаюцца зусім іншымі і было б наіўна бачыць у гэтым віну толькі так званых апытальнікаў. Над намі яшчэ і сёння вісіць цяжар масавых сталінскіх рэпрэсій, у выніку якіх былі вынішчаны амаль усе нацыянальна свядомыя кадры, а рэшта дэмаралізавана і пастаўлена на калені для ўслужэння чужой волі. Не нашмат лягчэйшымі для беларускай культуры і мовы былі і наступныя дзесяцігоддзі, перыяды так званага валюнтарызму і застою. У апошні з іх, як вядома, на чале ідэалагічнай службы краіны стаяў М. А. Суслаў. Вось як характарызуе ягоную дзейнасць колішні член Палітбюро ЦК КПСС, былы першы сакратар ЦК КПУ П. Я. Шэлест: «Суслаў, на мой погляд, постаць яшчэ не раскрытая. Ён менш прынёс партыі карысці, чым шкоды. Плён яго дзейнасці мы пажынаем і цяпер, у прыватнасці, у гістарычным, ідэалагічным і нацыянальным пытанні. Ён вельмі настойваў на хутчэйшым зліцці нацый, іх моў і культур». («АиФ», 1989, № 2).**

Тыя, хто будзе аналізаваць вынікі перапісу, улічаць, паспадзяёмся, што на адказ пра родную мову актыўна паўплывала і тое, як на працягу дзесяцігодзяў суслаўская прапаганда актыўна апрацоўвала ўсе народы нашай краіны. Адны паддаліся ёй менш, іншыя — больш. Дык не будзем сёння казаць, нібыта людзі самі **добраахвотна** выракаюцца роднай мовы. Цяпер, калі мы ведаем столькі праўды і пра Курапаты, і пра тых, хто тварыў злачынствы самага рознага характару і ў часы Сталіна, і ў часы Брэжнева, пустыя гаворкі пра волевыяўленне народа ўспрымаюцца як самае звычайнае блюзнерства. А тое, што людзі карыстаюцца, вымушаны карыстацца не роднай мовай, яшчэ нічога не кажа пра іх свядомасць, сімпатыі і любоў. Асабіста я ў гэтым пераканаўся, атрымаўшы на свой матэрыял, змешчаны ў восьмым нумары часопіса «Крыніца» («Родник»), звыш двухсот водгукаў. Каля палавіны з іх напісаны на рускай мове, але паглядзелі б вы, колькі ў іх болю і трывогі за незайздросны лёс роднай мовы, як людзі перажываюць з-за таго, што нават у яе абарону не могуць напісаць ліста па-беларуску. Не таму, што не хочуць, а таму, што, пачынаючы са сваіх першых крокаў у садзіку і канчаючы вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, яны былі пазбаўлены магчымасці ведаць сваё, роднае.

Неўзабаве мы атрымаем вынікі перапісу. Давайце іх уважліва вывучым, задумаемся і, зыходзячы з лічбаў, пачнём праводзіць рэальную палітыку, у тым ліку і з вяртаннем народу роднай мовы — гэтага самага дарагога і неацэннага духоўнага скарбу.

Мова — душа народа. Яна ў яго адна, і без душы народа няма.

**„АЛЯКСАНДР Ісачоў належыць да тых унікальных шчасліўцаў, якія пражылі жыццё так, як хацелі». Не магу пагадзіцца з гэтымі словамі, што прагучалі на абмеркаванні выстаўкі мастака летась 15 мая. (Менавіта з гэтай выстаўкі ў мінскім Палацы прафсаюзаў набыло вядомасць імя Аляксандра Ісачова і ўзнік ажыятаж вакол яго). Не думаю, каб нехта хацеў бы так пражыць жыццё і так памерці. Шчаслівец? Чаму ж тады А. Ісачоў, як сведчыць яго брат Канстанцін Анатольевіч, не раз думаў пра самагубства? Але ўсё па парадку...**

# Змарнаваны талент

## ЖЫЦЦЁ І ЛЕГЕНДА АЛЯКСАНДРА ІСАЧОВА

Нарадзіўся Саша ў 1955 г. Калі яму было тры гады, сям'ю пакінуў бацька. Саша нейкі час выхоўваўся ў Мазырскай школе-інтэрнаце. Пасля чацвёртага класа маці завезла хлопчыка, які праявіў здольнасць да малявання ў мастацкай студыі, у Рэспубліканскую школу-інтэрнат імя І. Ахрэмчыка ў Мінск.

Кажуць, што нібыта з мастацкай школы-інтэрната А. Ісачова выключылі «за адно звычайнае свавольства». Аднакласнік Аляксандра Ф. Янушкевіч гаворыць іншае: «Саша шмат разоў самавольна прапускаў заняткі і ўвогуле даваў волю норавам свайго характару». Звяртаю на гэта ўвагу, каб паказаць, як вось з такіх, здавалася б, дробных недакладнасцяў і ствараўся ў канчатковым выніку вельмі аднабаковы вобраз мастака-ахвяры, мастака-пакутніка.

У пятнаццаць гадоў Саша пайшоў працаваць. У шаснаццаць — прыехаў з сябрам у Ленінград да свайго брата Канстанціна. У Ленінградзе далучыўся да групы мастакоў-«мадэрністаў», пазнаёміўся з Г. Міхайлавым. Той прадаставіў маладым мастакам сваю кватэру ў якасці своеасаблівага салона, дзе яны мелі магчымасць выстаўляць карціны, наладжваць дыскусіі. Г. Міхайлаў запрашаў сюды зацікаўленых асоб, найперш замежных. Застоллі аплачваліся з ганарараў за рэалізаваныя карціны.

У 1973 годзе ў Ленінградзе Аляксандра падабралі ў метро ў цяжкім стане, паклалі ў бальніцу. Адтуль яго забрала маці і адвезла дамоў, у Рэчыцу. У 1974 годзе (Ісачову 19 гадоў) ён ажаніўся. 1975—1976 гг. — удзельнічае ў дзвюх выстаўках «нефармальных» мастакоў у Ленінградзе работамі, выкананымі ў манеры, блізкай сюррэалізму. Ажыятажу яны не выклікалі, пакупнікоў не знайшлі.

Па-ранейшаму Аляксандр падтрымліваў сувязі з Г. Міхайлавым. Па-ранейшаму праз гэтага чалавека атрымліваў заказы ад «дзелавых» людзей. (На абмеркаванні выстаўкі А. Ісачова ў Мінску яго брат расказваў, што Г. Міхайлаў пастаянна трымаў мастака ў матэрыяльнай залежнасці, расплачваўся з ім дэфіцытнымі таварамі, японскай апаратурай. Менавіта ў гэтай кампаніі брат прыахвоціўся да наркотыкаў).

Для напісання карцін Аляксандр карыстаўся каляровымі слайдамі, якія рабіў для яго Г. Міхайлаў. Ён жа прыводзіў і натуршчыц, ён жа ўсяляк стымуляваў працу мастака. Каб прымусіць працаваць сваю фантазію, выклікаць галюцынацыі, Аляксандр нюхаў пару фарбавых разбавіцеляў. Менавіта ў гэтым стане пісаліся карціны. Потым, каб зняць страшэнны галаўны боль. яму неабходна было ўжываць алкаголь. Двойчы за кароткі час яму даводзілася праходзіць курс лячэння ў наркалагічным аддзяленні бальніцы.

«Я яму даў усё, што не даў Саюз мастакоў, — славу, грошы, прызнанне» (і дададзім: маральную смерць, — Т. Г.), — выхваляецца Г. Міхайлаў у дакументальным фільме пра А. Ісачова «Не плачце па мне».

У Рэчыцы А. Ісачоў быў асобай прыкметнай. Двойчы да яго, па рэкамендацыі абкома партыі, прыязджалі гомельскія мастакі, але кантакту не атрымалася. Малады мастак ад усялякай дапамогі адмовіўся. Кіраўнікі Гомельскага аддзялення СМ рэкамендавалі аддзелу культуры Рэчыцкага гарвыканкома правесці выстаўку карцін. Думку аб выстаўцы падтрымаў Рэчыцкі гарком партыі. Аляксандру дапамаглі ўладкавацца на працу ў Палацы культуры і тэхнікі, далі мастацкую майстэрню.

У сярэдзіне кастрычніка 1987 года ў Рэчыцы адкрылася экспазіцыя яго твораў. Пабывала на ёй больш за 20 тысяч гледачоў. Адкрыццё выстаўкі супала з публікацыяй у газетах «Звязда» і «Советская Белоруссия» матэрыялаў пра складаны лёс мастака. У тыя ж дні прыйшла сумная вестка пра заўчасную смерць Аляксандра Ісачова.

Амаль тую ж рэчыцкую выстаўку змаглі паглядзець і мінчане. На адкрыцці яе ў Палацы культуры Белсаўпрофа прысутнічала каля 20 чалавек. Але тут з'явіліся газетныя публікацыі, і штодзённая колькасць наведвальнікаў рэзка ўзрасла, пачаўся ажыятаж...

**Вось так у агульных рысах, выглядае гісторыя А. Ісачова. Аўтары большасці газетных публікацый завастралі ўвагу на нетыповасці, на трагічнасці мастакоўскага лёсу, той сітуацыі, у якой апынуўся здольны хлопец з Рэчыцы. Мне ж думаецца, што сітуацыя тут даволі тыповая. Колькі іх, маладых і здольных, марнуюць вось так свой талент у пагоні за хуткай славай. І гэта не толькі іх бяда, але і віна. Бо талент — гэта не толькі «дар божы», але і адказнасць. Старая ісціна: каму шмат дадзена, з таго і спытаецца. І калі творчы лёс мастака склаўся няўдала, дык неабавязкова аб'яўляць яго «ахвярай застою», як гэта робяць аўтары газетных публікацый і стваральнікі фільма «Не плачце па мне». Ва ўсе часы лёс выпрабоўвае людзей на трываласць, на вернасць прызнанню. І ніякі Саюз мастакоў не дапаможа, калі творца не здольны змагацца за самога сябе.**

**Не адзін А. Ісачоў працаваў на замежных спажыўцоў пад спрытным кіраўніцтвам Г. Міхайлава за японскую апаратуру, за абяцанні сусветнай славы, магчымасць «пражыць жыццё так, як хочаш». Потым аказвалася, што зусім іншага хацелася, але моц звычкі і слабасць духу ўжо зрабілі сваю справу...**

**Зноў і зноў прыгадваецца абмеркаванне выстаўкі А. Ісачова ў Мінску. Агульнае ўражанне ад яго — цяжкое. Зала вельмі агрэсіўна сустракала ўсё, што чымсьці было несугучна з агульным настроем прысутных. Былая жонка А. Ісачова ўслых шкадавала, што ажыятаж быў меншы, чым яна разлічвала. Не ведаю, ці ўхваліў бы гэта сам мастак, бо такая «папулярнасць» не прыносіла яму радасці (мяркую па перадсмяротнаму лісту Аляксандра, які мне давялося прачытаць з дазволу Канстанціна Анатольевіча Ісачова).**

У снежні 1987 года я прыязджала ў Рэчыцу на выстаўку А. Ісачова. У зале Дома культуры шмат народу. Гаспадарылі ў зале... «кіношнікі».

Першае ўражанне ад экспазіцыі — неадназначнае. Карціны выразна падзяляюцца на дзве тэматычныя групы: творы з міфалагічнымі сюжэтамі, партрэты сучаснікаў. Выявы на карцінах зліваюцца ў яскравы дэкаратыўны дыван, як бы сатканы з фрагментаў эфектных каляровых рэклам. Усё гэта вельмі нагадвала кадры з так званых «касцюміраваных» фільмаў. Містыка, эротыка і культ рэчаў — вось тыя «тры кіты», на якіх будаваў свой свет А. Ісачоў. Набор умоўна-гістарычных атрыбутаў лёгка пазнае нават не вельмі дасведчаны ў гісторыі матэрыяльнай культуры (і гісторыі ўвогуле) глядач. На маю думку, творы А. Ісачова не патрабуюць ад гледача работы розуму, і менавіта гэта робіць іх папулярнымі сярод пэўнай катэгорыі гледачоў.

Творы, прысвечаныя сучаснікам, — прыхарошаныя твары, манерныя позы, багатае адзенне і, зноў жа, падкрэсленая «прэстыжнасць» рэчаў. Адчуваецца, што партрэты пісаліся па заказу. Праўда, сустракаюцца і спробы заглыбіцца ў вобраз мадэлі. Але, здаецца, яны так і застаюцца спробамі.

Дарэчы, на рэчыцкай выстаўцы разам з жывапісам А. Ісачова экспанаваліся кампазіцыі скульптара Пажарэцкага: «Патоп», «Айсберг», «Тамерлан» і многія іншыя, а таксама ягоныя калажы. Яны прыцягвалі ўвагу зместам і формай. Але чамусьці заўсёды да ўсяго цікаўныя журналісты нават не прыгадалі паказаныя на той жа выстаўцы творы арыгінальнага скульптара. Нікога тады не зацікавіла, адкуль узнікла гэта садружнасць, які лёс другога маладога творцы. Можа, якраз яму трэба і можна чымсьці дапамагчы?

...Раптам «кіношнікі» падышлі да мяне: маўляў, для фільма патрэбен фрагмент размовы на выстаўцы з мастацтвазнаўцам. У імгненне на мяне навялі сафіты, камеру, мікрафон:

— Увага, здымкі! Гаварыце...

— Пра што?

— Аналізуйце, вы ж спецыяліст!..

— Добра... (Я пачала гаварыць аб тым, што адчувала і заўважала, але мяне хутка перапынілі).

— Што вы гаворыце! Ваша задача — хваліць!

— Я магу сказаць толькі тое, што думаю.

Сафіты згаслі, мікрафон скруцілі, «кіношнікі» з незадаволенымі тварамі адышліся. Фільм пад назвай «Не плачце па мне» прайшоў на шырокім экране. Гэта суцэльны панегірык мастаку. Яго даволі спрэчныя ў любым сэнсе работы стваральнікі фільма абвяшчаюць ні многа, ні мала — нацыянальнай спадчынай, якую трэба абавязкова вярнуць беларускаму народу. Тая ж думка і ў публікацыях, прысвечаных фільму: з аднаго боку канстатуецца, што творчасць А. Ісачова яшчэ чакае аб'ектыўнай ацэнкі, прафесійнага аналізу, з другога — што трэба хутчэй вяртаць карціны з-за мяжы! Яго творы ставяць на адзін узровень з шэдэўрамі нацыянальнай культуры, якія прапалі ў час вайны.

**Пры бліжэйшым разглядзе міф пра занядбанага генія, вымушанага прабівацца сам-насам, без усялякай падтрымкі і разумення, крытыкі не вытрымлівае. Не самі ж сабою з'явіліся ў рэспубліканскай прэсе артыкулы пра дасюль нікому ў Беларусі невядомага мастака ў першыя ж дні адкрыцця яго выстаўкі ў Рэчыцы. Зацягнуць мінскага журналіста на выстаўку ў «правінцыю» — заўжды праблема. А тут праз некалькі дзён сюды прыехалі здымаць фільм пра А. Ісачова, які ў сваю чаргу з беспрэцэдэнтнай для Беларусі рэкламай прайшоў па экранах рэспублікі. Хто ведае, як складана ў нас арганізаваць усё гэта без падтрымкі збоку і націску «зверху», зразумее: тут не абышлося без спрытнага прадзюсера. А больш чым 200 твораў, прададзеных за мяжу, — хіба гэта таксама выпадковасць? Гэта прафесійна наладжаная вытворчасць і гандаль. А між тым, апошняя акалічнасць — галоўны аргумент на карысць «геніяльнасці» А. Ісачова для большасці аматараў яго мастацтва: маўляў, людзі з Захаду грошай на вецер не кідаюць...**

**Мастак Аляксандр Ісачоў — асоба неадназначная. Гэта быў апантаны мастацтвам чалавек. У той жа час адсутнасць надзейных духоўных арыенціраў не дала яму магчымасці раскрыць свой талент. Сапраўднае жыццё з яго вечнымі праблемамі і супярэчнасцямі яму замянялі эфектныя слайды і рэпрадукцыі з твораў славутых сюррэалістаў. Як кожны мастак, ён марыў аб духоўнай свабодзе, але, па сутнасці, быў падзёншчыкам, мусіў падладжвацца пад чужы густ, ставіць сваё мастацтва ў залежнасць ад ганарару. Тое, што зробленае А. Ісачовым гледачы ўспрымаюць як адкрыццё, сведчыць пра нашу масавую эстэтычную «непісьменнасць». Гэта лішні раз паказвае, што патрэбна шырокая праграма эстэтычнага выхавання грамадства і дэмакратызацыя мастацкага жыцця. Толькі тады не будзе мастакоў-«пакутнікаў» і гледачоў-ахвяр.**

**Таццяна ГАРАНСКАЯ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Публікацыі, прысвечаныя леташняй выстаўцы твораў А. Ісачова, абышлі амаль усе рэспубліканскія выданні. Па экранах рэспублікі шырока прайшоў фільм «Не плачце па мне», які сабраў вялікую прэсу.

Аднак своеасаблівая «загадка Ісачова» застаецца. Відаць, ніводная з'ява ў выяўленчым мастацтве рэспублікі апошніх гадоў не выклікала такіх спрэчак, такіх палярных ацэнак, як творчасць гэтага мастака.

Хто ж ён быў, Аляксандр Ісачоў? Дылетант, здольны кампілятар ці арыгінальны творца? На гэтыя пытанні адкажа час. Мы ж скончым сваю публікацыю словамі народнага мастака Беларусі, члена рэдкалегіі «ЛіМа» **У. Стальмашонка:** «Мастака ўжо няма. Нам жа трэба асэнсаваць урокі яго жыцця і творчасці. Нам — гэта мастакам Рэчыцы, Гомеля, Ленінграда, Мінска, Міністэрству культуры і Саюзу мастакоў рэспублікі.

Галоўны ўрок — мы павінны быць уважлівымі да маладых талентаў. Бо менавіта сваёй няўвагай мы спрыяем стварэнню легенды аб вялікім пакутніку. Аляксандр Ісачоў сваім мастацтвам высветліў пэўныя грані нашага часу, хоць і звяртаўся да рэалій мінулых эпох. Зробленае Ісачовым уяўляе каштоўнасць як форма творчага самавыяўлення асобы. Калі сціхне ажыятаж вакол яго імя, на адлегласці часу з'явіцца і аб'ектыўная ацэнка яго творчасці».




**З 30 СТУДЗЕНЯ ПА 5 ЛЮТАГА**

**30 студзеня, 19.25**

**«РАДАВОД»**

**Фальклорны відэаканал. Гэта перадача пазнаёміць з беларускімі зімовымі святамі і абрадамі.**

**31 студзеня, 21.50**

**«СПАДЧЫНА»**

**Адкрываецца новы літаратурна-мастацкі цыкл. Першая перадача расказвае пра Бярэсце — унікальны ў славянскім свеце музей-раскопкі жытла старажытных славян. Як жылі тут, на гэтай зямлі, тысячу і болей год назад, у што верылі, чаго баяліся?**

**Вядучая — пісьменніца В. Іпатава.**

**1 лютага, 23.30**

**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ**

**Выступае заслужаны калектыў Малдаўскай ССР акадэмічная харавая капэла «Дойна».**

**Мастацкі кіраўнік і дырыжор — народная артыстка СССР В. Гарніця.**

**3 лютага, 19.40**

**«БУГ»**

**Літаратурна-мастацкі часопіс.**

**Вы наведаеце колішнія ганчарныя цэнтры Пружаншчыны, сустрэнецеся з народным хорам «Золак» Палаца культуры Брэсцкага аблсаўпрофа. Пачне выпуск паэт А. Мінкін.**

**Вядучы — журналіст М. Пракаповіч.**

**4 лютага, 11.15**

**Іграе Дзяржаўны камерны аркестр БССР. У праграме музыка англійскіх кампазітараў Эльгара, Барбера, Ціпета.**

**Дырыжор — А. Палянічка.**

**4 лютага, 23.20**

**СТУДЫЯ «РЭЙ»**

**Музычны відэаканал. Парад папулярных мелодый.**

**5 лютага, 16.45**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

**Вершы народнага паэта Беларусі А. Куляшова чытае артыст В. Манаеў.**

**5 лютага, 16.50**

**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

**Гаворка пойдзе пра адкрыццё ў Беларусі тэатра оперы і балета, філармоніі, утварэння Саюза кампазітараў БССР.**

**Наступная старонка прысвечана творчасці кампазітара А. Мдзівані. На заканчэнне сустрэча з салістам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі М. Скорыкавым.**

**Вядучы — У. Шаліхін.**

**5 лютага, 19.25**

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

**Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага хору БССР імя Цітовіча.**

**Мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Дрынеўскі.**

**5 лютага, 23.25**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

**Інфармацыйна-музычная праграма.**

**«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.**

# «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**Індэкс 63856** П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
**АТ 00041** М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.**